

Літаратура і мастацтва
газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

3 ЛІСТАПАДА 2000г. № 44/4076 КОШТ 105 РУБ.







# Старажоўка



На той момант, як была зліквідавана Рэч Паспалітая і Беларусь трапіла пад расійскую ўладу, Мінск быў горадам пераважна каталіцкім. Менавіта каталіцкія храмы вызначалі ягоны сілуэт. "Праваслаўны" выгляд горад набыў на працягу XIX стагоддзя. Праваслаўным былі перададзены каталіцкія святыні — іх перабудавалі згодна маскоўскім канонам, паўсталі і новыя цэрквы. Цікава, што расійскія архітэктары ў Беларусі будавалі і перабудоўвалі храмы па ўзорах маскоўскага дойлідства XVII стагоддзя. Пазней за гэтымі будынкамі замацавалася назва "мураўёўкі". Адна з іх — Мінская царква Марыі-Магдаліны (1847 г.), што на Старажоўскіх могілках. Саміх могілак ужо няма. Знішчаны ў 60-х гадах нашага стагоддзя. Цяпер тут, так бы мовіць, парк... На могілкавай зямлі ў 50-х гадах пабудавалі кінатэатр (цяпер гэта Маладзёжны тэатр), у 1987 годзе — гасцініцу "Беларусь" (летась перад ёй паставілі помнік Аляксандру Пушкіну). Могілкавы пагорак прарэзала аўтамабільная траса.

У момант стварэння царква Марыі-Магдаліны, мабыць, муляла вока мінчукам сваім "чужаземным" выглядам. Яна ніякім чынам не ўпісвалася ў кантэкст тагачаснай беларускай архітэктуры, канфліктавала з мінскімі готыкай, рэнесансам, барока. Але мінуў час — прызвычаіліся... Тым болей, што царква Марыі-Магдаліны падзяліла лёс краіны і горада. Пасля вайны царкву закрылі, перабудавалі пад архіў, вярнулі будынак праваслаўным вернікам толькі ў 1990 годзе. Зараз царква адбудавана, дзейнічае. Зразумела, што вакол змяніўся ландшафт, змяніўся культурны кантэкст.

Гэтымі зменамі можна абурацца, а можна ставіцца да іх па-філасофску. Зрэшты, перамен без стратаў не бывае...

**П. В.**

*Фота М. ПРУПАСА*



# КОЛА ДЗЁН

***У мінулую нядзелю адбыўся другі тур галасавання па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Ва ўсіх 56 акругах выбары адбыліся. У цэлым па краіне на выбарчыя ўчасткі прыйшлі амаль 53 працэнты выбаршчыкаў. З улікам тых дэпутатаў, якія былі абраны ў першым туры галасавання, у ніжняй палаце цяпер 97 дэпутатаў. Гэтага цалкам дастаткова, каб заканадаўчы орган у новым складзе пачаў сваю работу. Прэзідэнт не мае намеру аказваць націск на дэпутатаў і гатовы нават падзяліцца з імі ўладай. А як яно там будзе — час пакажа... А ўчора ў нашы хаты прыходзілі Дзяды...***

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

По стану на кастрычнік агульны бюджэт рабочых органаў СНД выкананы на 68,6 працэнта. У мінулым годзе бюджэт быў выкананы на 67 працэнтаў. Праўда, некаторыя краіны наогул не пералічваюць грошы ў агульны бюджэт. У мінулым годзе ні капейкі для СНД не дала Малдова, у гэтым годзе — Грузія. Самай дысцыплінаванай, і гэта зразумела, з'яўляецца Расія (без яе б і не было СНД), на долю якой прыходзіцца 50 працэнтаў усіх адлічэнняў. Што тычыцца плацяжоў нашай краіны ў адзіны бюджэт, старшыня Выканкама СНД Ю. Яраў на прэс-канферэнцыі на гэтую тэму гаварыць адмовіўся.

## "КОШЫК" ТЫДНЯ

Амаль кожны месяц у нашай краіне то там, то тут хоць на пару тысяч, але падрастаюць зарплаты. Праўда, і да гэтага даўно амаль усе прывыклі, няўхільна растуць цэны. Так, паводле даных маніторынгу спажывецкага рынку, які быў праведзены сацыяльна-эканамічным аддзелам Федэрацыі прафсаюзаў, з 20 верасня па 20 кастрычніка кошт "стандартнага" набору з 25 асноўных прадуктаў харчавання ў цэлым па краіне павялічыўся на 3,1 працэнта і дасягнуў 27157 рублёў. Аднак кошт "харчовага кошыка" ў гарадах Беларусі не аднолькавы. У Віцебску — 26371 руб., у Брэсце — 25020 руб., Мінску — 33691 руб., у Гомелі — 26676 руб., Гродне — 25319 руб., Магілёве — 25691 руб. Цяпер, гледзячы на лічбы, мяркуйце самі, у якім горадзе жыць весялей...

## ПЛАТА ТЫДНЯ

Амаль два тыдні, прынамсі, у Мінску, у нашых кватэрах цёпла. Цёпла то цёпла, але як гэтае цяпло адаб'ецца на сямейных бюджэтах? — пытанне хвалюе, відаць, кожнага. Толькі сёння ў Мінску налічваецца каля 12 працэнтаў кватэранаймальнікаў, якія не плацяць кватэрплату. Праўда, сярод іх некаторыя не плацілі 3 месяцы, некаторыя 6, а ёсць і такія, якія завінаваціліся перад дзяржавай па кватрплаце за год і нават больш. Дарэчы, у жылых дамах у сярэднім плата за ацяпленне будзе складаць 42,7 працэнта ўсёй кватрплаты. Калі браць І-пакаёвую кватэру (32 кв. м., 2 чалавекі), то ў сярэднім давядзецца заплаціць 1640 рублёў, калі 2-пакаёвую (45 кв. м., 3 чалавекі) — 2308 рублёў, 3-пакаёвую (63 кв. м., 4 чалавекі) — 3231, 4-пакаёвую (83 кв. м., 5 чалавек) — 4528 рублёў. Але гэтыя сумы могуць у любы дзень павялічыцца...

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

1 лістапада споўнілася 50 гадоў "Мінскай праўдзе". Віншуем калег-журналістаў з юбілеем і жадаем і надалей плённа працаваць на карысць нашай Айчыны.

## РЭКАНСТРУКЦЫЯ ТЫДНЯ

У Мінску пачалася рэканструкцыя плошчы Якуба Коласа. Па плану да лета 2001 года на плошчы зноў пачнуць працаваць фантаны, а скульптурная кампазіцыя ў начны час будзе падсвечвацца. Старая плітка на плошчы будзе заменена на новую з умацаванымі блакітнымі каменьчыкамі, якія сімвалізуюць васількі. Да ўсяго будуць пастаўлены новыя вулічныя ліхтары і адрамантаваны 180-метровы падземны пераход. Што ж, еўрапейскаму гораду — еўрапейскі выгляд!

## НАВІНКА ТЫДНЯ

У газетных кіёсках, аддзяленнях сувязі, на перагаворных пунктах з'явіліся новыя тэлефонныя карткі ёмістасцю 500 і 700 тарыфных адзінак. Яны падыходзяць толькі для універсальных гарадскіх таксафонаў, што даюць магчымасць званіць не толькі абанентам у Мінску, але і ў іншых гарадах Беларусі. Карыстаючыся карткай ёмістасцю 500 тарыфных адзінак, можна правесці 10-хвілінную размову з абанентам з Расіі альбо каля 8 хвілін гутарыць з жыхаром любой еўрапейскай краіны. Было б грошы!

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

Не за гарамі зіма. І, як заўсёды, нас чакаюць эпідэміі грыпу. Каб перазімаваць без асаблівых хвароб, Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь планye сёлета закупіць 400 тысяч доз расійскай вакцыны супраць грыпу. Што ж датычыцца самой эпідэміі грыпу, то яе прыход у нашу краіну чакаецца ў студзені—лютым. Але, як бы там ні было, а зіма ў Беларусі не першы год будзе і мы як-небудзь перахварэем і на гэты раз...

## НАПАМІН ТЫДНЯ

Відаць, жыхары нашай краіны, якія, акрамя асноўнай працы, яшчэ там-сям падзарабляюць, каб больш-менш прыстойна жыць, не забыліся, як у пачатку гэтага года стаялі ў чэргах у падатковыя інспекцыі з запоўненымі дэкларацыямі аб сукупным гадавым даходзе, як у друку з'явіўся напамін, што і ў наступным годзе нас чакае той жа клопат. Дэкларацыю аб сукупным гадавым даходзе трэба будзе падаць да 1 сакавіка, а паўторную, удакладненую дэкларацыю да 15 красавіка. З пачатку кастрычніка мінімальнай стаўкай падатку ў памеры 9 працэнтаў абкладаецца сукупны гадавы даход да 652080 рублёў. І калі вы за 2000 год зарабілі не больш гэтай сумы нават на дзесяці працах, то дэкларацыю прадстаўляць у падатковы орган не трэба. Але калі сукупны гадавы даход будзе ў межах ад 652081 рубля да 1630200 рублёў, тады падатак будзе павялічаны да 15 працэнтаў. Пры сукупным гадавым даходзе ад 1630201 рубля да 2282280 рублёў сума падатку складзе 205405 рублёў плюс 20 працэнтаў ад сумы, якая перавышае 1630200 рублёў. Наступная стаўка падатку — 335821 рубель плюс 25 працэнтаў ад сумы, якая перавышае 2282280 рублёў, дзейнічае, калі даход не дасягае 2934360 рублёў. Самая вялікая сума падатку дзейнічае, калі сукупны даход за год будзе складаць 2934361 рубель і вышэй — 498841 рубель плюс 30 працэнтаў ад сумы, якая перавышае 2934360 рублёў. Усё гэта зразумела. Але хто прыдумаў-вылічыў сукупны гадавы даход у памеры 652080 рублёў? Няўжо за гэтыя грошы на сённяшні дзень можна жыць нармальна аднаму чалавеку, не гаворачы ўжо, калі ў сям'і двое, а то і трое дзяцей? І ўсё ж, як кажуць, наверсе відней...

## ТРАЛЕЙБУС ТЫДНЯ

Жыхары Мінска, відаць, даўно заўважылі, што на вуліцах горада хоць зрэдку, але можна ўбачыць новыя тралейбусы, зробленыя ў нашай краіне. Да ўсяго на вытворчым аб'яднанні "Белкамунмаш" завершана зборка доследнага ўзору тралейбуса мадэлі 321. Машына разлічана на перавозку 109 пасажыраў і мае 28 месцаў для сядзення. Новы тралейбус адпраўлены ў Рыгу на выпрабавальны тэрмін. Калі рыжскія выпрабаванні пройдуць як след, заказчыкі маюць планы купіць у нас яшчэ 15—25 машын маркі "Белкамунмаш".

**ВІНШУЕМ!**

## Івану НАВУМЕНКУ — ордэн Айчыны

За вялікі асабісты ўклад у развіццё нацыянальнай літаратуры, актыўную навуковую і грамадскую дзейнасць Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі акадэмік Навуменка Іван Якаўлевіч узнагароджаны ордэнам Айчыны III ступені.

Ад усяго сэрца віншуем Івана Якаўлевіча з гэтай высокай дзяржаўнай узнагародай і жадаем яму надалей заставацца ў актыўным жыццёвым, навуковым і творчым страі!

# Сербы шануюць Чароту

У XXXVII Бялградскай міжнароднай сустрэчы пісьменнікаў (БМСП), якая праходзіла 19—25 кастрычніка г.г., браў удзел старшыня бюро секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязяў Саюза беларускіх пісьменнікаў Іван Чарота.

Значныя заслугі І. Чароты ў перакладзе, распаўсюджванні і вывучэнні сербскай літаратуры адзначаны Граматай удзячнасці Саюза пісьменнікаў Сербіі, а таксама карцінай, якія былі ўручаны беларускаму літаратару пры адкрыцці форуму.

За ўклад у развіццё югаслаўска-беларускіх літаратурных узаемадачыненняў прафесару Чароту прысуджана, акрамя таго, спецыяльная прэмія часопіса "Збиља/Reality" (па-беларуску: "Сапраўднасць").

25 кастрычніка ў перапоўненай сербскімі і замежнымі літаратарамі актавай зале Саюза пісьменнікаў Сербіі прайшоў вечар, на якім уручалася гэтая прэмія і праходзіла прэзентацыя новай кнігі І. Чароты — "Анталогіі лірыкі ўсходніх славян", літаральна напярэдадні выпушчанай выдавецтвам "Rivel Ko". Змест кнігі склалі вершы беларускіх, рускіх і ўкраінскіх паэтаў на мове арыгінала і ў перакладах на сербскую мову, выкананых самім І. Чаротам. Пра неардынарную анталогію і аўтара яе гаварылі вядомыя пісьменнікі, крытыкі, літаратуразнаўцы Сербіі і замежжа, змешчаныя ў прэзэнтаваным выданні творы чыталі слынныя артысткі Алена і Івана Жыгон.



Ганаровымі гасцямі гэтага мерапрыемства, якое прыцягнула ўвагу многіх сродкаў інфармацыі, былі беларуская дыпламаты на чале з Паўнамоцным паслом РБ у СРЮ Валерыем Брылёвым.

**У. І.**

*На здымку: старшыня Саюза пісьменнікаў Сербіі Слабадан РАКІЦІЧ уручае ўзнагароду Івану ЧАРОТУ.*

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Праблемам патрыятычнага выхавання і дзіцячай літаратуры быў прысвечаны "круглы стол", у якім узялі ўдзел намеснік міністра адукацыі, доктар педагагічных навук Алег Слука, начальнік гуманітарнага аддзела Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі Алена Троцкая, кандыдат філалагічных навук Маргарыта Яфімава, сябры Саюза пісьменнікаў. Падчас працяглай гутаркі і абмену думкамі ўдзельнікі пасяджэння падкрэслілі, што неабходна прыкласці ўсе намаганні з мэтай належнага выхавання моладзі ў традыцыях адданасці радзіме.

●

Кожны панядзелак а 18-й гадзіне ў Доме літаратара адбываецца пасяджэнне творчага аб'яднання "Літаратар", якім шмат гадоў кіруе Алесь Масарэнка. Маладыя аўтары маюць магчымасць пачытаць свае вершы і прозу, абмяняцца думкамі, выказаць уласныя меркаванні.

**М. Р.**

●

Творчасці маладых была прысвечана вечарына ў Доме літаратара, на якую сабралася літаратурная моладзь, навучэнцы школ і тэхнікумаў сталіцы, студэнты ВНУ.

У своеасаблівай пераклічцы бралі ўдзел выхаванцы літаб'яднання пры Саюзе пісьменнікаў, якім кіруе Алесь Масарэнка, а таксама "бумбамлітаўцы", без якіх сёння практычна не адкрываецца ніводная літаратурная імпрэза такога кшталту.

У разнастайнай і шматколернай літаратурнай пераклічцы было ўсё: і шчырыя, прасякнутыя глыбокім лірызмам вершы Вольгі Базылёвай, Валерыі Куставай, Алесі Серады, Таццяны Сямірскай, гратэск і гумар Аляксандра Пораха, майстэрства Віктара Слінко і Вячаслава Корбута, наіў і непасрэднасць Анастасіі Данільчанкі, артыстызм Сяргея Патаранскага, пачварны і не надта эстэтычны натуралізм Віктара Жыбуля і Усевалада Гарачкі, эпатаж Зміцера Вішнёва, — зрэшты, усё, чым вызначаецца сённяшняя "новая плынь" літаратуры. І ўражанне ў гледачоў было адпаведнае — ад захаплення да агіды.

Тым не менш, вечарына паказала шчырую зацікаўленасць СБП у выхаванні маладой змены і імкненне клапаціцца пра станаўленне юных талентаў.

**Н. К.**

**ПРЭЗЕНТАЦЫІ**

# Казачная сіметрыя ў душы

***Выцінанка, як від беларускага народнага мастацтва, перажыла за апошнія гады некалькі этапаў і ўзлётаў у сваім развіцці: ад недасканалых папяровых упрыгожванняў ужытковага характару да сённяшніх кампазіцыйнай ды сюжэтнай завершанасці мастацкіх палотнаў, выробленых з паперы з дапамогай нажніц ды мастацкага густу.***

Па сутнасці, народная выцінанка на сучасным этапе яе развіцця як галіны дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ўжо шчыльна мяжуе з традыцыйнымі відамі выяўленчага мастацтва — у прыватнасці, з графікай. Гэткая тэндэнцыя можа падацца як уплыў на народную творчасць прафесійнага мастацтва. Але гэта не зусім так: народныя майстры выцінанкі ўжо ў 60—70-ыя гады ішлі па шляху ўскладнення тэхнікі і тэхналогіі вырабу, пашыралі сюжэтную разнастайнасць сваіх папяровых твораў. Пра тое сведчыць, напрыклад, калекцыя выцінанак народнага майстра М. Варанецкага, якая захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры ў Мінску.

Адным з майстроў, хто вывеў тэхніку выцінанкі на новы мастацка-эстэтычны ўзровень, па праву называюць Вячаслава Дубінку. Менавіта яго альбом "Вячаслаў Дубінка. Выцінанкі" не так даўно пабачыў свет і адразу стаў жаданым здабыткам аматараў народнай творчасці беларусаў.





Пад адной вокладкай сабрана 20 рознакаляровых аркушаў паперы з адбіткамі выцінанак В. Дубінкі. У выданні таксама чытач можа пазнаёміцца з аўтабіяграфічным нарысам "Пра сябе", энцыклапедычным артыкулам доктара мастацтвазнаўства Яўгена Сахуты "Пра Дубінку і выцінанку", а таксама з каталогам альбома.

З прадстаўленых у альбоме твораў бачна, што Вячаслаў Дубінка, як сапраўдны майстар сваёй справы, віртуозна валодае ўсімі відамі кампазіцыйнай пабудовы выцінанак — замкнёнай ("Сьняжынкі"), рапортнай ("Птушнік") і сіметрычнай ("Узор ля прасьніцы"). Але з альбома бачна, што майстар аддае перавагу менавіта сіметрычнай выцінанцы, якая найбольш пашырана была ў народным побыце (калекцыя М. Варанецкага).

У творах В. Дубінкі самым невераогодным чынам і, у той жа час, з вялікім густам пераплятаюцца геаметрычныя і раслінныя ўзоры, зааморфныя ("Лось") і антрапаморфныя матывы. Ёсць у альбоме і чорна-белыя ("графічныя") і рознакаляровыя размаляваныя выцінанкі. Але як адзначае доктар мастацтвазнаўства Яўген Сахута: "Усё ж заўважаецца: куды б ні заносілі аўтара творчыя памкненні, ён зноў і зноў вяртаецца да вядомага, апрабаванага часам "класічнага" сюжэта з "дрэвам жыцця". Гэтае дрэва можаператварыцца і ў кветку, і ў вазон, і ў казачны букет... Стварэцца ўражанне яркай дэкаратыўнасці, жыццярадаснай шматфарбнасці..."

Нездарма ж выцінанкі Вячаслава Дубінкі выкарыстоўваліся для упрыгожвання шматлікіх беларускіх кніг, паштовак, канвертаў, календароў. У В. Дубінкі ёсць нават выцінанка для азда(б)лення канверта для грамафоннай кружэлкі (1960 г.). З таго часу вінілавыя дыскі саступілі месца лічбавым кампакт-дыскам, але ідзя афармляць іх з дапамогай выцінанак застаецца вельмі прывабнай ды прадуктыўнай з мастацкага пункту гледжання.

Хочацца дадаць, што альбом "Вячаслаў Дубінка. Выцінанкі" выдадзены такім тыражом, што, на жаль, не зможа патрапіць у зборы ўсіх аматараў беларускіх папяровых карункаў. Але выданне, безумоўна, будзе спрыяць павелічэнню цікавасць да гэтага віду народнай творчасці — беларускай выцінанкі.

**А. МІТРАНОВІЧ**

ПАДЗЕІ

# "Зорка Венера" з турэцкім акцэнтам

***Зусім нядаўна музычнае мастацтва Турцыі здавалася нам нейкім неспазнаным экзатычным феноменам. Сёння ж можна гаварыць пра імклівае і плённае развіццё турэцка-беларускіх музычных стасункаў, якое адбываецца дзякуючы актыўнай дзейнасці пасла Рэспублікі Турцыя ў нашай краіне Шуле Сойсал.***

Згадайма вось такія факты. Ужо двойчы выступала ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі выдатная турэцкая флейтыстка Шэфіка Кутлуэр, прычым, сёлетні візіт у Мінск быў азнаменаваны падрыхтоўкай сумеснай праграмы з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам Пятра Вандзілоўскага, у выкананні якога мы ўпершыню пачулі і сучасную музыку далёкай краіны. Паспяхова прайшлі выступленні Полацкага камернага хору пад кіраўніцтвам Людмілы Жукавай на фестывалях у Турцыі, што было адзначана падзякай вышэйшага кіраўніцтва. Гэтым летам маладая салістка нашага Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Алена Сало заваявала 1-ю прэмію Міжнароднага конкурсу спевакоў Лейлы Генжар у Стамбуле, дзе і яшчэ дзве беларускія вакалісткі атрымалі ганаровыя конкурсныя ўзнагароды...

І вось — першы турэцка-беларускі канцэрт у Мінску. Гэтая імпрэза была прымеркавана да 77-й гадавіны абвяшчэння Рэспублікі Турцыя, сталася прыгожай і запамінальнай падзеяй, пацвердзіўшы вядомую выснову наконт высокай дыпламатычнай місіі культуры, мастацтва, Музыкі.

Перад вялікай прадстаўнічай аўдыторыяй сталічнай філармоніі выступілі пасол Турцыі сп. Шуле Сойсал і віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь міністр замежных спраў Урал Латыпаў. У афіцыйных прамовах гаварылася пра значныя падзеі, што адбыліся апошнім часам у жыцці Турцыі, у турэцка-беларускіх двухбаковых адносінах, якімі даражаць нашы краіны. Візіт у Турцыю міністра культуры РБ А. Сасноўскага, які мае адбыцца ў бліжэйшы час, таксама паспрыяе ўмацаванню дружалюбных кантактаў.

У той вечар, дзякуючы змястоўнай анатацыі да канцэртнай праграмы, мы атрымалі своеасаблівы экскурс у гісторыю развіцця турэцкай музыкі, пазнаёміліся з некаторымі яе жанравымі, стылёвымі асаблівасцямі. А што ж было на сцэне?

Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра П. Вандзілоўскага падрыхтаваў некалькі класічных партытур: уверцюру з оперы В. А. Моцарта "Выкраданне з сераля", фінал яго ж Рэ мажорнага Дывертысмента, фінал "Струннай серэнады" П. Чайкоўскага, Allegro vivace з До мажорнага канцэрта для віяланчэлі з аркестрам Ё. Гайдна. Саліраваў вядомы беларускі музыкант Алег Алоўнікаў.

Ён, дарэчы, зрабіў на пачатку праграмы сапраўдны сюрпрыз, выканаўшы ўласную п'есу "Усходні матыў". Цікава, што падчас гучання гэтых арыентальных варыяцый з-за куліс нечакана выйшлі двое музыкаў у акадэмічных строях, але з экзатычнымі інструментамі і пачалі ўладкоўвацца побач з віяланчэлістам. Наступным нумарам мелася быць іх выступленне: няўжо гэтак паспяшаліся на сцэну? Аднак праз некалькі хвілін яны — Азіз Шанол Філіз ды Бірол Яйла — ужо гралі трыо разам з А. Алоўнікавым, улучыўшы ў ягоную п'есу галасы гітары ды экзатычнай трысняговай флейты — нэй!

Потым нашы турэцкія госці гралі дуэтам, спалучаючы нэй з гітарай, з турэцкім шчыпковым інструментам тамбурам, з гучаннем голасу. Выконваліся традыцыйныя матывы, песні — ад XIV да XX ст. Аўтарскія ўзоры сённяшнай турэцкай музыкі былі прадстаўлены кампазіцыямі Б. Яйлы "Дзверы ў таямніцу" і "Фасфарычнае свячэнне мора", дзе ўсходнія інтанацыі спалучыліся з еўрапейскай традыцыяй і дзе дуэт гасцей аздобіў іх мінскі калега А. Алоўнікаў, далучыўшыся да выканання адной з кампазіцый.

А яшчэ гучалі песні ў выкананні чароўнай Алены Сало: беларускія, турэцкія... Завяршаўся канцэрт сюрпрызам: калі на сцэне сабраліся ўсе яго ўдзельнікі, узышла... "Зорка Венера". У суправаджэнні аркестра спявала А. Сало, віяланчэльны кантрапункт "выводзіў" А. Алоўнікаў, свае каларытныя інструментальныя імправізацыі ўплялі ў музычную канву турэцкія артысты — А. Ш. Філіз ды Б. Яйла...

У філарманічным фае ў той вечар была разгорнута выстаўка аднаго з вядучых фотамастакоў Турцыі Ара Гюлера. А Зала камернай музыкі, што на Залатой Горцы, рыхтавалася да канцэрта турэцкага дуэта, які меў адбыцца наступным вечарам.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

ВЫСТАВЫ

# Яе прызванне — габелен

Складанае і ў той жа час святочнае мастацтва габелена Таццяна Белавусава-Пятроўская рэалізавала спаўна. Вось ужо больш за дваццаць год яна працуе ў гэтай тэхніцы. З задавальненнем мастачка займаецца манументальным габеленам, ствараючы тэатральныя заслоны, пано ў інтэр'ерах гатэляў. Але, думаецца, яе невялікія выставачныя работы не менш удалыя. Яны надзвычай сакавітыя ў колеры, дынамічныя і імпульсіўныя, у іх адчуваецца жаночая вытанчанасць і прывабнасць. Мастачка ў кожнай новай рабоце знаходзіцца ў пошуку, яна засвойвае новыя матывы, цікавіцца супрэматызмам, складае геаметрычныя кампазіцыі. На яе персанальнай выставе, што адкрылася да юбілею Таццяны ў Нацыянальнай мастацкай галерэі, кідаюцца ў вочы фантазійныя кампазіцыі з тканіны, нітак, розных прыгожых дробязяў. Працавітасць мастачкі зайздросная. Дый гэта і невыпадкова, прага да мастацтва выхавана ў яе з дзяцінства бацькам, скульптарам Паўлам Белавусавым.

**Н. Ш.**





*На здымках: мастачка Т. БЕЛАВУСАВА-ПЯТРОЎСКАЯ з братам Алегам. Габелен "Рыбкі".*

*Фота М. ПРУПАСА*

# Лістапад прысвячаецца Караткевічу

"Скарынаўскае брацтва" пры Навукова-асветным цэнтры імя Францішка Скарыны абвясціла лістапад месяцам памяці класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча. 26 лістапада яму споўнілася б 70 гадоў. Месячнік будзе ўяўляць сабой шэраг мастацка-літаратурных ушанавальных акцый. Першая з іх адбылася на мінулым тыдні. У Скарынаўскім цэнтры прэзентавалі кнігу "Уладзімір Караткевіч і яго творчасць у сусветным культурным аспекце". Выдадзеная яна невялікім накладам — усяго 300 асобнікаў. У гэтым зборніку змешчаны матэрыялы з прысвечанай Уладзіміру Караткевічу навукова-практычнай канферэнцыі, што адбылася ў 1995 годзе ў Оршы, на радзіме пісьменніка. Разам з тым сюды ўвайшлі артыкулы пра У. Караткевіча сяброў, калег па пяры і крытыкаў, а таксама фотаздымкі, лісты і малюнкі (як вядома, Караткевіч няблага маляваў).

Да дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча выдавецтва "Беларускі кнігазбор" першай кнігай новай серыі "Беларускі гістарычны раман" збіраецца выдаць менавіта ягоны раман "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". У бібліятэцы Акадэміі навук пройдуць літаратурныя чытанні і выставы малюнкаў і чарнавікоў пісьменніка. У кінатэатры "Змена" пакажуць кінастужкі, знятыя паводле твораў У. Караткевіча.

Нарэшце, у Оршы 26 лістапада ў будынку былога радзільнага дома, дзе У. Караткевіч з'явіўся на свет, будзе адкрыты ягоны музей. Сюды перавязуць з Мінска асабістыя рэчы і бібліятэку пісьменніка.

**Кірыла ПАЗНЯК**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Абмеркаванне рукапісу

Згадзіцеся, вельмі рэдкая з'ява, калі прафесійныя пісьменнікі выносяць на суд чытачоў неапубліканы твор. Якраз гэта адбылося ў літаратурна-мастацкім салоне "Сустрэчы на Замкавай", які існуе пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Герцэна і аб'ядноўвае творчую інтэлігенцыю горада.

Анатоль Бароўскі, аўтар трох кніжак прозы, трымаў творчую справаздачу па сваёй новай аповесці "Сцеражыся майго гневу". А. Бароўскі — прыхільнік філасофскай прозы. Адчуваецца, што ў яго творах жыццё герояў не надуманае, а натуральнае сваёй быційнай сутнасцю. Празаік, які жыве на Палессі, валодае дарам ствараць дзівосныя карункі мастацкіх апісанняў прыроды, чалавечых пачуццяў.

Госці салона — Ю. Фатнеў, галоўны рэдактар часопіса "Палессе", Р. Андрэявец, С. Хаменя, З. Паўлавец, К. Салавей — выказалі свае меркаванні пра твор і пажадалі аўтару больш глыбокага пранікнення ў сутнасць спрадвечнага змагання дабра і зла. Агульная думка была такой: новая аповесць пісьменніка павінна быць надрукавана.

**Наталля МАЛАШЭНКА**

## Каледж талентаў

У Гомелі існуе вядомы на ўсю краіну музычна-педагагічны каледж, якому сёлета спаўняецца 85 гадоў з дня заснавання. Тут падрыхтаваны тысячы спецыялістаў у сферы культуры і адукацыі. Адсюль выйшлі вядомыя ў Беларусі кампазітары і артысты. Каледж славіцца сваімі творчымі набыткамі і па сёння. Многія ягоныя навучэнцы паспяхова выступаюць у рэспубліканскіх і міжнародных імпрэзах. Нядаўна ў Гомельскім музычна-педагагічным каледжы адкрылася галерэя беларускіх пісьменнікаў, выпускаецца насценная літаратурная газета.

## У цырку — новая праграма

У Гомельскім дзяржаўным цырку ідзе новая праграма. Ставіць яе Маскоўскі цырк звяроў "Цыркавыя зоркі 21 стагоддзя". Яна ўключае ў сябе атракцыёны "Пацехі мядзведзяў" і "Забаўныя малпачкі", выступленні фокуснікаў, эквілібрыстаў і іншых майстроў цыркавой сцэны.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## На адраджэнне мінулага Аршаншчыны

Нядаўна пабачылі свет другі том гістарычнай хронікі "Орша. Аршанскі раён" і краязнаўчы зборнік "Мой родны кут — Аршаншчына". Аб праблемах выхавання багатай гісторыка-культурнай спадчыны рэгіёна ішла гаворка на выязным пасяджэнні Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў. Найбольш актуальныя зараз працэс фарміравання гістарычнага цэнтра Оршы, адраджэнне Куцеінскага манастыра і рэстаўрацыя Трэнітарскага кляштара. Вырашана пры падрыхтоўцы абласнога бюджэту на 2001 год улічыць прапановы аршанскіх улада аб фінансаванні работ па рэстаўрацыі помнікаў мінулага.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Кнігу Геніюш прэзентавалі магіляўчанам

У Магілёўскім абласным ліцэі пры Магілёўскім дзяржаўным універсітэце адбылася прэзентацыя кнігі выбраных твораў беларускай паэткі Ларысы Геніюш, выпушчанай выдавецтвам "Беларускі кнігазбор". На прэзентацыю зборніка прыехалі паэт Міхась Скобла і гісторык-літаратар Міхась Чарняўскі.

## Круглянскі конкурс

На Кругляншчыне ўжо пятым разам праходзіў абласны конкурс аркестраў і ансамбляў народных інструментаў. Сюды з'ехаўся 21 калектыў з амаль усіх куткоў вобласці. Узровень майстэрства конкурсантаў ацэньвала прадстаўнічае журы на чале з дырэктарам Магілёўскага музычнага вучылішча Анатолем Кірэйчанкам. Лепшым сярод аркестраў стаў калектыў Бабруйскага гарадскога Дома культуры, а сярод ансамбляў — Шклоўскі ансамбль народных інструментаў.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Юбілей з фотаапаратам

Аляксандр Ласмінскі — чалавек у Гродне вядомы. І не толькі таму, што тэлежурналістаў ведаюць у твар. За апошнія дзесяцігоддзе ў горадзе не адбылося ніводнай значнай імпрэзы, да якой ён хоць бы нейкім чынам не меў асабістага дачынення. Як тэлерэпарцёр, каб паведаміць пра падзею шырокаму колу гледачоў, як фотамастак, што спыняе і занатоўвае цудоўныя імгненні ў здымках, як кіраўнік фотаклуба "Гродна" і арганізатар шматлікіх выстаў, якія ўпрыгожваюць большасць фестываляў, святаў і іншых мерапрыемстваў ад гарадскога да рэспубліканскага маштабу, што адбываюцца ў Гродне.

А часцей за ўсё ў трох гэтых якасцях адначасова, што кожны раз прыемна здзіўляешся і па-добраму зайздросціш ягонай няўрымслівай натуры. Менавіта такім — актыўным і захопленым, поўным ідэй і планаў — быў Аляксандр Ласмінскі і на прэзентацыі сваёй новай персанальнай выставы, прымеркаванай да яго 50-гадовага юбілею. Днямі яна адкрылася ў Сенатарскай зале Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея.

Юбілейная выстава прысвечана возеру Свіцязь. Фотамайстар даў ёй рамантычную, нават крыху сентыментальную назву — "Маё замілаванне". Гледачы атрымалі магчымасць убачыць зусім іншага Ласмінскага — чалавека тонкага душэўнага кшталту, які ўмее адчуваць прыроду і радавацца ў ёй, які цэніць адзіноту і магчымасць пабыць сам-насам са сваімі думкамі. І гэтая творчая адзінота, якая часамі патрэбная кожнаму з нас, дае плён.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

# Яўрэі на ніве беларускай культуры

Леанід ЛЫЧ

***У артыкуле Леаніда Лыча ў нашай газеце (16 красавіка 1999г.) "І непадуладныя асіміляцыі... Беларусізацыя і яўрэі" вялася гаворка пра пазітыўны ўплыў дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі на культурнае развіццё самай шматлікай тагачаснай этнічнай супольнасці нашай краіны — яўрэйскай. У гэтым артыкуле — працяг аповеду пра беларусізацыю і яўрэяў, толькі ўжо ў іншым і, як пераканаецца чытач, у не менш важным кірунку.***

Сур'ёзныя клопаты і ўвага дзяржавы, грамадства да яўрэйскай культуры спрыялі таму, што яе перадавыя, па-інтэрнацыяналісцку настроеныя носьбіты, найперш інтэлігенцыя, самым добразычлівым чынам ставіліся да ідэі беларусізацыі. На выбар такой пазіцыі, несумненна, рабіла ўплыў сама палітыка дзяржавы і партыі ў пытаннях беларусізацыі. Яны не лічылі, што апошняя з'яўляецца справай рук толькі саміх беларусаў. Так, у рэзалюцыі пленума ЦК КП(б)Б (25—29 студзеня 1925 г.) па дакладзе "Чарговыя задачы КП(б)Б у нацыянальнай палітыцы" быў такі пункт: "Шырока ўцягваць у будаўніцтва беларускай культуры камуністаў, што вывучылі беларускую мову і асаблівасці краю, небеларусаў па нацыянальнасці". Такіх небеларусаў па нацыянальнасці было нямала сярод яўрэяў. Не трэба забывацца, што пераважная большасць яўрэяў жыла ў мястэчках, у якіх, не ў прыклад гарадам, былі вельмі моцныя беларускія нацыянальна-духоўныя традыцыі. А яшчэ мацнейшымі яны былі ў навакольных вёсках. У такіх умовах яўрэям не было аніякай цяжкасці авалодаць беларускай мовай, разумець усе вартасці беларускай нацыянальнай культуры.

Прагрэсіўную пазіцыю па пытанні беларусізацыі выказаў на старонках часопіса "Полымя" (1928, N 1) А. Каплан: "...нам катэгарычна трэба заганіць байкі аб тым, што справу будаўніцтва беларускае культуры трэба даручыць толькі беларусам. Кожны камуніст, якой бы ён ні быў нацыянальнасці, павінен гэтай справай займацца, зусім зразумела, у рамках, адведзеных яму яго культурным узроўнем".

І такой справай сапраўды займаліся, прычым не пад прымусам, а зусім добраахвотна, прадстаўнікі навуковай і мастацкай яўрэйскай інтэлігенцыі. Многія з іх сваю энергію і талент аддавалі беларускай культуры, ніколькі не грэбуючы пры гэтым сваімі нацыянальнымі інтарэсамі. Гэтыя людзі проста лічылі, што на пэўнай дзялцы беларускай культуры яны змогуць зрабіць куды больш карыснага для агульнай справы рэспублікі, чым калі будуць працаваць толькі ў рамках сваёй нацыянальнай культуры. Трэба сказаць, што з усіх нацыянальных меншасцяў менавіта ў яўрэяў гэтая сфера дзейнасці найлепш была забяспечана прафесійна падрыхтаванымі кадрамі. Таму яна не зведвала асаблівых цяжкасцяў у сваім развіцці, калі пэўная частка такіх людзей пачынала працаваць на карысць беларускай, рускай, польскай ці яшчэ якой-небудзь нацыянальнай культуры БССР.

Неацэнную карысць беларускай літаратуры прынёс Змітрок Бядуля. Ён змалку жыў у тым асяроддзі, дзе сярод мясцовага насельніцтва непадзельна панавала беларуская мова. У першы перыяд беларусізацыі выйшлі з друку яго зборнік "Буралом" (1925), "Паэмы" і аповесць "Салавей" (1928), аповесці "Год за годам" і "Таварыш Мінкін" (1930); з 1928 г. З. Бядуля пачаў пісаць раман "Язэп Крушынскі", які закончыў у 1932 г.

Нямала сярод яўрэйскіх літаратараў было і асоб, што займаліся перакладамі з замежных моў на беларускую. У прыватнасці, музыказнавец, публіцыст і перакладчык Юльян Дрэйзін пераклаў шэраг лібрэта класічных опер, твораў антычных аўтараў, у т. л. "Антыгону" Сафокла.

Папулярнымі ў беларускага чытача былі выдадзеныя на яго роднай мове біяграфічныя кнігі Уры Фінкеля (нарадзіўся ў мястэчку Ракаў) пра класікаў яўрэйскай літаратуры — "Шолам-Алейхем" (1939), "Мендэле Мойхер-Сфорым" (1940). Ёсць у яго і літаратуразнаўчыя артыкулы пра Я. Купалу, Я. Коласа, З. Бядулю.

Жывучы і працуючы на Беларусі, яўрэйскія пісьменнікі проста не маглі не прысвячаць свае творы гэтаму краю. Прычым, пісалі не толькі пра саміх яўрэяў, але і пра беларусаў, рускіх, палякаў і іншых, для каго ён з'яўляўся родным домам. Мясцовая тэматыка заўсёды пераважала ў творах Моты Дзегцяра (1909—1939), пра што сведчаць ужо іх назвы: "На рыштаваннях" (1934), "Савецкая Беларусь" (1935), "Будаўнікі" (1936), "Верныя вартавыя" (1939), "Наша зямля" (1939). Апошнія дзве кнігі выйшлі з друку, калі іх аўтар служыў у Чырвонай Арміі. Загінуў М. Дзягцяр у лістападзе 1939 г. каля фінскай мяжы.

Майстры яўрэйскага мастацкага слова служылі беларускай справе яшчэ і тым, што на сваю мову (ідыш) яны рэгулярна перакладалі творы беларускіх празаікаў і паэтаў. Дзякуючы стараням Зэліка Аксельрода (1904—1941), яўрэйскія чытачы атрымалі на мове ідыш кнігу выбраных вершаў Я. Купалы (1936), займелі магчымасць пазнаёміцца з паэмай П. Броўкі "Прамова фактамі" (у кнізе "Паэзія БелАПП", 1931).

Як вядома, ва ўсе часы любімым традыцыйным прафесійным заняткам беларускіх яўрэяў з'яўлялася музыка. У міжваенны перыяд многія з іх працавалі на карысць беларускага музычнага мастацтва. У першую чаргу варта назваць выпускніка Беларускай кансерваторыі па класе Васіля Залатарова Міхаіла Крошнера. Ён напісаў музыку для першага беларускага нацыянальнага балета "Салавей" паводле аднайменнай аповесці Змітрака Бядулі. Дарэчы будзе сказаць, што ў ролі Сымона ў спектаклі выступаў ужо добра вядомы на той час танцоўшчык яўрэй Сямён Дрэчын. М. Крошнер з'яўляецца аўтарам музычнага твора "Беларускіх сімфанічных твораў" (1937), шэрагу рамансаў на словы Я. Купалы і Я. Коласа, займаўся апрацоўкай беларускіх народных песень.

Прыкметны след у беларускім нацыянальным музычным жыцці міжваеннага перыяду пакінуў выпускнік Беларускага музычнага тэхнікума кампазітар Ісак Любан. Свой прафесійны шлях у гэтым жанры творчай дзейнасці ён пачаў з пасады мастацкага кіраўніка музычнага вяшчання Беларускага радыё, а ў 1937—1941 гг. з'яўляўся мастацкім кіраўніком Ансамбля беларускай народнай песні і танца. Асаблівую папулярнасць прынесла яму песня на словы Адама Русака "Бывайце здаровы", якая не раз гучала на Маскоўскім радыё, выконвалася ў час канцэртаў у многіх гарадах СССР.

Плённа працаваў, прычым адразу на двух напрамках — яўрэйскім і беларускім, — кампазітар Самуіл Палонскі. У Мінск ён прыехаў у 1928 г., спачатку працаваў мастацкім кіраўніком яўрэйскага вакальнага ансамбля, а затым хормайстрам капэлы Беларускай філармоніі. Найбольшую вядомасць у нашым краі прынеслі яму харавая песня "Вечарынка ў калгасе" на словы Янкі Купалы, п'еса для аркестра беларускіх народных інструментаў "Кірмаш", аперэта "Зарэчны барак" (пастаўлена ў 1940 г.).

Шэраг песень і рамансаў на словы Я. Купалы напісаў Товія Шнітман (1871—1942), у т.л. "Мая жонка", "Паляці, мая мысль" і "Буду пець".

Яўрэйская інтэлігенцыя дала беларускай нацыянальнай культуры нямала таленавітых артыстаў, дзеячаў кіно. Сярод іх найперш варта назваць ураджэнца Бабруйска, опернага спевака Ісідара Балоціна (1907—1961; сапр. Ізраіль Балотны). Салістам Беларускага тэатра оперы і балета стаў у першы ж год яго заснавання (1933). З аднолькава вялікім поспехам выступаў у беларускіх нацыянальных, рускіх і заходнееўрапейскіх операх. З калектывам гэтага тэатра самым цесным чынам звязана творчае жыццё таленавітых спявачак Соф'і Друкер і Рыты (Рэвекі) Млодак. Да пачатку вайны з фашысцкай Германіяй усе яны паспелі выступіць і ў беларускай нацыянальнай оперы: Соф'я Друкер у партыі Аўгінні ("У пушчах Палесся" Анатоля Багатырова), Рыта Млодак — Марысі ("Міхась Падгорны" Яўгена Цікоцкага). Пасля шматгадовай працы піяністам у Ленінградзе, Іркуцку і Куйбышаве вярнуўся ў 1938 г. у родную Беларусь Сямён Талкачоў, які адразу ж стаў канцэртмайстрам Беларускага тэатра оперы і балета.

Агульнавядома, якую важную ролю ў нашым музычным жыцці адыграла заснаваная ў 1932 г. у Мінску Беларуская дзяржаўная кансерваторыя. У міжваенны перыяд тут рахтавалі спецыялістаў па фартэпіяна, аркестравых інструментах, спевах, кампазіцыі, музыказнаўстве, харавым дырыжыраванні, па народных інструментах. Сярод яе выкладчыкаў было нямала і асоб яўрэйскай нацыянальнасці. Прыйшоў сюды і выпускнік Ленінградскай кансерваторыі Міхаіл Бергер (родам з Мінска). У 1937 г. ён быў на пасадзе дацэнта, а ў 1940 г. атрымаў званне заслужанага артыста БССР.

З людзьмі яўрэйскай нацыянальнасці самым цесным чынам звязаны дасягненні беларускага балета. Тут яны плённа выступалі як у ролі танцоўшчыкаў, так і балетмайстраў. Найбольш адметная фігура ў гэтым жанры прафесійнага мастацтва — Сямён Дрэчын. Яго талент у поўную меру праявіўся ўжо ў першыя гады існавання Беларускага тэатра оперы і балету. Выступаць даводзілася ў балеце Р. Гліэра "Чырвоны мак" (1934), Л. Дэліба "Капелія" (1935), Ц. Пуні "Канёк-гарбунёк" (1936), а пазней у "Лебядзіным возеры" П. Чайкоўскага, "Дон Кіхоце" Л. Мінкуса, "Марнай перасцярозе" Г. Гертэля і інш. З выступленнямі ў балеце С. Дрэчын не парываў і ў час вайсковай службы ў Белпалку (Мінск) у 1937—1938 гг. Самым жа вялікім дасягненнем артыста, несумненна, трэба лічыць яго выступленне ў галоўнай ролі ў балеце М. Крошнера "Салавей" (1939). З гэтым балетам нашы танцоўшчыкі выязджалі ў 1940 г. на першую Дэкаду беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскву і пакінулі аб сабе вельмі добрую славу. У тым годзе С. Дрэчына ўзнагародзілі ордэнам "Знак Пашаны".

Ёсць каго адзначыць і з яўрэяў, што працавалі ў беларускіх нацыянальных драматычных тэатрах, прычым не толькі ў ролі артыстаў, рэжысёраў, але і кіраўнікоў. Сярод першых, бясспрэчна, самым вядомым быў Леанід Рахленка. Аматарам беларускага нацыянальнага драматычнага мастацтва ён запомніўся сваім бліскучым выступленнем у Беларускім тэатры імя Я. Купалы ў п'есах "Салавей" З. Бядулі, "Раскіданае гняздо" Я. Купалы, "Жыццё кліча" У. Біль-Белацаркоўскага, "Ваўкі і авечкі", "Без віны вінаватыя" А. Астроўскага, "Скупы" Мальера, "Партызаны" і "Хто смяецца апошнім" К. Крапівы. У гэтым жа тэатры ён з 1937 г. выконваў функцыі мастацкага кіраўніка. На гэтай пасадзе яму давялося замяніць свайго супляменніка Льва Літвінава (сапр. Гурэвіч), на рахунку якога былі даволі ўдалыя пастаноўкі гэтым тэатрам п'ес "Бацькаўшчына" К. Чорнага, "Канец дружбы" К. Крапівы, "Салавей" З. Бядулі, "Вялікадушнасць" В. Галаўчынера, "Неспакойная старасць" Л. Рахманава. Паспяхова дэбютаваў у 1940 г. у Беларускім тэатры імя Я. Коласа ў Віцебску рэжысёр Навум Лойтар, які да гэтага працаваў у тэатрах Масквы, Ленінграда і Кіева. Ужо ў 1941 г. ён падарыў віцяблянам адзін з самых любімых у беларусаў нацыянальны спектакль "Несцерка".

Ролю творчай яўрэйскай інтэлігенцыі аніяк нельга абмінуць, калі гаворка заходзіць пра кінамастацтва Беларусі. Ля яго вытокаў стаяў і рэжысёр кінастудыі "Савецкая Беларусь" Эдуард Аршанскі, дзякуючы якому ў 30-я гады на экранах рэспублікі з'явіліся фільмы "Баям насустрач", "Двойчы народжаны", "Новая Радзіма", "Салавей". У той жа час на гэтай кінастудыі ў якасці рэжысёра працаваў Аляксандр Файнцымер. Яго першыя мастацкія кінастужыкі "Атэль Савой" (1930) і "Шчасце" (1932), але сапраўдная вядомасць прыйшла толькі з выхадам на экраны фільмаў "Паручнік Кіжэ" (1934) і "Балтыйцы" (1937). У 1935 г. А. Файнцымеру было прысвоена званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

Вялікую долю творчай працы ўклала яўрэйская інтэлігенцыя ў стварэнне аднаго з самых папулярных даваенных мастацкіх фільмаў кінастудыі "Савецкая Беларусь" "Шукальнікі шчасця" (1936). Аўтарам сцэнарыя быў Рыгор Кобец, але на заключным этапе яму на дапамогу прыйшоў і яўрэйскі драматург Іяган Зельцар. Функцыі кансультанта гэтага фільма выконваў ужо добра вядомы на той час акцёр і рэжысёр Саламон Міхоэлс (ураджэнец Дзвінска; з 1929 г. жыў і працаваў у Маскве). Музыку да фільма напісаў Ісак Дунаеўскі. Заўважу, што і сам сюжэт фільма быў прысвечаны лёсу шматдзетнай яўрэйскай сям'і з Пухавіцкага раёна, якая падалася шукаць шчасце ў толькі што створаную Яўрэйскую аўтаномную вобласць. Кінакамедыя "Шукальнікі шчасця" дэманстравалася ў ЗША, Германіі, Францыі, Бельгіі і іншых краінах і ў 1987 г. была аднаўлена на кінастудыі імя М. Горкага ў Маскве. З усіх фільмаў тае пары толькі гэты скапіраваны на відэа.

Міжваенны перыяд у гісторыі Беларусі адзначаны пэўнымі дасягненнямі ў развіцці архітэктуры, скульптуры і жывапісу, у якіх прыкметны след пакінулі прадстаўнікі яўрэйскай творчай інтэлігенцыі. Сярод іх, бадай, самая адметная асоба — архітэктар і педагог Іосіф Лангбард. Было б марным заняткам ва ўсім, што створана гэтым майстрам, шукаць беларускія нацыянальныя традыцыі, бо такое проста не ўваходзіла ў яго планы. У адпаведнасці з патрабаваннямі эпохі галоўная ўвага канцэнтравалася на тым, што магло самым найлепшым чынам паказаць магутнасць і веліч савецкай дзяржаўна-партыйнай сістэмы. Сістэма жадала ў поўным сэнсе слова сапраўдных аграмадзін дзеля свайго ўласнага ўзвышэння, і яна іх атрымала ад І. Лангбарда: Дом урада (1934) з магутным помнікам У. Леніну (скульптар Мацвей Манізер), Беларускі тэатр оперы і балета (1938), акруговы Дом афіцэраў, галоўны корпус Акадэміі навук БССР, Дом Саветаў у Магілёве (усе тры ўзведзены ў 1939 г.).

Хаця практычна кожнаму з архітэктараў, скульптараў і жывапісцаў давялося зведаць на сабе ідэалагічны дыктат бальшавіцкай партыі, магутны ўплыў сацыялістычнага рэалізму, усё ж некаторыя творы былі вольныя ад палітызацыі, змаглі заняць важнае месца ў сваіх жанрах, стаць каштоўным здабыткам і беларускай нацыянальнай культуры. Сказанае ў пэўнай ступені было характэрна і для творчасці маладога і таленавітага скульптара Заіра Азгура, які адразу ж звярнуў увагу на мясцовую, блізкую да самога рэальнага жыцця тэматыку. Пасля вучобы ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме ён затым набіраў яшчэ веды ў Ленінградскай акадэміі мастацтваў, Кіеўскім дзяржаўным мастацкім інстытуце, Тбіліскай акадэміі мастацтваў. Прыбыўшы на радзіму, захапіўся партрэтнай скульптурай. У 1935 г. стварыў партрэты беларускага асветніка сярэднявечча Васіля Цяпінскага, пісьменнікаў Змітрака Бядулі, Кузьмы Чорнага, мастака Абрама Бразера, у 1939 г. — беларускай опернай спявачкі Ларысы Александроўскай. Але час патрабаваў ад З. Азгура, як і ад усіх яго калег, стварэння партрэтаў людзей зусім іншага гатунку: буйных рэвалюцыйных, партыйных і дзяржаўных дзеячаў. У гэтую справу скульптар унёс немалую лепту партрэтамі К. Маркса, Ф. Энгельса, У. Леніна, С. Арджанікідзе, А. Мяснікова, Ф. Дзяржынскага і інш.

Пад ідэалагічным прэсам бальшавіцкай партыі праходзіла творчая дзейнасць скульптара, жывапісца і графіка Абрама Бразера. З яго непалітызаваных скульптурных партрэтаў найбольш удалымі аказаліся тыя, што былі прысвечаны ўраджэнцу з Беларусі яўрэйскаму акцёру, рэжысёру і педагогу Саламону Міхоэлсу (сапр. Воўсі), народнаму настаўніку М. Голубу.

Неяк так здарылася, што ў значна меншай ступені савецкая рэчаіснасць адбілася на творчасці жывапісца Янкеля Кругера. Не выключана, што галоўную ролю тут адыграў узрост мастака: у 1929 г. яму ўжо споўнілася 60 гадоў. Схіліць яго працаваць на карысць сацыялістычных ідэалаў адпаведным інстанцыям было няпростай справай. Нібыта ў адказ на ажыўленне беларускага нацыянальнага руху ён ужо ў 1923 г. напісаў партрэт свайго любімага пісьменніка Якуба Коласа. У 1927 г. Я. Кругерам быў увасоблены на палатне партрэт Янкі Купалы. Блізкімі да рэальнага жыцця аказаліся яго карціны "Дзіцячая калонія", "Кавальскі цэх" і шэраг іншых.

Немагчыма было знайсці той галіны беларускай навукі, дзе б не працавалі і яўрэі. Пэўны час духу беларусізацыі цалкам адпавядала навуковая дзейнасць гісторыка Самуіла Агурскага, добра вядомага сярод інтэлігенцыі Беларусі сваімі навуковымі працамі, у іх ліку "Очерки по истории революционного движения в Белоруссии (1863—1917 гг.)", выдадзеныя ў 1928 г. у Мінску. Ён быў рэдактарам шэрагу зборнікаў артыкулаў і дакументаў, найбольш буйныя з якіх "1905 год у Беларусі" (Мн., 1926), "Кастрычнік на Беларусі" (Мн., 1927). Каб паспрыяць беларускаму народу лепш зразумець сваё мінулае, якое доўгі час зусім неадэкватна паказвалася польскімі і рускімі вучонымі афіцыйнага толку, С. Агурскі ідзе на досыць смелы і небяспечны крок: змяшчае ў вышэйзгаданых нарысах па гісторыі рэвалюцыйнага руху на Беларусі тэкст усіх сямі нумароў газеты "Мужыцкая праўда", якую выдаваў Кастусь Каліноўскі. У ёй жа, як вядома, друкаваліся матэрыялы, якія не надта пасавалі да поглядаў многіх савецкіх гісторыкаў на падзеі 1863—1864 гг. на Беларусі.

Спаўна аддзячыў беларусам за іх цёплы прыём галіцкі яўрэй, выпускнік Венскага універсітэта Тэлістыян Бурстын (1888—1938). У 1929 г. далі яму месца прафесара матэматыкі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, дзе неўзабаве ўзначаліў кафедру, а

*(Працяг на стар. 15)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## "З крыніц спрадвечных"




**Мы часта скардзімся (і не без падстаў), што падаюць тыражы беларускамоўных выданняў, але разам з тым надараецца і так, што цікавая і вельмі карысная сваёй пазнавальнасцю кніга доўгі час застаецца належным чынам незапатрабаванай. Папрок гэты, канечне, тычыцца сталічных аматараў літаратуры, бо ў глыбінцы беларускамоўную кнігу амаль немагчыма знайсці — па той простай прычыне, што яна туды не завозіцца. Але буду канкрэтны. Яшчэ ў пачатку 1998 года ў Мінску з'явілася даследаванне Уладзіміра Сысова "З крыніц спрадвечных", выпушанае выдавецтвам "Вышэйшая школа". Магчыма, сёй-той не шмат чуў пра аўтара, дык нагадаю. У. Сысоў (на жаль, ужо нябожчык, заўчасная трагічная смерць абарвала яго жыццё пры падрыхтоўцы рукапісу да друку) працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, меў навуковую ступень кандыдата філалагічных навук. Асноўныя свае даследчыцкія намаганні скіроўваў на вывучэнне сямейна-абрадавай паэзіі і іншых відаў беларускай народнай творчасці. Акрамя таго, супрацоўнічаў з радыё і тэлебачаннем, дзе яго перадачы карысталіся вялікай папулярнасцю. Набыў вядомасць У. Сысоў і далёка за межамі нашай краіны. А кніга "З крыніц спрадвечных" прысвечана разгляду каляндарнай і сямейнай абраднасці беларусаў. Адпаведна складаецца з дзвюх частак: "Абрадавае кола беларускага народнага календара" і "Сямейная традыцыйная абраднасць беларусаў". Якую мэту ставіў гэтым разам перад сабой У. Сысоў, відаць з "Слова да чытача", у якім ёсць і такія радкі: "Амаль кожны з вас яшчэ з дзяцінства ведае пра такія святы, як Каляды, Ражство Хрыстова, Стрэчанне, Масленіцу, Гуканне вясны, Тройцу, Купалле, Спас, Прачыстую і многія іншыя. Адкуль яны бяруць свой пачатак? Чаму беражліва захоўваюцца і святкуюцца ў нашым народзе з незапамятных часоў? Што азначалі шматлікія звычаі, вераванні, рытуалы, забароны ў жыцці нашых продкаў і якое дачыненне яны маюць да нашых сучаснікаў? Сапраўды гэта забабоны, як трактавалі нам у савецкі час тэарэтыкі навуковага атэізму, або нешта іншае, больш значнае і жыццесцвярджальнае? Чаму нараджэнне дзіцяці суправаджаецца радзіннай абраднасцю, утварэнне новай сям'і — вясельнымі абрадамі, а смерць чалавека — пахавальнай абраднасцю? І, нарэшце, як захаваўся той ці іншы абрад у нашым народзе, у якой паслядоўнасці ён праходзіць? Калі вас цікавяць падобныя пытанні, то адказ на іх вы знойдзеце на старонках гэтай кнігі". У. Сысоў прыцягнуў звесткі з вядомай этнаграфічнай і фальклорнай літаратуры, а таксама узятай з рэдкіх крыніц, якія захоўваюцца ў вядучых бібліятэках як нашай краіны, так і за мяжой. Пры гэтым ёсць і тое, што сабрана самім У. Сысовым. Прыводзяцца і прыказкі, прымаўкі, зместам звязаныя з тым ці іншым народным абрадам, святам. Выдавецтва "Вышэйшая школа", разумеючы каштоўнасць і значнасць кнігі У. Сысова, выпусціла яе тыражом дзесяць тысяч экземпляраў, што, пагадзіцеся, для беларускамоўнай кнігі на сённяшні дзень нямала. Разумелі ў выдавецтве, што яна спатрэбіцца шырокаму колу чытачоў. У якасці навукова-папулярнага і хрэстаматыйнага дапаможніка яе могуць выкарыстаць выкладчыкі і студэнты філалагічных ВНУ, настаўнікі сярэдніх школ, работнікі культустаноў — усе, хто неабыякавы да нацыянальнага фальклору, бо, як даводзіць У. Сысоў у канцы даследавання: "...далёка не кожная еўрапейская, ды і нават славянская, краіна захавала ў сваіх культурных здабытках столькі звычаяў, абрадаў, песень у жывым бытаванні да сёння, як Беларусь... З гонарам у нашым народзе зазначаюць: "Што ні дом — толк, што ні дзярэўня — вера", падкрэсліваючы тым самым багацце і шматграннасць аўтэнтычнай духоўнай спадчыны". Кнігу У. Сысова "З крыніц спрадвечных" у Мінску можна яшчэ прыдбаць. Усяго за сотню-другую рублёў!**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

# "Мой сказ, ён з родных зор і ніў..."

### ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА Алега ЛОЙКІ ПАВОДЛЕ КНІГІ "НЕЎМІРУЧАСЦЬ"

Алег Лойка — асоба шматгранная, ён выявіў сябе ў розных творчых іпастасях. Міхась Скобла (дарэчы, былы студэнт Алега Антонавіча) у сваёй бяскрыўднай пародыі "Сакрэт поспеху", прысвечанай А. Лойку, выказаўся ад імя вядомага паэта і вучонага так:

*Бо з роднай песняй заручоны,*
*Дальбог, не знацьму іншых бед,*
*Бо між паэтаў я — вучоны,*
*А між вучоных я — паэт!*

Алег Антонавіч сам заўсёды з усмешкай на твары, добра разумее гумар, умее, калі трэба, пажартаваць і пасмяяцца. А прыпомніліся гэтыя жартоўныя Скоблавы радкі чамусьці якраз з нагоды сур'ёзнай гаворкі пра паэтычную творчасць А. Лойкі. Згадаліся мо дзеля таго, каб крыху паправіць парадыста і давесці вось што: і ў літаратуразнаўчых даследаваннях, і ў крытычных артыкулах, і ў сваёй прозе А. Лойка найперш застаецца паэтам. Без А. Лойкі-паэта не было б яго арыгінальных манаграфій, кніг і падручнікаў па беларускай паэзіі, і, у прыватнасці, рамана-эсэ пра Янку Купалу, перакладаў Поля Верлена, Гётэ, Фрыдрыха Шылера, шматлікіх польскіх паэтаў, рамантызаванай і вельмі пачуццёвай аповесці "Кельты не ўміраюць"... Усё, да чаго і з чым судакранаецца А. Лойка, ён успрымае чуйным і чулым сэрцам паэта.

Найраднейшай стыхіяй заставалася для яго паэтычная творчасць і ў 90-я гады. Пра гэта, уласна кажучы, і засведчылі кнігі "Талая вясна" (1990), "Трэці золак" (1993) і "Неўміручасць" — зборнік, які пабачыў свет зусім нядаўна, на пamежжы XX і XXI стагоддзяў (Мн., Літаратурна-мастацкі фонд "Нёман", 2000). Ужо сама назва "Неўміручасць" бачыцца падкрэслена сімвалічнай, бо ёю аўтар сцвярджае духоўную моц і невынішчальнасць беларускага духу. З глыбокай верай паэт кажа пра несмяротнасць роднага слова, вечнасць зямлі бацькоў і неўвядальнасць яе высокай красы.

Патрыятычныя перакананні і свой беларускі аптымізм аўтар выказвае па-рознаму: то з прамоўніцкім пафасам, то з лірычнай прачуласцю і роздумнасцю інтанацый. У вершы "Не, я не бедны..." уласнае "я" ён лучыць з агульным нацыянальным "мы", з уздымнасцю слова сцвярджае нашу магутнасць і веліч "пад неўміручым, пад буслілым крылом Беларусі":

*Мы — непатрушчаныя,*
*Мы — непаколатыя, —*
*Волаты.*

Калі на пачатку XX стагоддзя разбуджаная грамада беларускага люду ў вершы Янкі Купалы "А хто там ідзе?" заявіла "на свет цэлы" пра свае права "людзьмі звацца", то ў сучаснага паэта на парозе III тысячагоддзя беларусы ўслаўляюцца як тытаны і асілкі. Лірычны герой А. Лойкі поўны ўсведамлення ўласнай годнасці, таму жадае "далёка па свеце хадзіць", пры гэтым "скрозь і ўсюды застаючыся беларусам" (верш "Кім быць?").



Так, аўтар пафасна дэкларуе і падкрэслена ўзвышае агульнанароднае "мы". Аднак ён далёкі ад ідэалізацыі сённяшняга беларуса, з горыччу разважае пра яго наўдзячную гістарычную долю, абыякавасць да свайго лёсу. "Чаму ж ты не думаеш, хто ты, // Куды ідзеш і адкуль?" — задае пытанне А. Лойка, а пра гэта ж пытаўся ў беларусаў і У. Караткевіч. Усім сэрцам аўтар "Неўміручасці" прагне аднаго — каб развеялася "смуга на асleплых разлогах", прыйшоў дзень, прасветлены радасцю быцця. Бо яму надзвычай цяжка цярпець і любіць "паміж кашмарных сноў" ("Не думаць думна і не пець..."), жыць, калі "век... над усімі намі плача" ("Век барозны свае даворвае..."), калі "хату... крадзе вораг" ("Вораг"). Наш паэт-сучаснік часам гэтак жа, як і калісьці Алесь Гарун, звяртаецца да беларуса як да брата, гаворыць з ім на мове даверу, пашаноўна і з любоўю: "О мой любы, святы, паважаны / / Брат, каго беларусам завуць!" (верш "О мой любы, святы, паважаны..."). Злосць, ганьбаванне, гнеў — мусіць, дрэнныя дарадцы для размовы з суайчыннікамі. І усё ж, бывае, паэтычны зварот перарастае ў нясцерпны крык душы, мы чуем эмацыйна-ўзрушаныя воклічы, нараканні, дакоры, як, напрыклад, у вершы "Няўжо вы не бачыце, людзі?.." Лірычны герой аўтара страчвае раўнавагу, бо востра перажывае драму нацыянальнага быцця, журыцца і пакутуе ад таго, што "ёсць Беларусь, а няма беларуса" ("Абрусовыя матывы"). Паэт любіць сённяшні родны край шчымліва-балюча, а яшчэ, нягледзячы на наступствы часу, шкадуе простых і даверлівых людзей — беларусаў, спагадае іх лёсу, кліча рупіцца і будаваць свой беларускі дом, бо ён для нас — "райскі кут" (верш "Памірай, а дом будуй...").

Вершы А. Лойкі "Мой родны кут...", "Мой край...", "Абрусовыя матывы", "Чатыры слязы", "На выхад, Родны Край!..", "Тут, над Шчарай..." і іншыя творы патрыятычнага гучання кандэнсуюць у сабе моцную пачуццёва-сэнсавую энергетыку, у іх выяўляецца разнастайнасць матываў і інтанацый — ад страсна-пальмяных да элегічна-роздумных. Аднак у абсалютнай большасці твораў пульс радка прасякнуты драматызмам. Інакш і не выпадае, бо тапальнасць і словы дыктуе сэрца, абцяжаранае хваляваннямі і трывогамі. Відаць, маюць рацыю тыя, хто прытрымліваецца падобнай думкі: "Прызванне паэта драматычнае. Тое, што гаворыш, павінна быць перажыта" (В. Бечык). Словы А. Лойкі-паэта прачутыя і цесна зпітаваны з яго лёсам, які ён не ўяўляе без Беларусі:

***Азірнуся вакол, азірнуся***
***Сэрцам, што не маё***
***ўжо даўно,***
***Бо яно — дарагой Беларусі***
***Дно, якому дна не відно.***

***Падыму з дна і месяц, і зоркі,***
***Падыму сонца,***
***Млечны Шлях — Беларускі,***
***слёзны, горкі,***
***Як Галгофы зямной працяг...***

З працытаванага верша "Азірнуся вакол..." лірычны герой паэта паўстае ва ўсёй велічы, ён адчувае вялікую адказнасць за сваю Бацькаўшчыну і здольны таму падняць "Млечны Шлях Беларусі" дзеля зорнай славы Радзімы ў сусвеце. Гэтая па-купалаўску рамантычная ўзнесенасць думкі і пачуцця паэта нарадзілася як прага пераадолення драматычных абставінаў часу і выхаду на шырокі духоўны прасцяг быцця.

Радзіма — святое прычасце для паэта, крыніца яго глыбокіх эстэтычных пачуццяў. Культ роднага, беларускага вельмі высокі ў творчасці А. Лойкі. Роднае — гэта тое, што, як даводзіць паэт, "...не скланяецца, // Скланяюцца перад ім, // Прыхінаюцца да яго, // З ім родняцца, нараджаючыся, // З ім не развітваюцца і паміраючы" ("Скланенне"). Родная Шчара, беларускія кветкі і неба, "рапсодыя расы" і "снег ціхі Белае Русі" — усё гэта светлая і адухоўленая паэзія натхнёнай душы аўтара, запалоненага, як і М. Багдановіч, красой прыроды і свету:

***Чырвань руж балючых,***
***Палотнаў свойскіх бель,***
***Шэпт крыніц неўміручых***
***Васількоў купель;***

***Вечных бароў узгоркі,***
***Сплаканых бяроз,***
***Прысмак на вуснах горкі***
***Неўміручых слёз...***

**"Беларускае"**

Лірычна спеўнае слова ў падобных радках агучвае паэтычна ўзвышаны настрой, выяўляе ўнутраную шырыню аўтарскага пачуцця.

Патрыятычнае самавыяўленне А. Лойкі звязана з выказваннем асабістай грамадзянскай і маральнай пазіцыі. Паэтаў голас у вершы "Мова мая беларуская..." напоўнены любоўю да самай дарагой святыні, трывогай за яе лёс.

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Згукі маленства

Творца нараджаецца з перажытага. З перажытага ў самых патаемных закутках душы. Там, у яе цянётах, усё — перапакутаванае, неадноўчы параасэнсаванае ды перадуманае — не можа ўтрымацца і просіцца на волю, хоча, каб ты паведаў пра яго, тым самым хоць на момант вызваліў ад цяснаты ўражанняў, колераў, гукаў, зыкаў, пахаў, што сабраліся ў душы.

"Якая дзівосная, загадкавая і непаўторная наша памяць! Колькі падзей, з'яў, уражанняў захоўвае яна ў сваёй скарбонцы: дзень за днём, год за годам... І чым далей мы адыходзім ад свайго маленства, тым усё больш узбагачаецца скарбонка нашай памяці". Гэта словы з прадмоўкі да раздзела "Дагані сваё маленства" ў кнізе Міхася Зарэмбы "Арэхавы Спас". Менавіта перажытае, перапакутаванае, зведанае малечым сэрцам і склала аснову гэтага цікавага раздзела.

Вось навела "Цукеркі-падушачкі", якая распачынае аповед. З якой любасцю і захопленасцю галоўны герой Міша любуецца сваёй мамаю, як ён, яшчэ кволае дзіця, хоча абараніць яе ад усіх нягодаў і крыўдаў свету. Вядома ж, Міша — гэта сам аўтар, які вельмі любіў і не перастае любіць сваю мамку, Яўгенію Антонаўну, памяці якой прысвяціў гэты раздзел. Менавіта вось так ласкава, мамкаю, называў сваю маму Міхась Зарэмба падчас выступленняў перад школьнікамі, якія любілі задаваць шмат пытанняў пра дзяцінства, у Лагойску, Мінску, Баранавічах, Дзятлаве, Заслаўі, у вясковых школах. Мне пашчасціла быць там разам з Міхасём Мікалаевічам. І як ён мог інакш называць Яўгенію Антонаўну, якая, страціўшы мужа ў ваенные ліхалецце, адна ў той цяжкі час падняла на ногі двух сыноў і вывела іх у людзі.

Не пакідаюць абыякавым і іншыя навелы з гэтага раздзела: "Шпакоўня", "Паддаўкі", "Арэхавы Спас". Але асабліва — "Барадзіно". Хай кожны хлапец, дзяцюк ці сталы ўжо мужчына напружыць сваю памяць, дык згадае, што ўпершыню пачуццё кахання ён адчуў ці да прыгожай маладой настаўніцы, ці да пекненькай аднакласніцы. Можа, і не каханне нават гэта, а простая закаханасць, улюбёнасць, захопленасць... Вось і ў галоўнага героя гэтай навелы Мішы Зарэцкага "усё пачалося з таго сонечнага верасneўскага дня, калі ён упершыню прыйшоў у пяты клас... і ўбачыў яе, настаўніцу рускай мовы і літаратуры". Хораша піша пісьменнік пра светлае, дзіўнае пачуццё, што ўзнікае ў хлапечым сэрцы. Уражвае і яшчэ адзін герой з гэтай навелы. Той пераростак, старэйшы на некалькі гадоў за аднакласнікаў, Лёня Мардас, які здзекуецца з вучняў і настаўніц, тэрарызуе ўвесь клас. Але яму шчыра, пачалавечы спачуваеш, бо хлопец страціў падчас блакады сваіх блізкіх, хаваўся ў балоце, дзе ад перажывання і страху захварэў на эпілепсію. Пісьменнік па-майстэрску выпісаў такі супярэчлівы, але глыбокі вобраз, чалавечы характар.

"Гэта ж так няпроста — даганяць сваё маленства!" — завяршае тую самую прадмову Міхась Зарэмба. "Ды не дагоніш, Міхась Мікалаевіч!" — хацелася адразу ж сказаць услед. Бо яшчэ ніхто не дагнаў. Але пісьменнік і сам гэта разумее і піша ў адной з навел: "Было — не было, прыснілася — прымроілася? А маленства адыходзіць усё далей і далей, і не дагнаць яго, і не спыніць..." Так, сапраўды. Але якое гэта шчасце жыць сваім маленствам і суцяшаць сябе, што яшчэ знойдзецца, адкрыецца ў ім нешта патаемнае, нязведанае, дзіўнае ды ўражальнае, што хоць

Трывог жа ў лірычнага героя паэта многа, і ўсе яны лучацца з думкай пра Беларусь, яе лёс і будучыню. Ён застаецца верным галоўным ідэалам дэмакратыі і гуманізму, паўстае як абаронца духоўнай свабоды асобы. Лірыка грамадска-асабістага выяўлення аўтара раскрывае характар яго ўзаемаадносінаў з сучаснай рэчаіснасцю і сведчыць пра сацыяльна-публіцыстычную скіраванасць паэтычнай думкі. Паэт не можа быць пазбаўлены права выказацца, данесці сваё слова пра час, сябе ў гэтым часе, палітыку, жыццё, стан грамадства. Свабода мыслення, нават іншадумства — гэта заўсёдная наканаванасць творчай інтэлігенцыі. У гэтай сувязі вядомы майстар драматургіі Аляксей Дудараў слушна разважае: "Ну не бывае такога, каб пісьменнік быў апалітычны. Гэта асоба, якая на адпаведныя ідэі, адпаведныя словы павінна рэагаваць. Я не веру таму пісьменніку, які кажа: "Не цягніце мяне ў палітыку, я палітыкай не цікаўлюся, мне важна сядзець і апісваць, як траўка расце...". Гэта не пісьменнік!" Адна справа — палітычны экстрэмізм, зусім іншая — палітыка як рэакцыя асобы на падзеі і з'явы агульназначнага парадку. Лірычны герой А. Лойкі, як і сам аўтар, не можа не рэагаваць на ўсё тое, што закранае яго нацыянальную і чалавечую годнасць, быць убаку ад тых жыццёва важных праблем, ад якіх залежыць паўнацэннае існаванне народа. Яго палітычная лірыка — гэта прамаўленне паэта-грамадзяніна, які сцвярджае і даводзіць уласныя погляды, палка адмаўляе розны негатыў, дэфармацыю духоўнасці і маралі, спрачаецца і палемізуе, выказваючы свае палітычныя хваляванні, трывогі і надзеі. Пачуццёва намагнічаны, востра публіцыстычны стыль вызначае характар і аблічча палітычнай вершатворчасці А. Лойкі і, у прыватнасці, такіх твораў, як "Малітоўная інвектыва", "Палітычнае". У гэтых і некаторых іншых вершах важную ролю адыгрываюць звароты, воклічы, заклікі. З сатырычным пафасам напісаны творы "Падпарадкаванцы", "Адрачэнцам", у якіх ганьбуюцца тыя, хто парушае словы клятвы, бяздумна існуе, не маючы пачуцця ўласнага гонару. Сучасная лірыка А. Лойкі на грамадска значныя тэмы — гэта паэзія духоўнага супраціву, паколькі паэт не жадае мірыцца з заняпадам нацыянальнай свядомасці, русіфікацыяй, уціскам дэмакратычных правоў, ён знаходзіцца ў супрацьборстве з рэчаіснасцю гэтак жа, як Янка Купала, Алесь Гарун і іншыя песняры-адраджэнцы нашаніўскага часу. Погляд аўтара на сённяшнія перыпетыі і праблемы грамадскага развіцця можна вызначыць як погляд з пазіцыі "крытычнага аптымізму" (выраз У. Самойлы).

У "Неўміручасці" добра выяўляецца ўнутраны воблік паэта. Ён — асоба, багатая сваёй чалавечнасцю. Многія творы аўтар прысвяціў сябрам і землякам, родным і блізкім, памяці бацькоў і іншых добрых людзей, хто пакінуў гэты свет. Вершы "Памяці бацькі", "Экспромт", "Прабегла чорная котка", "Памяці цёткі Марусі", "Вудай не з бамбукоў...", "Дачцы Тоні", "За Зяльвянкаю, за Шпрэі...", "Святое памяці Віктара Скробата", "Памяці Г. Дз. Карпенкі", "Белы снег" і некаторыя іншыя красамоўна гавораць нам пра паэтава чалавекалюбства і душэўную шчырасць, раскрываюць яго глыбокую пароднёнасць з людзьмі, здольнасць суперажываць гору і бядзе іншых, быць памятлівым. А яшчэ ў многіх выпадках звяртае ўвагу філасафічнасць разважанняў, афарыстычнасць думкі, якія ўспрымаюцца як адбітак мудрасці чалавека, што ўжо нямала пражыў і пабачыў, усведамляе хуткаплыннасць жыцця, незваротнасць часу: "...Я сплыву, як сплывае дым"; "...Дымы — мы, // За дымамі плывуць дымы" ("Дым"). Адзінае, чаго жадаецца ў одуме герою паэта, каб засталіся пра яго словы "Беларусь любіў" ("Сказ").

Сацыяльна-філасофскай удумлівасцю разваг вылучаецца верш "Век баронзы свае даворвае...". У гэтым творы паэт асэнсоўвае наша быццё ў час, калі "пад Чарнобыльскай зоркай" востра паўстала праблема нацыянальнага выжывання: "А мы — смяротэльна хворыя, // Жывыя марыянеткі, Якім не выскачыць з клеткі... ".

Паэтычны свет А. Лойкі за апошняе дзесяцігоддзе, так бы мовіць, прыкметна хрысціянізаваўся. У "Неўміручасці" галоўным чынам рэлігійныя матывы ўваходзяць у склад вершаваных тэкстаў ("Не думаць думна і не пець...", "Малітоўная інвектыва" і інш.). Паэт апелюе і звяртаецца да Бога з думкай пра дапамогу і саўдзел Усявышняга ў лёсе роднага краю. Вершы "Радасць Хрыстовага Уваскрасення...", "Адсмуткавала Радаўніца", "Чэнстахова" раскрываюць нам духоўнасць лірычнага героя паэта, сакральнасць яго беларускага погляду на свет. Праўда, часам свецкія і грамадскія пачуцці ўступаюць у супярэчнасць з біблейска-хрысціянскім светапоглядам.

Алег Лойка даўно вядомы як стваральнік шэрагу вершаваных нізак пра замежжа. У "Неўміручасці" паэтызуецца экзатычная рэчаіснасць Ірана, Германіі, Парыжа (нізкі "Персідскія матывы", "Мірабэль", "Парыж, Парыж"). У вершах, народжаных у Польшчы, паэт думкамі вяртаецца ў сучасную Беларусь, адгукаецца на яе жыццё-быццё, поўнае трагізму: "За Дняпром, за Нёманам-Дунаем // Паміраем; // За Чарнобылем, маной, хлуснёй, адчаем // Паміраем..." ("У Польшчы"). Асаблівa запамінальна і цікава пададзены паэтам малюнкі ўсходняй краіны — "неабдымнай Персіі". Позірк на чужое неба, дзе ўзышоў "маладзік Магамета", будзіць згадку пра свой беларускі свет:

***Ах, Венера — царыца***
***Блакітаў світальнага ранку,***
***Мілая ты, Мілавіца***
***Над мілым каханым ранкам!..***

"Персідскія матывы" прывабныя імпэтнай рамантызацыяй кахання, лёгкасцю рытму, інтанацыйна-пачуццёвай раскаванасцю.

Алег Лойка — майстар і маэстра ў сучаснай паэзіі. Але ці ўсе творы ў яго кнізе яркія і моцныя? На жаль, ёсць і павярхоўна-альбомныя, бязважкія на думку, як верш-прысвячэнне "У панядзелак": "Пра тое ведаюць / / Суседзі: // Ідзе, ідзе // Алег да Федзі". Калі сам аўтар больш пільна і патрабавальна прыглядзіцца да тэкстаў, то, напэўна, выявіць недаведзенасць асобных радкоў: "Мо хто спраўку з пячаткаю даў бы..." ("Радаслоўная", "Мы былі з ім, маленькім, радам..." ("Экспромт") і інш. Зрэшты, паэт добра ведае: статус майстра заўсёды вымагае вялікай і неспатольнай прагі дасканаласці.

Між тым, асабіста для мяне не самамэтай было шукаць нейкую слабіну ці недахопы ў "Неўміручасці", бо эмацыйна-сілавое поле гэтай кнігі "высокай самай нотай" падключыла да аўтарскіх пачуццяў і думак. "Неўміручасць" — мужная, адкрытая і глыбока чалавечная споведзь паэта.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

на крок, хоць на паўкрока наблізіць да яго.

"Дагані сваё маленства" — апошні раздзел у кнізе "Арэхавы Спас". Чаму ж я пачаў з яго? Ды, мабыць, таму, што ў навелах навідавоку сам аўтар, чалавек шчыры, узнёслы, захоплены сваімі героямі. З іх відаць, адкуль першавыткі творчасці пісьменніка.

Не менш шчыра, з адчуваннем дзіцячага сэрца, з разуменнем дзіцячай псіхалогіі напісаны і апавяданні Міхася Зарэмбы. Перыпетыі школьнага, гарадскога і вясковага жыцця, учынкі герояў, іх, здавалася б, нелагічныя дзеянні нагадваюць тое, што адбывалася некалі і са мною, з маімі школьнымі сябрамі. І дзякуй аўтару, што ён пазнаў і мяне ў сваіх наўрымслівых, неспатольных, часам дзіўнаватых героях. А гэта ўжо дар — закрануць у чытача яго патаемнае, што тоіцца ў ім, што ён беражліва ахоўвае ад "чужога" вока. Сярод лепшых апавяданняў гэтай кнігі я б назваў "Пралескі", "Аўтограф Пеле", "Хто лепшы рыцар", "Веласіпед", "Дружок".

Згадваю, што больш пільна пачаў цікавіцца творчасцю Міхася Зарэмбы пасля аднаго з рэспубліканскіх конкурсаў на лепшы твор для дзяцей. На ім ягоная кніга "Сакрэт тэлепата" атрымала другую прэмію ўслед за вядомым "Санькам" Івана Сяркова. Што прывабіла мяне ў творах Міхася Зарэмбы. Тое, што ён пісаў пра школьнае жыццё. Твораў казачных, прыгодніцкіх, фантастычных (фантасмагорый, як любіць казаць М. Зарэмба) у нас нямала знойдзецца. А вось пра школьнае жыццё з усімі яго нюансамі ды нюансікамі мала хто асмельваўся пісаць. А Міхась Зарэмба браўся за гэту тэму, і атрымлівалася няблага, як у гумарыстычнай аповесці "І мы засмяяліся, або Восем урокаў з жыцця шасцікласніка Андрэя Кахуты". Асветлена яна лёгкім, дасціпным гумарам, чытаецца на адным дыханні, а напісанаму верыш без сумніву. Ды і адкуль ён возьмецца, сумніў, калі Міхась Зарэмба, можна сказаць, і нарадзіўся ў школе, і жыў у ёй. Ягоная мама была настаўніцаю пачатковых класаў, а абсталявалася разам з двума сынамі ў будынку школы. Адсюль і пайшоў Міхась у першы клас — з адной паловы хаты ў другую.

Аповесць з элементамі дэтэктыву "Малінавая шкатулка", змешчаная ў кнізе, — пра наш дзень з усімі яго складанасцямі і супярэчнасцямі.

Гэты твор і папярэджванне нам, старэйшым: калі мы будзем абыякавыя да дзіцячых праблем, бяздушныя і бяздумныя, дык усё можа скончыцца вялікаю бядою. Што і здарылася з галоўным героем аповесці Алегам Алейнікавым. Бо ў нашым імклівым і нездаровым свеце ой як шмат усялякай пошасці, брыды і дзікунства, і варта засцерагчы ад усяго гэтага яшчэ кволыя дзіцячыя сэрцы.

Перагарнуўшы апошнюю старонку гэтай цікавай і змястоўнай кнігі, думаеш, дзе ж яно, адчуванне і праміналага, і сучаснага, адкуль яно, судакрананне з імі? Вядома ж — у перажытым душою творцы. А што Міхась Зарэмба чалавек душэўны, неабыякавы, заклапочаны і ўдумлівы, сведчыць яго кніга "Арэхавы Спас".

**Уладзімір МАРУК**

# На парозе маўчання

Як і кожная сапраўдная кніга, "апошнія вершы леаніда галубовіча" выклікае думкі не толькі пра асаблівасці таленту паэта, але і пра сутнасць самой паэзіі, чарговы раз паставіўшы пытанне пра яе месца і ролю ў сучасным свеце. Вось жа дзіўная рэч: адзін з лепшых нашых пісьменнікаў аб'яўляе, што не будзе болей пісаць вершаў — і нічога не адбываецца! Ніхто нікога не прымушае, не ўгаворвае, здаецца, і не ведае ніхто. Няўжо сапраўды, каб быць пачутым, трэба браць у рукі тазік і бумкаць па гарадах і сёлах: "Я ёсць! Я жывы!". Няўжо трэба распранацца на сцэне, каб выклікаць хоць кроплю цікавасці? Няўжо наш чытач такі сапсаваны, што ўразіць яго можна толькі папярэдне зрэжысіраванымі скандаламі?

Мы амаль страцілі, як паэта, А. Сыса, усё радзей друкуецца А. Разанаў, перастаў пісаць вершы Л. Галубовіч...

Так, застаецца яшчэ шмат паэтаў, добрых і розных: куртуазных маньерыстаў і рукадзельнікаў, праўдарубаў і златавустаў, эстэтаў і эратаманаў — паэзія наша сёння, безумоўна, у росквіце. Аднак жа ёсць у трох названых вышэй тое, што не толькі вылучае іх з шэрагу калегаў, але і збліжае між сабой, выраўніваючы такіх розных па таленце і паводзінах людзей. Гэта агульнае палягае ў іх разуменні паэзіі, якую яны адмаўляюцца разглядаць вузка, як мастацтва слова, прызначанае выяўляць думкі і пачуцці. Паэзія — нешта, пазбаўленае мастацкасці, штучнасці, гульні. Яе крыніцы ляжаць у дапаняційнай свядомасці, дзе думка яшчэ не акрэслілася, а слова толькі намацваецца — адсюль і пэўная "зацыкленасць" на адных і тых жа тэмах, якія ніяк не выгукнуцца дарэшты, як не выгукваецца дарэшты сапраўдны крык альбо малітва. А таму і пісаць пра вершы згаданых аўтараў амаль немагчыма — ну як ты адрэцэнзуеш чужы боль, чужое трызненне?

"Апошнія вершы", з'яднаўшыя паэтычныя творы цэлага дзесяцігоддзя, задумваліся аўтарам як "развітальная" кніга, што відавочна паўплывала на яе канцэптуальную пабудову. Пяць раздзелаў кнігі адпавядаюць пяці "верую" Леаніда Галубовіча, якія, вельмі ўмоўна, можна было б акрэсліць праз такія словы, як Радзіма, Дом, Паэзія, Каханне, Бог. Аднак "вузлавыя кропкі" кнігі, тое, на чым, па сутнасці, трымаецца яе энергетыка, перасякаючыся ў пэўных межах з тэмамі цыклаў, ствараюць сваю спецыфічную сістэму, развіваючы вобразы, знаёмыя чытачам не столькі па папярэдніх паэтычных зборніках Галубовіча, колькі па прозе "За цемкаx з левай кішэні".

П а э з і я. Сінонім няўлоўнасці. За ёй — "нявыказанасці сноў", "таемныя сутнасці", падобныя да той, што нараджае святло акна за шторай... Паэзія не рамяство, а, хутчэй, тое, што супрацьстаіць гвалту майстэрства. "Верлібр усох. У ім няма жыцця. Алгебраічны, як біном Ньютана..." — са скрухай заўважае ў адным з вершаў Галубовіч, і нечакана пашырае назіранне — "Пасля Хрыста мы перайшлі мяжу, // Дзе святасць слова стала немагчымай..." Адзначаная пісьменнікам дэвальвацыя паэтычнага слова не адмаўляе значнасць паэзіі, проста сам вобраз яе трансфармаваўся ў межах мастацкай свядомасці аўтара. Сённяшняе разуменне паэзіі, якім яно падаецца са старонак апошняй кнігі, міжвольна нагадвае знакамітае "мысль изречённая есть ложь". Мажліва, гэта яшчэ не "Silentium", але ўжо амаль шэпт.

***А я не магу і не так і не гэтак***
***Паўвека шапчу свае словы без сведак.***
***А ў тым, што з карысці я ўсё ж друкаваў,***
***— Найбольш эпігонства,***
***чым шчырых выяў.***
***Адзіныя словы ў астрозе душы***
***Скрозь шчыліны воч пазіраюць***
***на свет... —***

прызнаецца паэт у вершы "Адзіныя словы". Аднак нават калі паэзія для Галубовіча — гэта тое, што "гасне на вуснах", то пабуджальныя матывы яго творчасці мала нагадваюць цютчаўскія і раскрываюцца праз другі ўстойлівы вобраз.

К р ы к. Тыповы экзістэнцыяльны вобраз, упершыню акрэслены ў празаічных "Зацемках". Здаецца, менавіта ў ім Галубовіч выяўляецца ва ўсёй сваёй чалавечай прыгажосці. Ён кандэнсуе адразу некалькі розных па накірунку эмоцый — гэта адчуванне ўласнай адзіноты, боль і шкадаванне чалавека ўвогуле, адчуванне ўласнай бездапаможнасці і пачуццё віны за сваю немагчымасць дапамагчы іншым.

***"А-у!" — крычу дзяўчу,***
***мовы не стае***
***Сказаць, каб хто пачуў,***
***Што нас не існуе:***
***Ні тут няма, ні там,***
***Нібыта знёс ляднік***
***Наш лёс,***
***і ён растаў —***
***У вечным часе знік...***

Цікава, што вершы Галубовіча, якія ў пэўнай ступені адмаўляюць значэнне мастацкага жэсту, аказваюцца вельмі сугучнымі тэарэтычным разважанням Аляксандра Брэнэра, расійскага літаратара, зрабіўшага скандал формай мастацтва. Брэнэр піша: "Што значыць чалавечы крык, што ён у сабе нясе? Можна галасіць аб нябожчыку, як гэта робіць удовая жанчына. Можна плакаць аб страчаных грудзях, як гэта робіць дзіця. Можна енчыць аб загінуўшым сябры, аб мінулым шчасці, аб здрадзіўшай сяброўцы. Усё гэта ёсць фундаментальныя асновы чалавечага гучання. Паэтычны крык збірае ўсё гэта ў жмут, дзе губляюцца ніці жыццёвай утылітарнасці. Паэтычны крык — гэта крык аб усім. І ў гэтым ён бліжэй за ўсё да крыку немаўляці. І лепей за ўсё, калі гэты крык не нясе ў сабе ніякага прафесійнага майстэрства, лепей, калі ён гэтае майстэрства губляе па дарозе. І даходзіць да людзей у сваёй пачварнай аголенасці".

"Паэтычны крык" Галубовіча — гэта крык адчаю "...З цёмнай ночы адзінокім дзіцем — Я з той прорвы буду галасіць..." Гэта крык-маленне, як у вершах "Одум", "Калі ўжо змогся клікаць Бога", "Ноч у бацькавым ложку", "Хрыстос". Але гэта і крык супраціву, голас раба, што імкнецца адрынуць уласныя путы.

Р а б. Перш за ўсё, гэта вобраз душы, увязненай у целе. Знак недарэчнасці чалавечага існавання. "Я — пыл паміж дзвюх / / Старонак адной непамыснай мне кнігі" — чытаем мы ў вершы "Ноч у бацькоўскім ложку". Яшчэ больш рэзка ў вершы "Замысел": "Я — ніхто і нічога , // Толькі вобраз ёсць мой, // Той, што мысліўся Богам// Да ляпніны самой..."

Вобраз вязня, "раба самоты" , што ў "турме замкнёны, // З двух бакоў зачыненых дзвярэй", характэрны для ўсіх паэтычных цыклаў кнігі, аднак само слова "раб" найбольш часта сустракаецца ў першым раздзеле кнігі, у вершах, з'яднаных тэмай Радзімы. "Электрычны народ", "Беларуская замова", "Нянавісць", "Паводле народнага" , "Мроі" — публіцыстычны пафас гэтых вершаў відавочны і не патрабуе каментарыяў. Найбольш моцна гучыць пачатак верша "Суайчыннікам":

***Як цяжка жыць нашчадкам,***
***калі продкі***
***У спадчыну пакінулі прыгон...***
***Дзяды мае, бацькі, дзядзькі і цёткі,***
***Прыміце нізкі рабскі мой паклон.***

***...Рахманыя, пакорныя, нямыя,***
***Вачыма праглядзеўшы дол руды...***
***Ніхто вас ад зямлі ўжо не адыме—***
***З яе ўзышлі і сыдзеце туды...***

***О рабскі род зняслаўленай Айчыны!***
***Навошта ж і мяне ў свой радавод***
***Вы ўмесцілі?! —***
***каб я адчуў плячыма***
***Не крыл узвевы,***
***а — халодны пот...***

Да гонару пісьменніка, ён ніколі не вылучаў і не супрацьстаўляў сябе свайму народу. Боль, шкадаванне, адчуванне ўласнай недасканаласці як прадстаўніка гэтага "знямелага роду" — асноўныя матывы цыкла, прысвечанага Бацькаўшчыне. У суцяшэнне пісьменніку хочацца заўважыць, што згодна філасофіі экзістэнцыялізму, пачуццё віны за ўсё, што адбываецца навокал, — гэта пачуццё свабоднага чалавека.

Вобраз р а б а часткова раскрываецца праз такія паэтычныя паняцці, як г л і н а і а к н о. Гліна — тое, з чаго бог зляпіў сабе раба, гліна — рэчыва, у якое ён вернецца пасля смерці: "...прахам стану я ўвесь, // Ды, магчыма, не згіну, — // Перасілюшы смерць, // Перакінуся ў гліну..." Вобраз прымушае згадаць знакамітую паэму Алеся Разанава і, куды менш вядомы, аднайменны верш Анатоля Сыса. Калі гліна ўвасабляе хутчэй пераход фізіялагічнага стану — ад жыцця да нежыцця, сімвалізуючы збаўленне ад зямных пакут і набыццё новай фізічнай якасці, то акно — гэта памежжа свету духоўнага: "О Гасподзь! // Каму якая справа ў гэтым свеце : // Чым я тручу сябе, як паміраю // За вусцішнай шматколернаю шторай // На кухні , дзе павінна быць АКНО".

Паэзія, крык, гліна, акно, раб — гэта тыя крышталі, з якіх паэт, падобна андэрсанаўскаму герою, збірае слова в е ч н а с ц ь. Найбольш блізка падступіўся ён да яго ў нізцы вершаў, змешчаных у апошнім раздзеле кнігі.

***Скажы мне, Божа,***
***Што тоіць смерць, чым томіцца быццё,***
***Ці вартыя яны адно другога,***
***доўгая, як воўчае выццё,***
***Куды вядзе апошняя дарога?..***

***...Ужо хілюся долу,***
***а красу***
***Душа па кроплі дзень пры дні збірае***
***Нібы трава — світальную расу...***
***Куды яе, каму я панясу,***
***О ненатольная зямля сырая?...***

Аднойчы А. Разанаў заўважыў: "Усе знаходзяцца на аднолькавай адлегласці ад Бога, але на рознай да Бога". "апошнія вершы леаніда галубовіча" адметныя якраз тым, што пакідаюць уражанне, што гэты паэт стаў да Бога трохі бліжэй, чым астатнія. С т а ў... і апынуўся на парозе маўчання.

**Ганна КІСЛІЦЫНА**

*"апошнія вершы леаніда галубовіча", "Полацкае ляда", 2000 г.*

ПРОЗА



Іван НАВУМЕНКА

# ЦЁМНЫЯ ЗМРОКІ

АПАВЯДАННЕ

I

Свірыдовіч ачнуўся і застыў у здранцвенні. Ён нічога не памятае. Белы пакой, плафон пад столлю, сіняватыя сцены і ён, заматаны ў бінты з галавы да ног. Два ложкі ў пакоі і на адным з іх ён.

Ён адчувае сябе чалавекам, які нібы апынуўся ў пустаце. За ім нічога няма. Вузкі праменьчык свядомасці, якая толькі цяпер вярнулася да яго, як бы падказвае, што даўно-даўно, на мяжы згаслай памяці, штосьці падобнае было. Зноў усплывае: тады нібыта была вайна і ён быў малады.

Ёсць яшчэ астравок, які свеціцца слабым агнём. У яго была жонка, і яна памерла. Яны доўга жылі разам. Выгадавалі дзяцей. Яна доўга, цяжка хварэла...

Ён адчувае: падступае новая хваля бяспамяцтва, а можа, вар'яцтва. Калі зноў ачнецца, зноў нічога не ўспомніць. Адзін на свеце. Ён нават не памятае свайго прозвішча. Нічога з мінулага. "Вось так людзі пачынаюць вар'яцець", — толькі паспеў ён падумаць, і ў гэты момант адчыніліся дзверы і ў пакой зайшла паўнаватая, з прыветлівым круглым тварам, яшчэ досыць маладая жанчына.

— Небывалы выпадак, — сказала яна. — Пяць дзён без памяці. Слава богу...

— Хто я? — спытаў ён.

Жанчына зняла са сцяны прадаўгаватае люстэрка і паднесла да ложка.

— Павярніцеся, паглядзіце на сябе...

Ён павярнуўся, зірнуў на свой зарослы сіваватай шчацінаю твар, абвітую бінтамі галаву і адразу пазнаў сябе. І ўсё ўспомніў. Доктарка, выходзіць, ведала, што робіць. Дала яму вочную стаўку з самім сабой.

Ён — прафесар, гісторык. Цяпер на пенсіі, але яму яшчэ даюць магчымасць чытаць лекцыі. Ён ужо вылічыў: тры месяцы назад памерла жонка, з якой ён пражыў паўвека. Усе тры месяцы ён успамінаў яе кожнае хвіліны. Пры пахаванні яе апранулі ў чорную шарсцяную сукенку, якую ён асабліва любіў. Не дай бог нікому бачыць сваю жанчыну, якая нерухома ляжыць на сталe. Ён ніколі не думаў, што яна памрэ першая, хоць у яе была невылечная хвароба. Першы збіраўся паміраць ён. Меў слабое сэрца, якое двойчы падводзіла да інфаркту. Ён змірыўся і без страху думаў пра смерць.

Увогуле першы павінен паміраць мужчына. Гэта ў парадку рэчаў. Жанчына больш патрэбна ў жыцці: лепей дапаможа дзецям, упарадкуе маёмасць ды яшчэ мала што іншае...

— Устанавілі сваю асобу? — спытала доктарка.

— Устанавіў. Не разумею толькі, чаму я пайшоў на тое свята моладзі. Цяпер мне здаецца, што я проста міма праходзіў. Натоўп мяне захліснуў і далей нічога не памятаю. Моцна мне дасталося? — спытаў ён жанчыну.

— Галоўнае — гэта сатрасенне мозга, — сказала доктарка. — Вось чаму памяць страцілі. Астатняе — драпіны. Хоць іх многа. Тыдні два прыйдзецца паваляцца...

Бедная мая галава, падумаў ён. На вайне ёй дасталося і тут, у канцы жыцця, яшчэ дабавілі. Лепей было б, каб ён не прачнуўся. Нічога раднаснага не чакае яго ў гэтым свеце. Такой сяброўкі, якую меў, ён не знойдзе. Ды і позна шукаць. Жыццё пражыта...

— Адпачывайце і ні аб чым не думайце, — сказала доктарка. — Вы выцягнулі шчаслівы білет. Колькі людзей загінула. Маладых. Якія толькі пачыналі жыць...

— Чорныя коні, — сказаў ён.

Доктарка, відаць, падумала: пачынае трызніць...

— Адпачывайце, — паўтарыла яна. — Я вам дам снатворных таблетак.

Ён, аднак, бачыў чорных коней. Калі насунулася хмара, стала цёмна, закрапаў дождж, з заходняга боку на беразе ракі вынырнула армада коннікаў на чорных конях...

Доктарка вярнулася. Прынесла снатворныя таблеткі.

— Я падсялю вам суседа, — сказала. — З вашай кампаніі. Будзе весялей. У нас хворыя ў калідоры ляжаць.

Ён не мог пярэчыць.

— Падсяляйце. Я і так дзіўлюся: ляжу — як кароль.

— Ведаю пра ваша гора. Пра жонку. Без памяці вы былі. Сярод пацярпелых гэтак вы адзін...

Прыбегла санітарка, рассяліла ложак ля супроцьлеглай сцяны.

Увайшоў хворы, пажылы, паўнацелы дзядзька з адутлаватым тварам. Ні слова не сказаўшы, зняў бальнічны халат, палажыў на тумбачку, лёг, адвярнуўшыся тварам да сцяны.

А Свірыдовіч думаў пра жонку. Горкія ўсплывалі думкі. Нічога добрага яна за ім не бачыла. Цягнула, як чорны вол, бытавы клопат цалкам узяла на сябе. Пры трох дзецях мела поўную лекцыйную нагрузку. У дадатак бегала па магазінах, варыла, мыла бялізну, нават машыну вадзіла. Ён лічыў, што гэта ў парадку рэчаў. З яго боку гэта быў вялікі эгаізм...

Чым ён ад яе адрозніваўся? Толькі тым, што пісаў кніжкі. Выдаваў, бадай, штогод. Відаць, на гэтай падставе лічыў, што яго занятак вышэйшага парадку. Не, у яго хапала розуму не лічыць сябе вялікім докам. Кніжкі ён не спісваў, выношваў у душы, але вялікіх адкрыццяў у іх не было. Ён гэта ведаў.

Першыя гады іх адносіны трымаліся на каханні. Больш з яе боку, чым з яго. Потым прыйшла прывычка. Для сумеснага жыцця ён не хацеў другой жанчыны, чым яна. Авантурных прыгод не меў ды і не імкнуўся да іх. А яна была вясёлая, іскрыстая і, відаць, трохі артыстка. Пра яе лекцыі — выкладала англійскую і французскую мовы — хадзіла большая слава, чым пра яго лекцыі. Колькі людзей хвалілі яе лекцыі. Асабліва завочнікі, людзі пажылыя, самі пераважна педагогі: яны ведалі толк у выкладанні.

Памяць жонка мела незвычайную. Ніколі не запісвала нумары тэлефонаў: запаміналa іх з першага разу. Ён пакутуе ад адной думкі: не так, як трэба, пражыў жыццё. Не павінна была памерці жонка. Ды яшчэ такая жонка. Ён не цаніў яе, як варта было цаніць. Узваліў на яе плечы ўвесь цяжар будзеншчыны. Хоць яна сама не патрабавала дапамогі, звычайна адбіваючыся: "Рабі сваё". Вось так яно і ішло. Да самай старасці.

II

Зрэшты, ён хутка пазнае чалавека, які ляжыць на суседнім ложку. Гэта Серафім Міхнюк, як і ён, аспірант першых пасляваенных гадоў. Здаецца, географ па спецыяльнасці. Абараніў Міхнюк дысертацыю ці не, ён не памятае. Хоць пасля вайны аспірантаў было мала, і яны адзін другога ведалі. Разам слухалі лекцыі па філасофіі, здавалі залікі, экзамены па замежнай мове, у рэвалюцыйныя святы нават наладжвалі сумесныя гулянкі.

Міхнюк нічым сярод іншых не выдзяляўся. Круглатвары, сімпатычны, ён кожнаму ўсміхаўся, ахвотна ўступаў у размову. паддакваў. Здзівіў ён у канцы навучання дзвюма рэчамі. Сябраваў з дзяўчынай, якая загадвала аспірантурай, сталай, разважлівай. Усе лічылі іх амаль што сямейнай парай. Нечакана для ўсіх Міхнюк выкінуў фартэль незвычайны. У тыя часы аспіранту, ці няхай сабе выдатнаму выкладчыку, які ўсіх зацьміў поспехамі, нават не снілася ўласная кватэра. Бо Мінск ляжаў у руінах, а прафесары жылі на прыватных кватэрах.

Міхнюк, аднак, усіх пераплюнуў. Дамогся патрапіць на прыём да першага сакратара ЦК партыі, расказаў аб сваіх подзвігах (ён, аказваецца, у вайну быў лётчыкам), паплакаў у камізэльку і выбіў кватэру. Гэта быў цуд. Дарэчы, у тую кватэру ён прывеў не загадчыцу аспірантуры, а, па чутках, дзяўчыну, якая працавала ў гандлёвай сетцы. І прапаў з віду...

Гэта магло вытлумачвацца проста: час вялікіх геаграфічных адкрыццяў скончыўся, і перад Міхнюком асаблівыя гарызонты не адкрываліся.

Свірыдовіч з Міхнюком зрэдку сустракаліся на вуліцы ці яшчэ дзе-небудзь і чым далей, тым болей ён знаходзіў былога калегу раздражнёным, скептычным. Знікла ўсмешка на круглым, сімпатычным твары, вясёлы гумар, прыветлівы тон. На ўсё Міхнюк глядзеў як бы праз крытычныя акуляры.

Ясна: дажыўшы да сівых валасоў, яны страцілі пачуццё дружалюбства адзін да аднаго і не вельмі ўзрадаваліся, калі прыйшлося ляжаць у адной палаце. Таму Міхнюк не павітаўся на самым пачатку. Але маўчанне працягвацца бясконца не магло. Памагла доктарка. Прынёсшы нейкія лекі для Міхнюка, сказала:

— Давайце, я вас пазнаёмлю. Ляжаць вам тут яшчэ ды ляжаць...

— Мы знаёмыя, — сказаў Свірыдовіч, — вучыліся разам.

— Дык чаму панадзьмуваліся як мышы на крупы? Можа, некалі дзяўчат не падзялілі?

Свірыдовіч павярнуўся да Міхнюка.

— Падзялілі. Вы майго калегу ў якой палаце трымалі?

— У звычайнай. На тры чалавекі. Але ж вы не прыходзілі да памяці. Я вашу жонку ведала, — працягвала яна без ніякага пераходу. — Таленавітая была жанчына. Яркая. Нас, групу ўрачоў, збіраліся пасылаць у Афрыку. То яна ў нас французскую мову вяла. Толькі я няздольная аказалася. Перастала хадзіць на заняткі. Ад якой хваробы памерла ваша жонка?

— Не трэба пра гэта, — папрасіў Свірыдовіч.

— Не буду, не буду, — доктарка таропка выйшла з палаты.

— Дык у цябе жонка памерла? — неяк як бы ўзрадавана перапытаў Міхнюк, павярнуўшыся да Свірыдовіча.

— Ты ж, мабыць, чуў.

— Я памятаю тваю жонку. Вясёлая, энергічная. Кажуць, ты жыў з ёй, як у бога за пазухай. Ніякага клопату не меў. Як мог ты яе не ўберагчы?

— Захварэла.

—Ты, доктар навук, прафесар не мог жонку на курорт паслаць?

— Пасылаў.

— Усё адно вінаваты. З тваімі магчымасцямі не здолеў памагчы жонцы. Яна ж маладзейшая за цябе.

— Маладзейшая... А ты як?

— Адзін. Сын ажаніўся, жыве асобна. Дачка ў другім горадзе.

Тым часам Свірыдовіч як бы высветліў для сябе даўнюю гісторыю жаніцьбы Міхнюка: з першага года навучання сябраваў з сімпатычнай загадчыцай аспірантуры, але, атрымаўшы кватэру, неспадзявана ажаніўся з другой дзяўчынай. Так, цяпер ясна, ён не абараніў нават кандыдацкай дысертацыі і перад той дзяўчынай яму было проста сорамна.

Мяжа адчужанасці была збольшага пяройдзена, і цяпер яны, даўнія знаёмыя, як у далёкія маладыя гады, маглі размаўляць без нацяжак.

— Слухай, Жэня, — Свірыдовіч нарэшце ўспомніў імя даўняга таварыша, — што думаеш пра таўхатню ў метро?

— Якая таўхатня? Там душагубка была! Мяне падхапіла, як трэску на хвалях, і панесла. Не здолеў выбрацца. У пераходзе апамятаўся і прыціснуўся да сцяны. Ты, во, не здагадаўся. Па табе, відаць, беглі?

— Беглі, — сказаў Свірыдовіч. — Лёгка маглі задушыць.

— Я трымаўся за сцяну як мог. Што там тварылася! Ашалелы натоўп! Напалову п'яны. Піва бясплатна давалі. Некаторыя, відаць, гарэлкі дабавілі. І пашалелі.

— Ты чытаў "Слова аб палку Ігаравым"?

— У школе вучылі. Толькі пры чым тут "Слова"?

Свірыдовіч не стаў далей гаварыць. Міхнюк такімі рэчамі не цікавіцца. А ён даўно думае пра тое, што зямля, на якой адбываюцца крывавыя падзеі, не застаецца да іх абыякавай. Яна як бы зараджаецца адмоўнай энергіяй. І энергія гэта ўплывае на далейшыя падзеі.

Ён, Свірыдовіч, даўно не шпацыруе па набярэжнай Свіслачы, хоць Няміга ўпадае ў Свіслач па даволі вузкай трубе. Праверана вопытам: заўсёды ў час такіх вандровак псуецца настрой. Без ніякай бачнай прычыны.

III

Ноччу прашумеў дождж, які даўно быў патрэбен. Пачынаецца лета. Вясна, тым часам, была сухая, напачатку страшэнная гарачыня — як калі-небудзь у сярэдзіне ліпеня. Потым пачаліся моцныя замаразкі: пашкодзілі сады, нават азімыя пасевы, якія дружна пайшлі ў рост. Клімат на вачах мяняецца.

Свірыдовіч хацеў спытаць аб гэтым Міхнюка, але тут у палату похапкам зазірнула нейкае чарнявае дзяўчанё, і Міхнюк, сарваўшыся з ложка, шуснуў з ёй за дзверы.

— Дачка? — спытаў Свірыдовіч, калі пасля працяглай адсутнасці Міхнюк вярнуўся ў пакой.

— Жонка, — неахвотна адказаў той.

Значыць, Міхнюк другі раз ажаніўся, падумаў Свірыдовіч. І, відаць, нядаўна, бо дзяўчанё залішне маладое. Распытваць, аднак, не стаў.

— Прафесара Гольца ведаеш? — раптам спытаў Міхнюк.

— Ведаю. Харошы чалавек. Вялікі кніжнік. Не мог прапусціць ніводнай навінкі.

— Ведаеш, чаму памёр?

— Немалады быў...

— Ты таксама немалады.

— Меў, як і ты, сына і дачку. Дачка ў другі горад пераехала. Сын прыходзіў толькі грошай прасіць. З Гольцам здарыўся сардэчны прыступ. Сын якраз быў у запоі.

Свірыдовіч пачынае злавацца. Хто такі Міхнюк, што абгаворвае прафесароў, дактароў, заслужаных людзей, глядзіць на іх як бы зверху? Хутчэй за ўсе даўно на пенсіі, а за жонку ўзяў унучку.

— Не памятаю, ці абараніў ты кандыдацкую дысертацыю?

— Напісаў, але не абараніў. Узяў тэму па эканомгеаграфіі. Памятаеш Казельскага? Па тры разы студэнты хадзілі здаваць экзамены. Дык яго мне першым апанентам прызначылі. Напісаў адмоўны водзыў. Пры адмоўным водзыве таксама можна абараняцца. Я — не захацеў: усё адно заваляць. Райком паставіў дырэктарам прафтэхвучылішча. Я і цяпер там. Толькі не на першых ролях...

Вось адкуль такая маладая жонка, падумаў Свірыдовіч. Услых сказаў:

— Нам прыйшлося жыць не ў лепшы час. Вайна, пасляваенная бязладдзе. Ведаеш, болей-меней нармальную кватэру я атрымаў у трыццаць пяць гадоў. Па прыватных кватэрах жыў, па інтэрнатах.

Міхнюк не паспявае нічога адказаць. Зноў у дзвярах чарнявая галоўка маладой Міхнюковай сяброўкі. Былы таварыш выскоквае надзьмуты, злосны.

Не трэба дзядам (Міхнюк, здаецца, нават старэйшы за яго, Свірыдовіча) жаніцца з юнымі асобамі. Ёсць, значыць, сямейныя праблемы ў Міхнюка.

Раптам Свірыдовіча, як маланкай, апякае думка: Міхнюк чорных коней, вядома, не бачыў. Ён нават добра не ведае, што на Нямізе можа на гэтым самым месцы была вялікая бітва, дзе па сведчанні паэта, веялі душу ад цела.

Неба баіцца Міхнюк.

Па небе лятаюць д'ябальскія птушкі, якія ўмомант могуць знішчыць вялікі горад. Жыве ў душы Міхнюка, як відаць, і ў іншых душах, падсвядомы страх перад пачварнымі вынаходствамі чалавека. І страх гэты пагнаў яго ў падземны пераход метро. Бо можна было перачакаць дождж, схавацца пад дрэвы, прыліпнуць да якой-небудзь сцяны, а калі на тое пайшло, то нават трохі прамокнуць. Лета ж, цеплыня...

## Яго стыхія — ураган пачуццяў?



**Прыгожа складзеная праграма: Чайкоўскі, Рахманінаў, Чайкоўскі. Папулярныя, хрэстаматыйныя творы. Выканаўцы — Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, піяністка Вера Накаракава, якая прадстаўляла Францыю, дырыжор Аркадзь Берын. Зала ўражвала даволі высокай для такіх канцэртаў актыўнасцю публікі, у тым ліку моладзі.**

**Увагу, безумоўна, прыцягвала імя А. Берына. Прафесар Беларускай акадэміі музыкі, вядомы педагог, майстар духавога аркестра, ён зрабіў нямала для развіцця і ўздыму гэтага жанру ў нашай краіне. Стварэнне Мінскага аркестра духавых інструментаў "Няміга" — яркі плён яго працы. Цяперашні студэнцкі калектыў "Віртуозы Мінска" (да нядаўняга часу — "Фанфары Беларусі"), прызнаны на еўрапейскіх музычных фестывалях, — таксама яго дзіця. Гэты маладзёжны духавы аркестр, пра што паведамляў і "ЛіМ", з поспехам прадстаўляў нашу сталіцу на Фестывалі тысячагоддзя ў Лондане і атрымаў новыя творчыя прапановы... І раптам маэстра становіцца за пульт Акадэмічнага сімфанічнага аркестра. Парадокс? Але ж душа чалавека творчага — таямніца!**

**Хацеў гэтага А. Берын або не, але яго майстэрства як дырыжора духавога аркестра, яго веданне гэтай стыхіі, яго, магчыма, тэмбравыя, санорныя прыхільнасці адчуліся і ў выкананні акадэмічнай сімфанічнай праграмы. Актыўныя кульмінацыі, магутныя тутці, раскошнае фортэ, напал эмоцый, гукавы баланс "на карысць" групы медных духавых інструментаў — гэтым вылучалася выкананне і Пятай сімфоніі П. Чайкоўскага, і Другога канцэрта С. Рахманінава для фартэпіяна з аркестрам, і уверцюры-фантазіі П. Чайкоўскага "Рамэо і Джульета".**

**Бадай, не варта засяроджваць увагу, што музыканты-духавікі дапускалі інтанацыйныя і штрыхавыя "кляксы", што над лірыкай струнных луналі "заземленыя" кантрапункты трамбонаў, валторнаў, трубаў, што ўдарна-духавы альянс быў забойчай сілай для крохкай піяністкі, якая, да таго ж, мусіла часпочас "гуляць у даганялкі" з аркестрам.**

**Засяродзімся на лепшым і прызнаем, што публіка недарэмна гукала: "брава!" Быў захапляючы фінал Пятай сімфоніі — з вечнай загадкай гэтага ці то ўрачыстага, ці то злавеснага, ці то безвыходнага Марша: вось дзе спраўдзілася "зорная гадзіна" звонкагалосых трубачоў! Былі кранальныя моманты эмацыйнавобразнага яднання салісткі ды аркестра пры канцы 3-й часткі фартэпіяннага канцэрта. Было проста выдатнае музычнае ўвасабленне "тэмы варожасці" ў "Рамэо і Джульеце", ашаламляльная па моцы ўздзеяння сімфанічная распрацоўка.**

**У такія хвіліны разумееш, чаму класіка — заўсёды сучасная, і адчуваеш удзячнасць да маэстра, які бярэцца яе выконваць...**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: прафесар Аркадзь БЕРЫН.*
*Фота М. ПРУПАСА*

## Заводскі культурны цэнтр

**На Гомельскім аўтарамонтным заводзе, вядучым прадпрыемстве рэспублікі, створаны культурны цэнтр. У ім штомесяц праводзяцца выставы вядучых мастакоў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, арганізуюцца калектыўныя экскурсіі школьнікаў горада.**

**Гэтымі днямі адкрылася выстава маладога мастака, пераможцы Рэспубліканскага конкурсу Сяргея Ратчанкі, які зараз займаецца ў Акадэміі мастацтваў. Ён перадаў у дар заводу адну са сваіх работ. Такім чынам пачала ствараецца карцінная галерэя.**

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

КІНО

***...У гэты момант я адчула сябе самым шчаслівым журналістам у свеце: у наш вірлівы час, калі беларускі кінематограф уяўляе нейкі Фантом, пра які ўсе ведаюць, але ніхто яго не бачыў, я апынулася на здымках новай карціны вытворчасці "Беларусьфільм".***

***Здымалі ў парку Горкага. На некалькі дзён у залатой восені "згубілася" невялічкая здымачная група. Рэжысёр Аляксандр Яфрэмаў "ставіў" тут чарговы эпізод кінастужкі "Павадыр". Я ўбачыла рэжысёра-паэта, які з пяшчотай звяртаўся да акцёраў — маладых, прыгожых Валерыі Арланавай, Пятра Юрчанкова, якім было даручана сыграць галоўных персанажаў фільма, усмешлівага Алега Акуліча, выканаўцы эпізадычнай ролі — усе, здаецца, былі ў добрым настроі, хаця і выглядалі крышачку стомленымі.***

***Разявак у той дзень было не тое, што шмат. Але нават закаханыя парачкі прыпыняліся: цуд — кіно! "Цішыня на пляцоўцы. Матор!.." А ў мяне ў галаве «закруціліся» няздобрыя думкі: ці спыніцца потым хто-небудзь з гэтых цікаўных ля кінаафішы, ці купіць на апошнюю капейчыну квіток у кіно?..***

# Ішло кіно з павадыром

## НАЦЫЯ ДУХОЎНЫХ ЛЮДЗЕЙ



— Нічога незвычайнага тут няма — планавая кінаадзінка на сродкі Міністэрства культуры, — расказваў мне потым рэжысёр **А. Яфрэмаў.** — Сцэнарый фільма быў зацверджаны даўно, карціну пачынаў рабіць яшчэ І. Волчак. Мяркуючы па рэжысёрскім сцэнарыі, ён задумваў псіхалагічную драму, але потым засумняваўся ў рэальнасці задуманага, адышоў ад сцэнарыя. І ў гэты момант, паколькі тэрміны падпіралі, мне прапанавалі завяршыць карціну. Нейкі час я раздумваў, працаваў над сцэнарыем. У выніку склаўся зусім іншы па жанры твор, з'явіўся новы сцэнарый, па якім я і здымаю.

**— Я чула, што для вас было прынцыпова, каб у фільме здымаліся толькі беларускія акцёры?**

— Так, прынцыпова. Я перакананы, што малядыя беларускія акцёры саступаюць маскоўскім толькі ў тым, што іх ганарары значна ніжэй. І ўсё. Я не ведаю, які лёс чакае маю карціну, але вельмі спадзяюся, што ўсе акцёры, якія здымаюцца ў ёй, — П. Юрчанкоў-мал., В. Арланава, А. Кот, Д. Тэтруашвілі, А. Караблёва і той жа В. Манаеў, які даўно не з'яўляўся на экране, — будуць выглядаць у гэтым фільме годна, яскрава, прыкметна, цікава, адным словам, так, як яны выглядаюць у сваіх тэатральных работах. Я не збіраюся камусьці штосьці даводзіць. Але цудоўна ведаю маладое пакаленне беларускіх акцёраў, і, на маю думку, у "Павадыры" здымаюцца адны з лепшых з гэтага пакалення.

**— І ўсё ж работа ў тэатры розніцца ад работы ў кіно. Калі ў тэатры "вобраз" можна карэкціраваць столькі, колькі існуе спектакль у рэпертуары, то ў кіно акцёру трэба за некалькі дубляў сыграць так, каб потым не было сорамна, так бы мовіць, за метры патрачанай стужкі. Ступень адказнасці на здымачнай пляцоўцы вялікая. Ці справіцца маладыя акцёры?**

— Усе яны крыху здымаліся, ва ўсіх ёсць невялікія эпізоды ў кіно. Вядома, гэта сур'ёзнае выпрабаванне — сыграць вялікую ролю. Мяркую, што будуць пэўныя памылкі, шурпатасці, але, спадзяюся, што яны не моцна расчаруюць. Вялікая роля — гэта вялікая роля, яна патрабуе практыкі. Але практыкі без спроб не бывае, таму, для маладых акцёраў, перадусім П. Юрчанкова, В. Арланавай гэты фільм будзе многа значыць.

**— Я, на жаль, не чытала сцэнарый, але, убачыўшы на здымачнай пляцоўцы маладых, сімпатычных акцёраў, першае, што прыйшло ў галаву, што фільм пра каханне?**

— Вядома, бо ўсе фільмы пра каханне. Я лічу, што зараз гэта адзін з найперспектыўных *(смяецца)* накірункаў у кінематографе і тэатры. А гаворка ў фільме ідзе не толькі аб любові мужчыны і жанчыны, гаворка ідзе пра самае высокае, вялікае — пра любоў да жыцця. Чалавек можа быць як разгубленым у жыцці, так і змагаром, які даможацца таго, каб жыццё яму ў адказ усміхнулася, прапануючы нешта цудоўнае. Сцвярджаць любоў да жыцця, прыгажосць чалавечай душы — мая маральная пазіцыя, і акцёры, якія працуюць са мной, яе падзяляюць. Справа ў тым, што ўсе тыя метамарфозы, якія адбываюцца зараз з намі, не з'яўляюцца такімі спусташальнымі. Па-мойму, Кедраў сказаў, што, напрыклад, Расія ў чарговы раз, як царэўна-лягушка, скідвае скуру. А многія сродкі масавай інфармацыі "раздуваюць" ідэю катастрафізму нашага існавання. І некаторыя мае калегі на гэтым адчуванні "смажанага" імкнуцца паказаць пачварнасць чалавечай душы. Але душа чалавека цудоўная! І хоча гэта душа гармоніі, а гармонія пачынаецца з таго, што адбываецца побач з табой, вакол цябе. Як ні дзіўна, пры такіх маштабных зменах у палітычным, сацыяльным жыцці, людзі ўсё больш паглыбляюцца ва ўласнае ўнутранае жыццё: дом, сям'я, адносіны з блізкімі людзьмі. Таму што сваё жыццё — гэта адносіны, пазбаўленыя надрыву, надлому, нечаканых зменаў. Калі чалавек застаецца сам-насам, ён разумее, што "гістарычная падзея" непасрэдна яго жыцця не тычыцца. А застаюцца простыя рэчы — любоў, шлюб, дзеці, надзея на тое, што з гэтым домам, з тваімі роднымі ўсё будзе добра.

Наогул, сёння жыць трэба старанна, жыццё — гэта вельмі сур'ёзная работа. У тым, што зараз мноства людзей адчуваюць расчараванне, неўладкаванасць, бесперспектыўнасць, трэба вінаваціць не толькі час, але саміх сябе таксама. Мы звыкліся з утрыманскімі адносінамі да гэтага жыцця, дзяржавы, а між іншым час утрыманства ўжо прайшоў, трэба самім нешта рабіць. Трэба маральна рыхтаваць сябе да таго, каб жыць перамагаючы цяжкасці. Іншага шляху няма і не можа быць. Мне вельмі падабаецца думка Гогаля, што задача мастацтва прымірыць людзей з рэчаіснасцю. Прымірыць, а не абвастрыць гэты канфлікт яшчэ больш. Я паспрабаваў змадэляваць сітуацыю, у якой чалавек не крыўдзіцца на сваё жыццё, шукае выйсце. Мае героі любяць, а не ненавідзяць.

**— Значыць, фільм "пра вырадкаў і людзей" здымаць ніколі не будзеце?**

— Як? Пра вырадкаў і людзей? Думаю, што ёсць людзі, у якіх гэта атрымаецца лепш, чым у мяне. Я наўрад ці б знайшоў у сабе моц, каб зняць нешта такое.

**— А пра што будзе ваша карціна, калі больш дакладна?**

— Фабула даволі простая, нават прымітыўная. Малады чалавек разам са сваім любімым сабакам — абодва яны вельмі задзірыстыя — апынуліся у вельмі непрыемнай сітуацыі: мусілі пакараць хуліганаў, а трапілі ў міліцыю. Юнак спрабуе ўладкаваць сабаку, знаходзіць сляпую жанчыну. Пасля таго як хлопца выганяюць з інстытута, ён употайкі жыве у кватэры сляпой. Разумее, якія цяжкасці яна перадольвае, імкнецца ёй дапамагчы, шукае магчымасць вылечыць яе. Натуральна, паміж героямі ўзнікае любоў...

**— На маю думку, сучасны беларускі кінематограф страціў кантакт з гледачамі. Не баіцеся, што ваш фільм, нават з такім меладраматычным сюжэтам, трапіць на паліцу?**

— Магчыма, я гэтага не выключаю, хаця апошняя мая карціна "Наш чалавек у Сан-Рэма", якую я зняў дзесяць гадоў таму, па апытанні была адной з самых папулярных у рэспубліцы, яе набылі практычныя недзе з дваццаці краін. І не толькі таму, што там была эстрада. Сюжэт фільма таксама быў даволі наіўны, з даволі сімпатычнымі заканханымі. Спадзяюся, што і гэта карціна не будзе "голасам таго, хто кліча ў пустыні", а знойдзе пэўны водгук у публікі. Тым больш, што робім мы "Павадыра" ў сістэме "долбі-стэрэа" — гэта тая тэхнічная навінка, якая зацікавіла гледачоў, вярнула іх у кінатэатры. Хочацца, каб у стужцы было шмат музыкі: У. Някляеў і В. Іваноў мусілі напісаць некалькі песень. Спявак К. Слука сам прыйшоў на здымкі фільма. Ён зняўся ў невялічкім эпізодзе, у якім сыграў вулічнага музыканта, які ў пераходзе выконвае пад гітару цудоўную песню...

Вось вы сказалі пра кіно-фантом, якога ніхто не бачыць, я ж лічу, што гэта не зусім так. Так, кінематографу дапамагае Міністэрства культуры, але, на маю думку, дзяржаўная праграма па развіцці нацыянальнага кінематографа павінна быць значна шырэйшай, чым ёсць. Я не стаміўся яшчэ расказваць пра адзін выпадак, які мяне вельмі забаўляе. Вы ведаеце, што ў некаторых амерыканскіх штатах выйшлі ў заканадаўчым парадку загады аб пашырэнні памераў крэслаў у грамадскім транспарце, у кінатэатрах. Чаму? А таму, што ў амерыканцаў, такой шчаслівай, адкормленай нацыі, папросту расце задок. Але мы іх ведаем іншымі: вандамамі, шварцанегерамі, шэронстоунамі. Прыгожымі, гарманічнымі, цэльнымі, якія заўсёды дамагаюцца перамогі, вельмі чалавечнымі, гуманнымі. І Амерыка прапагандуе гэты вобраз усяму свету, такімі ведаюць амерыканцаў, а не такімі, што ходзяць у шортах, з тоўстымі нагамі, з гамбургерамі ў руках. Вобраз першых стваруў Галівуд. Памятаю яшчэ ў ВГІКу колькі было дыспутаў на тэму, які ж ён сучасны герой. Амерыканцы ж вызначылі даўно — які ён. Паглядзеўшы рабочы варыянт "Сібірскага цырульніка", знакаміты амерыканскі акцёр і рэжысёр К. Костнер папрасіў Міхалкова зрабіць так, каб амерыканскі сяржант усё ж ведаў, хто такі Моцарт. Барані Божа, каб еўрапейскі рэжысёр паспрабаваў рэальна зірнуць на амерыканца! Гэта лічыцца ледзь не блюзнерствам. Бо вобраз існуе, парушаць яго нельга, амерыканская дзяржаўная машы-

на працуе менавіта на гэта — стварэнне Вобраза. Чаму мы гэта прапускаем, я не ведаю. Дзякуй Богу, ёсць на беларускай зямлі людзі, якія імкнуцца дапамагчы беларусам паверыць у тое, што яны крышачку іншыя, не такія, якія стаяць у чэргах, на аўтобусных прыпынках ці ў перапоўненых вагонах метро. Мы — не злыя, не агрэсіўныя, не дурныя. Мы — іншыя: добрыя, шчырыя, здольныя на высакародныя, бескарыслівыя ўчынкі. Мы не нацыя забойцаў, крымінальнікаў. Мы нацыя вельмі духоўных людзей, і пра гэта трэба казаць з экрана.

### ПЛАНЕТА-ХХ ВАЧЫМА МАЛАДЫХ

**— Аляксандр Васільевіч, некалькі гадоў таму вы выпусцілі курс маладых рэжысёраў. Ці сочыце за лёсам сваіх вучняў?**

— Вядома, сачу. І вельмі ганаруся, калі яны прывозяць прызы з міжнародных кінафестываляў. Вось зусім нядаўна А. Войніч браў удзел у буйнейшым тэлевізійным фестывалі. А. Кудзіненка зрабіў цудоўную стужку, прысвечаную В. Вінаградаву, атрымаў прыз за яе на міжнародным кінафэсце ў Венгрыі. А. Колбышаў за сваю дыпломную работу быў ўганараваны прызам імя А. Таркоўскага на "Залатым Віцязі". Вядома, хацелася б, каб яны здымалі вялікае кіно. Спадзяюся, што яшчэ будзе такая магчымасць, бо людзі яны маладыя...

**— Аднак А. Колбышаву сорак гадоў?**

— Ну і што? Прафесія рэжысёра — гэта прафесія вельмі дарослага чалавека. І, можа, гэта дарасласць не заўсёды супадае з дарослацю па метрыцы, бо гэта дарослацць душы, сур'ёзнага разумення жыцця. А Саша разумее гэта жыццё і гэта разуменне ў яго не адніме нават бязлітасны час.

**— А як вы ставіцеся да таго, што апошні фільм А. Кудзіненкі "Планета-ХХ" прыпынілі па этычных прычынах, маўляў, з-за прапаганды вайны?**

— Я ведаю Андрэя як чалавека надзвычай рамантычнага, тонкага, вельмі далікатнага. Ніколі я не бачыў у Андрэя схільнасці да мілітарызму. Напэўна, яго не так зразумелі, няправільна вытлумачылі, таму што ён чалавек гуманны, чалавек, так бы мовіць, адраджэння. Не выключаю, што ёсць іншыя матывы, пра якія мы папросту не ведаем.

### ТЭАТР, ЯК ВОСТРАЎ КАХАННЯ І НАДЗЕІ

**— Здымкі кінафільма "ўцісnуліся" ў графік вашай работы мастацкім кіраўніком Тэатра-студыі кінаакцёра. Чым жыве сёння тэатр, якія цяжкасці перадольвае?**

— Як бы хацелася, каб наша дзяржава была больш шчодрай у фінансавай падтрымцы мастацтва! Як бы хацелася, каб законы, якія існуюць у нашай рэспубліцы, заахвочвалі фундатараў і мецэнатаў, каб пра нас надоўга не забываліся!

У нашага тэатра было шмат праблем, якія немагчыма параўнаць з праблемамі іншых тэатраў. Нас на працягу доўгага часу спрабавалі закрыць, маўляў, такі тэатр непатрэбны, лепш добрае кіно рабіць. Дзякуючы Мінкульту мы захаваліся і літаральна тры-чатыры гады таму ў тэатры пачаўся пад'ём, да нас вярнуўся глядач, у нас практычна заўсёды аншлагі. У мінулым годзе сярэдняя запаўняльнасць залы склала 98,5%, праз нашу невялікую залу прайшло 60 тысяч гледачоў. Гэта шмат нават для горада Мінска. Я зразумеў, што мы робім тое, што знаходзіць водгук у сэрцах людзей, многія глядзяць нашы спектаклі па некалькі разоў. Аднак паколькі ў нас не хапае сродкаў на стварэнне новых спектакляў, наш рэпертуар крыху састарэў. У гэтым сезоне задача як мага абнавіць рэпертуар. Хутка У. Грыцэўскі і А. Бяспалы прадстаяць на суд публікі новы спектакль "Востраў нашага кахання і надзеі" паводле п'есы Г. Салоўскага. Паралельна з "Павадыром" я збіраюся паставіць "Пігмаліёна" Б. Шоу. У планах тэатра ёсць таксама адзін спектакль для дзяцей. Такім чынам, у нас з'явяцца чатыры новыя спектаклі. Для нашага рэпертуару гэта многа, таму што былі часы, калі мы былі здольныя паставіць толькі адзін новы спектакль у два гады. Але мы жывём, і самае галоўнае — працуем.

Гутарыла
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

ВЫСТАВЫ

# Ілюзія адлегласцяў

***Фотавыстава "Ілюзія адлегласцяў" рыхтавалася доўга, ледзьве не з паўгода, з'явілася яна з ініцыятывы Нацыянальнага мастацкага музея. Канцэпцыю распрацаваў мастацтвазнаўца Міхал Баразна, не абышлося без значнай дапамогі ў арганізацыі выставы і выданні каталога Нямецкага культурнага цэнтра імя Гётэ. Запрошаны былі, акрамя беларускіх удзельнікаў Міхала Баразны і Дзяніса Сінюгіна, Богдан Канопка ад Францыі (паляк па нацыянальнасці, зараз ён жыве ў Парыжы), Цім Ульрыхс і Штэфан Холекамп ад Германіі. Каманда фотамайстроў падабралася прадстаўнічая. Яны далёкія ў сваёй творчасці ад рэпартажнасці і звыклай фіксацыі з'яў, суб'ектыўныя ў адлюстраванні акаляючага іх свету. У папярэдняй і сённяшняй творчасці спрабуюць знайсці універсальныя ілюзіі існавання чалавека ў свеце. І галоўнае — кожны з іх індывідуальны як мастак і асоба.***

Падаецца, што Мінск, які мы звыкла ўспрымаем у паўсядзённасці як шэраг падобна-шэрых адбіткаў у свядомасці, цалкам паклаўся на фатаграфічнае раскрыццё зададзенай тэмы. Мінск — сучасны горад, і ў той жа час тут жывуць імітацыі і ілюзіі папярэдніх эпох. У горада няма цэльнай гарадской панарамы, няма сярэднявечнага рэльефу з саборнымі шпілямі і вялікай ракою, тыповага для старажытнага еўрапейскага горада, няма шэдэўраў архітэктуры... Затое на кожным кроку тут заўважаеш нібы выхапленыя з розных стагоддзяў дробязі стыляў і накірункаў. Імітацыя... Нездарма ў некаторых сваіх папярэдніх фотасерыях Міхал Баразна выбіраў у якасці сімвала горада вялікія псеўдаантычныя вазы ў агароджы сквэрыка насупраць цырка. Крыху аблупленыя непагаддзю за паўстагоддзя свайго існавання, яны таксама ёсць ілюзія, імітацыя, якая суправаджала ўсё будаўніцтва сталічнага праспекта і надала цэнтру горада унікальнасць пэўнай стылёвай бясстылёвасці.

Кожны з замежных гасцей прыехаў у Мінск загадзя, меў перакладчыка і свае асабістыя маршруты. Выстава, пабудаваная на прафесіяналізме і нестандартным падыходзе да вырашэння зададзенай тэмы, стала з'яваю ў фотамастацтве рэспублікі.

Богдан Канопка на Беларусі ўжо не першы раз. Беларусь для яго — адна з кропак Усходняй Еўропы, якую ён мае намер укласці ў вялікую фатаграфічную серыю. Яго работы — вырваныя з кантэксту горада асобныя моманты існавання ў бязлюдных прасторах. Яны прадстаўляюць Мінск ад помніка Леніну да рэкламных шчытоў "Зроблена ў Беларусі" і "Кока-кола". Сам мастак тлумачыў "свой" Мінск як шэраг пытанняў, а не адказаў — што было і што будзе на гэтым месцы ў будучым.

Цім Ульрыхс, прафесар Мюнстэрскай акадэміі мастацтваў, самы сталы з удзельнікаў выставы і, мабыць, найбольш знакаміты з іх. Колькасць адкрытых ім выставаў незлічоная, як і колькасць ідэй, увасобленых за апошнія трыццаць з лішкам гадоў. У 1961 г. ён абвясціў сябе жывым аб'ектам мастацтва і выставіў самога сябе ў шкляной скрыньцы. Фантазія яго нястомная, яна датычыць усіх яго ных работ (напрыклад, займаючыся віртуальнай паэзіяй, ён выстрыг усе лісты на адным дрэве квадрацікамі, выбіў на сталактытах адбіткі чалавечых рук, каб яны з'ядналіся праз тысячу гадоў і г.д.). У Мінск ён прывёз некалькі каробак са слайдамі, каб прадэманстраваць набыткі сваёй творчасці студэнтам. Лекцыя адбылася ў Акадэміі мастацтваў, але, на жаль, актыўнасць студэнтаў была мінімальнай, слухачамі аказаліся колькі зацікаўленых спецыялістаў. Здымкі, якія Ульрыхс прадставіў на мінскай выставе, зроблены ў Германіі. У Мінску мастак задумаў новую серыю — сфатаграфаваць у кватэрах не проста тэлевізары, а тое, што стаіць на іх, усе бытавыя дробязі, попельніцы, вазачкі... Гэтыя асацыяцыі нарадзіліся ў яго пад уплывам тэмпу нашага жыцця, які "іншы, чым у Еўропе, тут павольнасць існуе ў прыродзе".

Штэфан Холекамп вядомы ў Германіі як заснавальнік рок-гурта, як творца ў галіне фота, мультымедый і музыкі. Яго работы на выставе адразу кідаюцца ў вочы. Гэта серыя выяваў неба над рознымі краінамі свету. Апошні здымак з серыі — мінскае неба. Па словах мастака, "яно тут мае асаблівы пранізлівы сіні колер".

Беларускія ўдзельнікі праекта нам добра вядомыя. Міхал Баразна неаднаразова ўдзельнічаў у канцэптуальных фотапраектах. Яго апошняя серыя — спроба стварыць ілюзію з дапамогай бытавых рэчаў — кубка разлітай кавы, "самалёціка" са спісанага ліста паперы, сярпа... на паверхні з драўляных дошак. Цікавыя работы і маладога мастака Дзяніса Сінюгіна, які шмат часу аддае фота- і відэапраектам.

Арганізатарамі выставы выступілі таксама Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь, пазней далучыўся Шведскі інстытут, таму што нечаканa апошняй незапланаванай удзельніцай выставы стала шведская фотажурналіст Марыя Сёдэрберг. Да апошняга дня яе работы не бачыў ніхто з арганізатараў выставы, яны сталіся нечаканасцю, тым больш што прысвечаны зусім незапланаванай тэме — маці і дзіця. Сёдэрберг шмат працуе на беларускім матэрыяле, выпусціла кнігу "Візіт у Пінск з Рышардам Капусцінскім". Але яе работы больш рэпартажнага плана, чым канцэптуальнага. Дужа яркія, размешчаныя блізка адна да адной яны стварылі падабенства коўдры ці фоташпалераў пры ўваходзе на лесвіцу музея. Многімі гледачамі яны небеспадстаўна не асацыіраваліся з асноўнай экспазіцыяй. Удзел у выставе М. Сёдэрберг, падаецца штучным, тым больш вакол героя ў яе фотаздымкаў хутка ўзніклі размовы і палітычныя спрэчкі, зусім не патрэбныя ні выставе, ні музею ажыятаж. Думаецца, што такая ілюзія бурлівай дзейнасці аніяк не адпавядае сапраўднай творчасці.



Тым не менш праект і выстава знайшлі зацікаўленасць і водгукі сярод мінскіх мастакоў. Можна спадзявацца, што і запрошаныя госці рэалізуюць у будучых сваіх работах уражанні ад тыднёвага падарожжа па Мінску.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

НОВАЕ

# Музыка ад Сярэднявечча да Класіцызму...

***Выйшла новая кніга вядомай даследчыцы гісторыі музычнай культуры Беларусі Вольгі Дадзіёмавай, у якой падсумаваны ранейшыя і новыя яе даследаванні ў гэтай галіне. (Гл. "ЛіМ" за 13.10.2000 г. — Рэд.) Аўтар прадставіла яе чытачу як вучэбны дапаможнік для студэнтаў вышэйшых і навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў культуры і мастацтва. Аднак, на наш погляд, кніга мае большае значэнне. Гэта гісторыя развіцця нашай айчыннай музычнай культуры з X да канца XVIII стагоддзя, пададзеная ў сцістай форме.***

За апошні час Вольга Дадзіёмава ў сваіх працах упершыню ў беларускай навуцы даследавала гэты перыяд у гісторыі музычнай культуры, які практычна да яе не даследаваўся беларускімі мастацтвазнаўцамі. Таму з навуковага пункту гледзішча новую яе кнігу трэба ўспрымаць не толькі як вучэбны дапаможнік, але як і навуковае выданне.

Прытрымліваючыся агульнапрынятай цяпер перыядызацыі, аўтарка прапануе свой падзел на перыяды, згодна са зменай музычна-стылявых эпох, ад Сярэднявечча да Класіцызму, што апраўдана тэматыкай яе даследавання. Адпаведна тым дакументальным матэрыялам і звесткам з гісторыі музычнай культуры, якія захаваліся і ў большасці выяўленыя ў архівах і бібліятэках розных краін В. Дадзіёмавай (Беларусь, Расія, Украіна, Летува, Польшча, Германія, Бельгія), аўтарка змясціла свой матэрыял па раздзелах, якія паказваюць паступовае развіццё музычнай культуры ў Беларусі.

Трэба адзначыць вельмі цікавы і змястоўны раздзел пра кампазітараў Беларусі XVI—XVII стагоддзяў. Чытач даведаецца шмат новага пра такіх творцаў XVI ст., як Цыпрыян Базылік (больш вядомы як паэт і перакладчык) і Вацлаў з Шамотул, такіх кампазітараў XVII ст., як Жыгімонт Ляўксмін і Мікалай Дылецкі.

Цалкам апраўданае ўключэнне асобных нарысаў пра кампазітараў Беларусі ў XVIII стагоддзі і нарыса пра замежных музыкантаў у Беларусі ў XVIII ст. Такім чынам, Вольга Дадзіёмава паказала, што ў XVIII стагоддзі музычная культура Беларусі была цесна звязана з агульнаеўрапейскай культурай. Яна высвятляла, што галоўнымі асяродкамі музычнай культуры былі беларускія гарады і палацы магнатаў. Мецэнаты-магнаты адкрылі ў цэнтрах сваіх маёнткаў музычныя тэатры высокага ўзроўню — ад Слоніма і Нясвіжа да Шклова.

Сярод нарысаў пра вядомых кампазітараў XVIII ст., такіх, як Міхал Казімір Агінскі і яго далёкі сваяк Міхал Клеафас Агінскі ці Мацей Радзівіл, аўтарка змясціла аповед пра музычныя творы кіраўніка вызваленчага паўстання 1794 г. Тадэвуша Касцюшкі (пра музычныя творы якога мала вядома). Вялікі нарыс прысвечаны Восіпу Казлоўскаму, які пасля працы на Беларусі доўгі час у першай чвэрці XIX ст. служыў у Пецярбургу ў дырэкцыі імператарскіх тэатраў.

У кнігу ўключаны асобны раздзел "На музычных скрыжаваннях", у якім змешчаны нарысы па гісторыі музычных сувязяў Беларусі з Расіяй, Украінай, Чэхіяй, Італіяй, Францыяй і Германіяй з XVI да XIX стагоддзя і артыкул пра Станіслава Манюшку, які паходзіў са старажытнага беларускага роду. Кнігу заключаюць нарысы пра развіццё музычнай культуры на Беларусі ў XIX стагоддзі.

Каштоўным дадаткам да тэксту кнігі Вольгі Дадзіёмавай з'яўляецца спіс літаратуры, рэкамендаванай для паглыбленага вывучэння гісторыі музычнай культуры Беларусі да XX ст., у якім пералічаны манаграфіі, вучэбныя дапаможнікі, зборнікі артыкулаў, даведнікі і асобныя артыкулы, а таксама нотныя выданні. І да ўсяго гэтага змешчаны нотны дадатак (больш за 40 старонак кнігі).

Рэцэнзуемая кніга напісана (як заўсёды ў кнігах і артыкулах В. Дадзіёмавай) добрай беларускай моваю і таму чытаецца лёгка і з прыемнасцю.

Ёсць толькі адна заўвага. На стар. 109 няправільна пазначаныя даты нараджэння і смерці Мацея Радзівіла, паэта і кампазітара, які жыў у Нясвіжы і быў апекуном малалетняга Дамініка Радзівіла, нясвіжскага ардыната. Сапраўды ж віленскі кашталян Мацей Радзівіл нарадзіўся 10 лістапада 1749 г. і памёр 2 верасня 1800 года.

А ў цэлым трэба адзначыць новую кнігу нашай таленавітай даследчыцы Вольгі Дадзіёмавай як унёсак у гістарыяграфію не толькі музычнай культуры Беларусі, але і ўвогуле беларускай культуралогіі.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ,**
**доктар гістарычных навук,**
**прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі**

*Дадзіёмава Вольга. Нарысы гісторыі музычнай культуры Беларусі. Мінск, 2000. — 256 с.*

## Не ў ладах з беларускай гісторыяй

**У 1999 годзе ў выдавецтве "Феникс" (Растоў-на-Доне, Расія) выйшла кніга Андрэя Вянкова і Сяргея Дзеркача "Вялікія палкаводцы і іх бітвы". У першую чаргу ў ёй мяне зацікавілі падзеі, звязаныя з Беларуссю. Гэта раздзелы пра Грунвальдскую бітву і бітву пад Воршай.**

**Спынімся на Грунвальдскай. З першых радкоў робіцца зразумелым, што гісторыі Беларусі аўтары добра не ведаюць. Беларускія войскі называюцца рускімі, а жамойцкія — літоўскімі. Напрыклад, у польскім войску: "42 (харугвы. — Д. М.) чисто польские, [...] и 7 хоругвей из уроженцев русских областей" (с. 295). Адкуль жа ў польскім войску руская харугвы? Высвятляецца, што рускімі называюцца палкі з украінскіх зямель. Але на той жа старонцы чытаем: "Литовское войско выставило 40 хоругвей, из них 36 русских". Пад рускімі трэба, пэўна, мець на ўвазе беларускія. Блытаніна поўная!**

**З самага пачатку аўтары недаацэньваюць ролю ў бітве вялікага князя Вітаўта, бо Ягайла, польскі кароль, хоць і лічыўся галоўнакамандуючым, непасрэднага ўдзелу ў бітве не прымаў. Але нават Ягайлу, хітрага і вопытнага палітыка і дыпламата, яны называюць "безвольным" (с. 284), "слабовольным" (с. 287) і "незадачливым" (с. 288). Няправільна ацэнены і некаторыя падзеі бітвы. Напрыклад, прытворнае адступленне часткі войск ВКЛ расцэнена як "бегство" (с. 299). Як вядома, перад пачаткам Грунвальдскай бітвы тэўтонскія рыцары выкапалі перад сваім войскам так званыя "воўчыя" ямы, у якія праваліліся б конніца Вялікага Княства, калі б пачала наступленне. Але аб'яднаная армія ВКЛ і Польшчы не спяшалася пачынаць бітву. Тады Ульрых, магістр Тэўтонскага ордэна, паслаў двух герольдаў Вітаўту і Ягайлу з прапановай, каб тэўтонцы адышлі, крыху адышлі, а ваенныя падзеі разгортваліся б на гэтым полі.**

**Чаго хітраваць? Ульрых хацеў пакінуць працўніку месца, для таго, каб той потым атакаваў тэўтонцаў і трапіў у "вовчыя ямы".**

**Аўтары кнігі інакш тлумачаць сітуацыю — не ў адпаведнасці з гістарычнай праўдай. Паслухаем іх: "Вопрос был решен по-рыцарски (??? — Д. М.). Ульрих решил послать королю Ягайло в качестве вызова к бою два меча и отойти, чтобы очистить для польско-литовской армии место для боя" (с. 291). Нават у гэтай кароткай цытаце ёсць яшчэ адна памылка. Магістр паслаў не два мячы Ягайлу, а адзін. Другі ж адправіў Вітаўту.**

**Калі ўважліва чытаеш кнігу, заўважаеш яшчэ некаторыя вельмі істотныя і больш дробныя памылкі. Напрыклад, на старонцы 286 напісана, што ў 1385 годзе Ягайла памірыўся з Вітаўтам. На самай справе гэта адбылося на год раней — у 1384 годзе. На той жа старонцы гаворыцца, што "в 1391 году Витовт отвоевал Литву". Пра якую заваёву Літвы можа ісці гаворка, калі Вітаўт не захапіў ніводнага буйнога горада ВКЛ, акрамя Гародні? Не захапіў ні Полацка, ні Вільні.**

**І яшчэ на той жа старонцы: "Теперь надо было "пристроить" Скиргайло (брат Ягайлы. — Д. М.), и Витовт отвоевал для него Киев, выгнав оттуда младшего брата Ягайло, Владимира Ольгердовича". Па-першае, Вітаўт не адваёўваў Кіеў, а Уладзімір аддаў яго сам, ведаючы вайсковую сілу Вітаўта, і атрымаў узамен ва ўладанне горад Капыль. Па-другое, Ягайла быў сынам Альгерда ад другога шлюбу, а Уладзімір — ад першага. Які ж тут "младший брат"?**

**Далей. На старонцы 284 чытаем: "Он (Ягайла. — Д. М.) женился второй раз, но Витовт обвинил его новую жену Софью в измене..." На самай справе Соф'я была ў Ягайлы чацвёртай жонкай. Незразумела таксама, чаму аўтары называюць маці Ягайлы, цвярскую князёўну Уляну "Иулианией"? Навошта так перакручваць імя?**

**Усе пералічаныя памылкі сведчаць, што аўтары кнігі "Вялікія палкаводцы і іх бітвы" Андрэй Вянкоў і Сяргей Дзяркач не разбіраюцца як след у беларускай гісторыі, што, на жаль, зрабілася сумнай традыцыяй для многіх рускіх аўтараў.**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,**
**навучэнец І-га курса Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа**

ВІНШУЕМ!

# Пад Слуцкам, над Случчу...

***Гэтымі днямі споўнілася 60 гадоў Яўгену Гучку — паэту, крытыку, публіцысту-даследчыку роднай гісторыі і культуры, вядучаму рэдактару выдавецтва "Народная асвета". Ён — даўні аўтар нашага штотыднёвіка, неаднаразова выступаў у ім з цікавымі і змястоўнымі публікацыямі і, вядома ж, з вершамі.***

***Адрасуючы вершы чытачам "ЛіМа", рэдакцыя штотыднёвіка віншуе Яўгена Сяргеевіча з 60-годдзем і зычыць яму здароўя, новых творчых поспехаў і жыццёвых удач.***

Яўген ГУЧОК



### Радзіме

*У гонар твой князі і каралі,*
*Паэты і героі дбалі многа,*
*А для мяне ты — й месца*
*на Зямлі,*
*Дзе я з'явіўся, каб успомніць*
*Бога.*

•

*Пад Слуцкам, над Случчу*
*На стозе духмянага сена*
*Ляжу, сузіраючы*
*зорную ноч...*
*Мой Божа!*
*Якая наўкола стаіць цішыня,*
*Што здаецца мне:*
*чую я шэпт,*
*Шэпт пальмавых*
*лісцяў чую*
*З радзімы продкаў маіх*
*далёкіх —*
*Арыяў высакародных.*

•

*Касцёл — харашун,*
*прыгажуня — царква,*
*Глянеш і — кругам*
*ідзе галава...*
*А ўсерадзіне,*
*Пасерадзіне —*
*Паланізатары,*
*Русіфікатары —*
*Ліха іх матары —*
*Каланізатары.*

•

*Гэты едкі, цяжкі дым*
*Быў калісьці кветкамі,*
*Што ўпрыгожвалі*
*сабой*
*Родныя палеткі.*
*Вось і людзі Беларусі*
*Дымам гэтым сталі...*
*І няма ў іх да Радзімы*
*Ні любві, ні жалю.*

УРАЖАННЕ

# Шлях, які адбыўся

Па-рознаму прыходзяць людзі ў паэзію. У адных гэты шлях імклівы і акрылены маладосцю, калі цябе заўважаюць, хваляць, друкуюць, у другіх — паволны, пакручасты, калі праз пакуты і пошукі прыходзіш да сябе ўжо тады, калі твае аднагодкі сталі класікамі...

"Паэт заўсёды малады", — так, здаецца, выказваюцца вялікія. Таму, калі гаворка пойдзе пра аўтара тоненькай паэтычнай кніжачкі "Я ішла да сябе", якая выйшла ў Полацку, Надзею Салодкую, я яе ўзрост згадваць не буду, скажу толькі адразу, што шлях да сябе ў Надзеі быў доўгі і няпросты, поўны драматычных абставін, пра што, урэшце, і сведчыць сама кніга, яркая і запамінальная.

*Час надводзіць пэўныя рахункі,*
*а я ўсё навобмацак іду.*
*У мяне з жыццём свае стасункі,*
*толькі нешта сцежкі не знайду.*
*Не зманi спагадлівым паглядам,*
*але й праўды лепей не кажы.*
*Запусцелым, адзічэлым садам*
*мне стаяць да самае мяжы...*

*Надзея Салодкая. Я ішла да сябе. Вершы, Полацк, 2000 г.*

Каму з творцаў не знаёмы гэты боль, гэтыя сумненні, адвечны пошук сябе? Забягаючы наперад, скажу, што не запусцелым адзічэлым садам выступае ў кнізе паэзія Надзеі Салодкай, а шчырай спеласцю, сталым буяннем фарбаў.

*Падзялілі дажджынку*
*на дзве палавінкі,*
*Падзялілі пароўну вясёлкі дугу.*
*Падзялілі мелодыю першай травінкі*
*І Сусвет, і самоту, адчай і тугу.*
*Падзялілі ўсё і... пакінулі цэлым*
*Поле ў красках, нябёсы, вясёлку,*
*дажджы,*
*Дзьмухаўцы ўзляцелі завеяю белай,*
*Учарнелі паспелыя гронкі ажын...*

Так склаўся лёс Надзеі Салодкай, што ад першых радкоў, напісаных у маладосці, да сённяшніх сталых і глыбокіх вершаў, быў шлях у дзесяткі гадоў. Жыццё не песціла яе, і толькі вельмі мужны, вельмі трывалы чалавек мог вытрымаць яго выпрабаванні, не здаца, не апусціць рукі, знайсці ў сабе сілы да дабрыні і спагады, да высокага ўзлёту духу. І калі ўсё гэта пачало ўвасабляцца ў глыбокую і тонкую лірыку, наступілі новыя выпрабаванні, выпрабаванні на трываласць паэтычную. Тыя невялікія і рэдкія падборкі, што пачалі з'яўляцца ў рэспубліканскім друку, не маглі даць поўнага ўяўлення пра творчасць паэткі, ды і кніжка, якая выйшла ў Полацку, мае надта міззэрны тыраж. Тым не менш, для паэта — гэта ўжо выхад у свет, выхад да чытача. А выйсці, як я ўжо казаў, ёсць з чым:

*Гэта я пазалотаю клёнаў,*
*Амярцвелай лістотай лячу,*
*Малай радасці, промнем замкнёным*
*Непасільную подаць плачу.*
*Гэта ты пад разлапістым вязам*
*Шапаткім дываном перасох...*
*Заўтра дворнікі выметуць разам*
*І звязуць у бліжэйшы лясок.*

Не ўсё, вядома, роўна ў радках Надзеі Салодкай. Адсутнасць таго, што называецца выдавецкай практыкай, высвечвае часам і каструбаватае слоўца, і недакладную рыфму... Кніжцы "Я ішла да сябе" не пашкодзіў бы вопытны рэдактар. Мне здаецца, што гэта, тым не менш, другаснае. Галоўнае, што шлях да сябе ў Надзеі Салодкай адбыўся. Хацелася, каб гэты шлях надалей быў больш шчаслівы і плённы.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Не толькі для філолагаў

У наш час, калі беларуская мова апынулася на перыферыі сацыяльнага жыцця краіны, адыгрывае ў ім не тую галоўную ролю, якую выконваюць мовы тытульных нацый іншых дзяржаў свету, публікацыю кожнай новай працы па беларускай мове трэба разглядаць як важную грамадскую і культурную падзею.

Падрыхтаваная кніга прысвечана традыцыйным і даволі добра распрацаваным у айчыннай лінгвістыцы раздзелам навукі аб беларускай мове — фанетыцы і марфалогіі, а таксама менш даследаванаму раздзелу — фаналогіі, што, дарэчы, не знайшло адлюстравання ў найменні вучэбнага дапаможніка. Тым не менш, праца з'яўляецца актуальнай і неабходнай асабліва для навучэнцаў, што набылі пэўныя веды аб беларускай мове, у прыватнасці, згодна з праграмай сярэдняй школы, і маюць на мэце авалодаць больш грунтоўнымі тэарэтычнымі звесткамі пра адну з найбольш старажытных пісьмовых еўрапейскіх моў, помнікі якой засведчаны яшчэ ў XII ст., а ў пачатку XVI ст. на старабеларускую мову зроблены Ф.Скарынам пераклад Бібліі, раней, чым, напрыклад, на англійскую, і на некалькі стагоддзяў раней, чым на рускую.

Самай каштоўнай рысай вучэбнага дапаможніка, якая адрознівае яго ад іншых шматлікіх работ па беларускай фанетыцы і марфалогіі, выдадзеных у нашай краіне, служыць тое, што ўсе звесткі па згаданых раздзелах мовазнаўства, разглядаюцца ў шырокім навуковым кантэксце, складзеным з думак, меркаванняў, канцэпцый, тэорый найбольш аўтарытэтных вучоных як у галіне беларусістыкі, русістыкі і ўвогуле славістыкі, так і ў галіне індаеўрапеістыкі, агульнага мовазнаўства.

Дасціпныя студэнты, чытачы прадстаўленай кнігі, атрымаюць праз яе вывучэнне доступ не толькі да разгледжаных пытанняў фанетыкі, фаналогіі, марфалогіі беларускай мовы, але і да супастаўляльных тэм сусветнага мовазнаўства, на падмурку якога аналізуюцца адметныя асаблівасці беларускай мовы і тыя яе ўласцівасці, што лучаць яе і са славянскімі, і з іншымі еўрапейскімі мовамі.

Адначасова праца ўяўляе сабой самастойную крыніцу ведаў пра ўсе фанетычныя, фаналагічныя, марфалагічныя якасці беларускай мовы, што падаюцца ў кнізе не як догмы, не як правілы для завучвання, а як усталяваныя веды, падлеглыя разнастайным інтэрпрэтацыям з пазіцый сучаснага тэарэтычнага мовазнаўства. Так, у раздзеле «Фанетыка. Фаналогія» разам са звесткамі аб усіх гуках беларускай мовы даецца падрабязная акустычная, артыкуляцыйная характарыстыка гукаў чалавечага голасу ўвогуле.

Фанетыцы як навуцы аб гуках маўлення, г.зн. матэрыяльных адзінак, што ўспрымаюцца нашымі органамі пачуццяў, супрацьпастаўляецца фаналогія, навука аб гуках мовы, абстрактных, адцягненых адзінак, якія вывучаюцца праз іх функцыі ў мове. Чытач кнігі пазнаёміцца з такімі паняццямі сучаснай лінгвістыкі, як дыферэнцыяльныя прыкмета, фаналагічная апазіцыя, структура фанем і правілы іх вылучэння, паняццямі нейтралізацыі, гіперфанемы і інш. Засваенне фаналагічных ведаў пра беларускую мову будзе спрыяць фарміраванню навуковага светапогляду студэнтаў, бо фаналогія належыць да адной з самых глыбока і строга распрацаваных дысцыплін увогуле. На грунце менавіта фаналагічных уяўленняў, што спачатку толькі інтуітыўна ўсведамляліся вучонымі, выводзяцца алфавітныя сістэмы, фарміраванне якіх з'яўляецца самым значным крокам у развіцці чалавечай цывілізацыі. У кнізе падрабязна разглядаюцца суадносіны гукаў і літар беларускай мовы, пануцце транскрыпцыі, суперсегментныя характарыстыкі беларускай мовы (націск, інтанацыя, мелодыка і інш.), правілы арфаэпіі, пазіцыйныя і гістарычныя чаргаванні гукаў і інш.

Апісанню марфалагічных катэгорый папярэднічае дэталёвая характарыстыка своеасаблівасці граматычнага значэння, яго адрозненняў ад лексічнага, спосабаў выражэння граматычных значэнняў у беларускай мове, прынцыпаў выдзялення часцін мовы. Згаданых характарыстык не хапае ў большасці прац па беларускай граматыцы, таму канцэптуальны і змястоўны разгляд выходных граматычных паняццяў служыць навуковай адметнасцю дадзенай працы, робіць акрэсленым і выразным прадмет вывучэння ў межах марфалогіі. Хаця граматычныя апісанні разнастайных марфалагічных катэгорый абапіраюцца на больш-менш відавочныя фармальныя паказчыкі (бадай, самыя адметныя рысы граматычнага значэння), аўтар пастаянна падкрэслівае семантычную прыроду граматычных катэгорый, з улікам якой адно і тое ж па знешняй форме слова можа надзяляцца рознымі граматычнымі характарыстыкамі (параўн.: **Праз вёску пралягала грунтовая дарога і Ён удала выбраў сваю жыццёвую дарогу** у першым сказе слова дарога мае канкрэтнае значэнне, у другім — абстрактнае, што праяўляецца праз семантыку ўсяго сказа, або кантэкст ужывання пэўнага слова).

Думаю, што напісаная праца з'яўляецца не толькі адпаведным вучэбным дапаможнікам (тут у наяўнасці ўсе найбольш выкрышталізаваныя веды пра фанетыку, фаналогію, марфалогію беларускай мовы), але і матэрыялам для актывізацыі інтэлектуальнай дзейнасці навучэнцаў, бо змяшчае супастаўленні розных пунктаў гледжання па вызначаных пытаннях навукі пра беларускую мову (параўн.: прадстаўленыя ў кнізе розныя фаналагічныя канцэпцыі, несупадальныя падыходы да выдзялення часцін мовы і інш.).

На жаль, кніга выйшла з друку невялікім накладам (усяго 200 экземпляраў), якія амаль цалкам прызначаны для бібліятэкі Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, і таму не з'яўляецца даступнай для кожнага прыхільніка беларускай мовы. На мой погляд, апублікаваны вучэбны дапаможнік вымагае пільнай неабходнасці свайго сёння ў выглядзе кнігі-дадатку з практыкаваннямі, заданнямі для замацавання выкладзеных тэарэтычных ведаў. У цэлым кніга з'яўляецца, нягледзячы на свой адносна невялікі аб'ём (каля сямі друкаваных аркушаў), каштоўным унёскам у навуку пра беларускую мову.

*Б. А. Плотнікаў. Фанетыка і марфалогія беларускай мовы. Вучэбны дапаможнік. — Мн., Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, 2000, 116 с.*

**Валянціна ТРАЙКОЎСКАЯ**

# Дзе бацяны і "Квят Бебжаньскі"...

*Заканчэнне. Пачатак у № 43*

## У Сакрата

На яго візітоўцы значыцца: "Віла Сакрата". Калі б не вядомы анекдот пра вілы і граблі, я ўспрыняла б такі надпіс без долі гумару. Бацькоўскі дом з ладным падворкам, абнесены пафарбаваным плотам, падаецца звычайным, затое газон падстрыжаны, як у Англіі, растуць грэцкія арэхі і рэдкія, невядомых парод дрэвы, шапкай звісае вінаградная лаза. Мы размясціліся пад старымі яблынямі на дубовых лавах. "Мы" — гэта Алег Аблажэй з жонкай Крыстынай, я і Мікола Самойлік. Ён патлумачыў сваю ідэю так: "Даўно сюды збіраўся, ды ўсё нагоды не было". Прывезці знаёмых беларусаў — хіба можа быць лепшая нагода для спаткання?

Папярэджаны па тэлефоне пісьменнік сустрэў нас з жонкай і ахвяраваў бутэльку добрага французскага віна. Ад халаднаватага ветрыку я хуталася ў коўдру, якую папрасіла ў гаспадыні. Тая далікатна ўнікла літарацкай гаворкі і займалася хатнімі справамі. Яны, падобна, сышліся па прынцыпе ўзаемадапаўнення: такая, як Сакрат, з ім нізавошта не ўжылася б. На ганку, засяроджаная ў сабе, сядзела старая Сакратава маці. Яна знаходзілася нібыта ў іншым вымярэнні, і нашы інтэлектуальныя спрэчкі былі далёка-далёка ад яе думак.

Сакрат жа быў у сваім рэпертуары: то ўсмешліва-іранічны, то саркастычны, ягоныя ацэнкі людзей і з'яў залішне прамыя і рэзкія, а ракурс бачання такі, што заўважаецца больш негатыўнае. Як мы зразумелі, ён не ў ладах з мясцовай адміністрацыяй ("надакучыла быць для ўсіх прыемным"). Ад палітыкі таксама адышоў і не вельмі ўтульна пачуваецца ў ролі "мясцовага месіі". Даслоўна сказаў так: "Кожны край павінен мець свайго шалёнага, бо толькі шалёныя здольны на адкрыцці".

Галоўны Сакратаў боль — мова і лёс беларускай меншасці ў польскім краі. Уся яго літаратурная і грамадская дзейнасць вынікае з гэтага падставовага грамадзянскага клопату. Дарма толькі супроцьпастаўляе сябе пісьменнікам з самой Беларусі: маўляў, тыя даўно страцілі сапраўдную мову... Але прызнаецца, што ягоны вучань сын, як прыязджае, "дае школу" — крэсліць напісанае бацькам. Увогуле мне падалося, што пісьменнік не прывык да праяў крытычнасці ў свой адрас. Ягоная амбіцыйнасць выглядае падчас наіўнай: не паступіў у Саюз беларускіх пісьменнікаў, бо адтуль запатрабавалі спіс выдадзеных кніг, біяграфію і заяву. Як — ён, вядомы ў свеце празаік, мусіць займацца такой фармальнасцю?!

Гаворым пра культуру і творчасць, пытаемся пра гісторыю Крынак. Ён і гэта ведае дасканала, ахвотна апавядае. Праз Крынкі праходзіў старадаўні шлях з Лівоніі ў Маравію. У 1572 годзе было 2 тысячы насельніцтва (як і сёння), затое ў 1913-ым горад вырас да 15-ці тысяч і меў 144 гарбарні. Большасць вёсак у наваколлі "вылюднела", а хто застаўся, не надта раскашуе. На каго звалілася багацце, таксама дабром не скончаюць. "Беларусы не вытрымліваюць удачы. Хто ўваб'ецца ў грошы, той не ведае, што з імі рабіць"? Пазней ужо, у Дуброве, вольнай хвілінай прачытала Сакратаву кнігу "Запісы веку". "Сіроты космасу. Інфанты лёсу" — пра нас, беларусаў... Ён не жадае быць ні сіратой, ні інфантыльным няўдачнікам, адсюль і пратэст, і ў розных формах выклік самазадаволенай "большасці", і горыч ад усведамлення незваротнасці этнічных змен. Адзін з артыкулаў у беластоцкай прэсе мае загаловак: "Праблемы меншасці ці праблемы Сакрата?" Як на мой погляд, дык у Сакрата Яновіча сапраўды ёсць адна праблема: ён *зразумеў* слабыя бакі тутэйшага люду — засталося адно яму па-хрысціянску *дараваць...*





Грамадзянская актыўнасць пісьменніка праявілася ў тым, што ён другі год запар ладзіць на сваёй віле "Беларускія трыялогі" — канферэнцыю, на якую запрашаюцца госці звычайна з трох краін. У гэты год прымалі ўдзел беларусісты з Польшчы, Францыі, Англіі, надалей плануецца прыезд удзельнікаў з Іспаніі, Італіі, Швейцарыі. Умова ўдзелу — даклад па-беларуску, які друкуецца пасля на мове арыгінала. Выдаецца альманах, стылізаваны пад даўніну. Па асобніку атрымалі і мы.

Гаспадар павадзіў нас падворкам, паказаў дом і музей на вышках. Так, так — сапраўдны музей, дзе вісяць старыя плакаты, улёткі, выразкі з газет, малюнкі сябра і "сусветнага чалавека", яшчэ аднаго мясцовага дзівака Лёніка Тарасевіча, дзе сабраны старыя кнігі і дарагія сэрцу драбніцы. Менавіта ў гэтым хатнім музеі яскрава праявілася індывідуальнасць Сакрата як творцы і філосафа. Ён сам — найлепшае пацверджанне думкі, што кожны чалавек — гэта цэлы сусвет, ён непаўторны і значны якраз сваёй непаўторнасцю. Працытую адну думку, выказаную гаспадаром: "У жыцці ёсць два этапы — *мець* і *быць*. Мы пакуль што на той ступені, калі *маюць*." Так адрэфлексаваны стан польскіх беларусаў — тых нямногіх, хто захаваў нацыянальную ідэнтычнасць на ладным кавалку прырэзанай пасля вайны плошчы. Згодна з такой сістэмай каардынат, наш злюмпенізаваны люд і да першай прыступкі яшчэ не дайшоў. У гэтай сувязі згадваецца наступны маналог мясцовага жыхара падчас адной з сустрэч:

— У 89-ым годзе Беларусь была ў лепшым эканамічным становішчы, чым Польшча. А што цяпер? У нас пенёндзы набылі вартасць, можам ездзіць, куды захочам, хто робіць — той зарабляе... Ідзём у правільным кірунку, хоць і прыгнуўшыся. У вас жа, відаць па ўсім, фальш і хамства, хамства і фальш. А вы ж браты нашы. Маглі б усе разам быць — і Балтыя, і Польшча, і Чэхія, і Славакія...

Што на гэта адкажаш?

## Гаспадары

Пан Ежы (або Юрэк, як яго заве жонка) дэманстраваў нам натуральны метад аб'езду коней. Арабскі двухгадовы скакун веерам уздымаў хвост і плаўным, неверагодна прыгожым бегам даваў кругаля па загоне. Бізун толькі шчоўкаў, але ні разу не дакрануўся да ўзмакрэлай аксамітнай скуры. Спачатку Эмпік гняўліва раздзімаў ноздры і ўсяляк дэманстраваў непакору, нежаданне быць парадкаваным гаспадару. Ён даў знак і астатнім коням, якія пасвіліся на выгане, што трэба ўцякаць, і двое з іх сталі паўтараць ягоны кругавы бег па-за межамі загона. Потым, стаміўшыся, жарабец пачаў выказваць прыкметы пакорлівасці. "Хоча размаўляць", — так пракаменціраваў пан Юрэк і для праверкі павярнуўся да Эмпіка спінай. Той не спрабаваў ні кусніць, ні ўдарыць капытом. Значыць, прымірыўся, згодны прыняць умовы чалавека. Яшчэ некалькі праверачных кругоў — і 14-гадовы сын гаспадара лёгка заскочыў у сядло.

Гэты гуманны метад вынайшаў амерыканец, які з маленства рос пры конях. "Кожны конь — індывідуальнасць, — распавядае пан Юрэк. — Калі жарабя кусае цябе за плячо, то гэта не агрэсія, а спроба паразумецца. Трэба ў адказ яго таксама злёгку кусніць. Чаму ў мяне доўгія валасы? "Начальнік" статка мусіць адпавядаць свайму статусу. Галоўнае — пасябраваць з лідэрам. Тады табе будзе давяраць увесь статак".

Юрэк Нідэцкі ахвотна дзеліцца сваімі адкрыццямі са сферы конскай псіхалогіі. З яго атрымаўся б неблагі настаўнік. Двухгадзінная лекцыя з практычнымі заняткамі ўзбагаціла нас разнастайнымі ведамі, якія тычацца характару коней, іх парод і тыпаў, асаблівасцей гадоўлі, правілаў верхавой язды і г.д. Самыя смелыя з удзельнікаў пленэру таксама караскаюцца на конскія спіны. Лёгка заскочыў у сядло і трымаўся роўненька наш непасрэдны апякун Адам Клін. (Аказалася, браў тут урокі верхавой язды.) А вось Уршулі Нідэцкай цяжкавата было праявіць спрыт наезніцы — тры месяцы як нарадзіла блізнятаў, хлопчыка і дзяўчынку, спартыўнай формы яшчэ не аднавіла. Калі згадаць, што, акрамя блізнятаў, маладыя бацькі гадуюць чатырох сыноў, то застаецца толькі з пашанай схіліць галаву.

Сямейная пара ляснічых-біёлагаў укаранілася ў Рэжкаўцах не так даўно. Купілі зямлю, самі знайшлі водную жылу і выкапалі вадаём. Разводзяць коней розных парод (малапольскай, украінскай), збудавалі экалагічную стайню, плануюць прымаць у сябе турыстаў. Таму і фірма называецца — агратурыстычная.

Цікавая сям'я: двое братоў пабраліся з дзвюма сёстрамі, сумесна вядуць гаспадарку і выхоўваюць дзяцей, займаюцца, па ўсім відаць, нейкай духоўнай практыкай; светлыя твары, разнастайны вегетарыянскі стол ды імправізаваная лекцыя аб здаровым ладзе жыцця і ачышчэнні — яскравае таму сведчанне. А яшчэ ж усе з мастацкім талентам: хто рэжа па дрэве, хто малюе, хто лепіць. У двары з фантанам размясцілася сапраўдная галерэя іхніх твораў.

Дэгустацыя раслінных страў праходзіла пад яблынямі. Час ад часу грукаўся долу чарговы сакаўны плод. Моладзь гайдалася на арэлях, а касыя промні сонца мякка клаліся на гладкія конскія спіны, накрытыя сталы, клумбы з кветкамі. Прыглядзелася да скульптурнай вывы: дзе я ўжо бачыла яе? Успомніла: на каляровым запрашэнні, дасланым на адрас нашага Міністэрства культуры. Ёсць у тым штосьць сімвалічнае: уся польская эканоміка трымаецца на такіх, як пан Нідэцкі, гаспадарах-прыватніках. Пры адпаведных умовах і дзяржаўным спрыянні, творчым падыходзе да справы і энтузіязме шмат што можна зрабіць і дзеля ўласнага дабрабыту, і дзеля ўсеагульнага дабра. Адно другому ў дадзеным выпадку зусім не супярэчыць.

Літаратурная вечарына таксама адбылася з удзелам і пры фундацыі маладога гаспадара — Тадэвуша Ядліньскага, які выбудаваў катэдж побач з бацькавай хацінай непадалёку ад Дубровы. Аказалася, што пан Тадэвуш і сам піша вершы і нават узяў першае месца на паэтычным конкурсе ў гонар св. Валянціна. Прызам стала паездка на дваіх у Парыж. Паколькі мінулагодняе спаборніцтва паэтаў прынесла толькі пару джынсаў, то прагрэс навідавоку.

Чытаў вершы — сур'ёзныя і жартаўлівыя, уключыў касету з песняй. Усё, што выходзіць з-пад пяра, — хвала радзіннаму дому і роднай зямлі. Наш агніска ў двары ледзьве не заліло дажджом, мы пахаваліся пад парасоны, а потым перавярнулі дошкі-лавы на сухі бок і прадоўжылі сустрэчу. Мікола Самойлік як арганізатар коўдру на сябе цягнуць не стаў, бо перад гэтым быў героем дня на прэзентацыі ўласнай, дзевятай па ліку кнігі "Несамавітыя аповеды з-пад Бебжы". Ён прачытаў штосьць узнёслае і саступіў месца іншым. Янка Бараноўскі, аўтар белетрызаванага радавода, расказаў пра бацьку, рэпрэсаванага саветамі. Станіслаў Сракоўскі, аўтар звыш сарака кніг, выявіў талент пранікліва крытыка ў ацэнцы нашых твораў і распавёў гісторыю з юнацтва. Выкладчык польскай мовы ў Лягніцы, што пад Вроцлавам, быў там адзіным паэтам. Ягоны першы надрукаваны твор меў прыкладна такі змест: "Калі выбіраюся да сну, то кладуся голым". На што дырэктар гандлёвага дома абурана заявіў яму па тэлефоне: "Вы зняважылі мястэчка. Калі вы такі бедны, што няма ў чым спаць, то вышлем вам піжаму". І выслалі!

Жонка пана Станіслава Марыя з мяккім позіркам вялікіх воч ціха прачытала пераклад з польскай мовы на грэчаскую. Яна сама грачанка, што, несумненна, абумовіла інтарэс яе дужай паловы да старажытнай грэчаскай міфалогіі.

Дзякуючы Войцэху Пётравічу з Вільні — паэту, перакладчыку і тэлежурналісту — мы пачулі, як па-літоўску гучыць вялікі Міцкевіч. Я дадала беларускія вершы. Такім чынам, у нашай інтэрнацыянальнай багеме аказалася толькі адна слухачка — журналістка Данута Пётравіч. Яна выдатна справілася са сваёй роляй і забяспечыла нам удзячныя воплескі. А хіба можна паэту без воплескаў?

Вось і я, каб паказаць, што не дарма ела хлеб, хачу аздобіць свае нататкі вершам. Іх шмат знаходзіла я то на прыгрэве каля палаца, то на выгане, то на палявой дарозе між палеткамі. "На ржышчы дзікі мак Палаў здалёку. Усё было не так — І звыкла воку. Альшэўнік і пакос, Густы маліннік. Лапух, як пан, узрос, Пейзажу чыннік. Вунь прыціскае дол Валун вялікі. А над усім вакол Дзве вежы базілікі".

Дамоў мы ехалі, убіўшыся ўсе ў адзін салон. Не ехалі — плылі ў суцэльным малочным тумане. Якія казачныя туманы на Беласточчыне! Цёплыя, лагодныя, густыя, як мярэжы. Яны мне запомніліся па адной папярэдняй пісьменніцкай паездцы і таксама дадалі лірычнага настрою.

## Пошукі натуры

— Калі нават цагліну ўзяўся маляваць, яна павінна быць жывая. Кожны пялёстак у кветкі іграць павінен. Адзін час ваду любіла маляваць. Камяні ў вадзе... Хвалі пераліваюцца... Потым адышло. Проста этап такі быў. Партрэты малявала — сяброў, родных. Масты. Панараму старога горада ў Вільні (ён у нас добра захаваўся). Але не магу паўтарыць ніводную карціну. Іншы настрой, іншая атмасфера...

Гэта Данута Ліпска размаўляе з Кацярынай Паплаўскай — даводзячы да ладу першую бебжанскую работу. Рамонкі сапраўды жывыя і прыгожыя. Будуць яшчэ іншыя кветы, і пейзаж, і дзіўныя фантастычныя сілуэты (яцвягаў, напэўна). Але ўсё потым. Цэлыя два дні заняла адаптацыя да новага месца. Прыглядваліся, асвойвалі пакоі, распакоўваліся. Ніколі не думала, што ў мастакоў столькі прычындалаў! А некаторыя ж і старыя работы пабралі. Ужо на трэці дзень адбыўся пералом на творчую працу. Разразаліся тканіны, раздаваліся падрамнікі, пачаліся пошукі натуры. Каця надзела рукзачок і выправілася паглядзець "адно месцечка" (лужок, як высветлілася). Данута тым часам, уладкаваўшыся на складным зэдліку, чаравала з пэндзлем. Працуе яна ўвогуле што мятла: загрунтавала пяць палотнаў у момант вока! Мабілізаваліся і іншыя мастакі — нават тыя, што шукалі натхненне на дне шклянкі, так што апаска асобных арганізатараў была заўчаснай.

Перад асноўнай выставай у дуброўскім Доме культуры адбылася рабочая, без урачыстых прамоў. Уздоўж інтэрнацкай сцяны свае работы паставілі Анджэй Скажыньскі, Ганна Юшкевіч, Хенрыка Стронк, іншыя. Ружанастоцкія жыхары разглядалі, прыцэньваліся. Тое-сёе набылі. Ксёндз, напрыклад, купіў на памяць у Аблажэя выгляд касцёла, а наш карповіцкі фундатар Ян Катук — крыху пазней — пейзаж з буслянкай у Д. Ліпскай. Па выніках апытання прыз глядацкіх сімпатый узяў беластоцкі пейзажыст Казімеж Юргеланец.

...Ой, распухае мой нарыс да неабдымных памераў! А яшчэ ж не згадала пра выставу народных майстроў, пра наведванне татарскіх мясцінаў, вандроўку на плытах. Але і не занатаванае на паперы застанецца ўва мне ўражаннямі і пачуццямі, усё будзе жыць у тым невідочным горнім свеце, які называецца светам душы.

*На здымках: Кацярына Паплаўская і Юрэк Нідэцкі; дом, у якім мы жылі.*

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

мела дваццаць з лішнім гадоў. Але высмейвалі, жартавалі, кпілі! Пакуль на свеце кіпела, як у гаршку, і людзі хадзілі з разгарачанымі галовамі, да той пары пра роўнасць і было гаворкі; абдымаліся, цалаваліся, браталіся, пан мужыка вазіў у сваёй калясцы і пяшчотна прасіў: "Любі ты мяне хоць трошкі і называй мяне па імені, Васільку! Альбо там Юрасю, альбо Анзэльмку!" Але калі пажар патух, на котлішчы зноў паказаліся горы і даліны, як і раней, як даўней... горы і даліны! "А ты, Васільку, альбо Анзэльмку, не плішчыся з даліны на гару! А ты, каралеўна, калі з гары ў даліну сыдзеш, то мы цябе ні біць, ні прыгнятаць не будзем, бо мы занадта разумныя і вельмі далікатныя, але высмеем цябе так, што ажно колкі ў баках нашых пастануць!" От як было! Не перашкаджалі, не прыгняталі, толькі высмейвалі: "Вунь якога слічнага жаніха Мартачка сабе знайшла!" Дажэцкія высмейвалі, гэты блазен Кірла кпіў, нават пані Анджэіха ўсміхалася ад адной толькі думкі, што я магла б зайсці за такога чалавека, які арэ сваімі ўласнымі рукамі. Той блазен Кірла ажно заходзіўся ад смеху: "Што з таго, што арэ! Араць то яшчэ няхай сабе, паэтычна, але ён сам і гной на поле вывозіць і, напэўна, ад яго моцна смярдзіць!" І кожны, хто толькі пра гэтага жаніха пачуе, ажно кладзецца са смеху. А я, ведаеш, як у агні гарэла ад сораму. Начамі, бывала, плачу ад тугі па ім і ад уяўлення, якая з ім была б шчаслівая, як бабёр, заліваюся слязьмі; а днём перад крэўнымі і знаёмымі, слова гонару, адракаюся ад яго, як Пётр ад Хрыста, і... ведаеш, вечная подласць, сама, сама з такога жаніха смяюся яшчэ больш, чым яны. Часам слёзы градам коцяцца па твары, а яны думаюць, што ад смеху... Адзін толькі Бенедыкт не высмейваў, бо яму тады не да смеху было, ён мо не так хутка, як іншыя, забыўся пра тое, што брат таго, каго так высмейвалі, лёг у адну магілу з ягоным братам. Але ён пачынаў з іншага канца. Разважаў: "Праца цяжкая. Будзеш вымушана сама жаць, палоць, кароў даіць, гатаваць, мыць..." Цэлае літанне нагаворваў усяго таго, што я мушу рабіць. "Не вытрымаеш, здароўе страціш, агрубееш, абмужычышся!" Гэта мяне найбольш і адштурхнула, яшчэ больш, чым кпіны і высмейванне. На самай справе, як гэта я, каралеўна, мела б палоць, жаць, даіць кароў, мыць?.. Стамлюся, напэўна, не вытрымаю, ды яшчэ і абмужычуся! Адкуль у мяне гэтае каралеўства ўзялося, д'ябал яго ведае, бо была голая, як бізун, у дзіравых чаравіках часам хадзіла; адукацыю нейкую то мела, але, відаць, не вельмі, а працавала ў Корчыне з самых малых гадоў, і не на жарт, бо ўсім домам, гаспадаркай, агародам загадвала. Акрамя таго, шыла адзенне для сябе і для іншых; для сябе толькі тое, што ў прэзентах ад крэўных даставалася. Але ж я з дваранскай сям'і, крэўныя мелісродкі... Значыць, і я каралеўна... Сапраўды, той працы, якая чакала мяне там, спалохалася... "Ат, думала сабе, забудуся, адбаліць!" А Дажэцкая нашэптвала "Знойдзецца нехта іншы, больш стасоўны, я сама табе высватаю!" Не знайшоўся, не высватала, бо неўзабаве пачала сваіх дочак сватаць, а ці забылася я, ці адбалела, пра гэта ўжо толькі мне і пану Богу вядома. Даволі, што за хлопа не выйшла, не жала, не палола і кароў не даіла... а што да гатавання і прання, то здаралася, здаралася... Корчын з вялікага зрабіўся малым каралеўствам, і не раз даводзілася ў ім рукі намазоліць... Але не жала і не палола... а гэта шмат значыць... дзеля гэтага ад многага адмовіцца варта... ужо адно гэта за ўсё ўзнагароджвае: і за каханне, і за ўласны дах, і за тых дзяцей, якія, магчыма, пяшчотай аздобілі б жыццё, і за тое, што чалавек, які яшчэ пасля ўсяго застаўся, стаў падобным на халеру, за ўсё ўзнагароджвае... за ўсё ўзнагароду сабе знаходжу ў тым, што не жала, не палола і не абмужычылася... Таму і задаволеная, вельмі задаволеная, і ўсё жыццё ў вялікім задавальненні правяла... Таму слава і гонар мне за тое, што выратавалася ад сораму і ганьбы... слава і гонар... вечны гонар ... вечны гонар!

— Цётка! Цётка! Бедная цётка! — тулячы руку разгарачанай кабеты, якая ўсё больш цяжка дыхала, у сваіх далонях, шаптала Юстына.

Але яна, павярнуўшы да яе свой жоўты твар, на якім выбіліся на шчокі дзве яркія агністыя плямы, таропкім, свісцячым шэптам пачала пытацца:

— Што там з ім? Як ён выглядае? Ці зусім паправіўся? Ці ў згодзе жыве з пляменнікам?

І доўга яшчэ, блізка нахіліўшыся тварамі, яны шапталіся.

— Дом новы збудаваў? А як там усярэдзіне? Святліца вялікая? Чыста? Упарадкавана?

А калі Юстына ўжо адказала на ўсе ейныя пытанні, Марта зноў запыталася:

— Успамінае? Як успамінае?

Часам абедзве задумваліся і хвіліну маўчалі. Пасля зноў чуўся запытальны шэпт:

— Успамінае? А ці часта?

Прыязна, лагодна і ціха, укленчыўшы ля ложка, самавітая маладосцю і сілай кабета расказвала другой — той, параненай, састарэлай, бубнівай і гняўлівай, як і калі гаварыў, што расказваў, як успамінаў.

Па запалых, звялых губах Марты пачала блукаць усмешка, яна пацішэла, павекі апускаліся на супакоеныя, прыгаслыя, ціхай слодычу замглёныя вочы.

— Успамінае! — прашаптала яшчэ раз і змоўкла зусім.

Не заснула, а ляжала ціха і нерухома, толькі ў ейных грудзях, стомленых узрушэннем і доўгай размовай, грала, стагнала, шумела, хрыпела.

— Цётка, — прашаптала Юстына, — ты хворая, ты праўда хворая, і цяжка. Чаму ты не хочаш лячыцца?

Яна падняла павекі і зноў са сваёй звыклай парывістасцю і бубнівасцю адказала:

— Чаму? Дзеля чаго? А ты можаш мне сказаць, навошта і дзеля чаго?

А пасля хуценька дадала:

— Хто гэта табе сказаў? Выдумала! І дзеці выдумляюць, што я хворая. Здаравейшай за мяне на свеце няма. Дайце мне спокуй з вашым лячэннем і з вашымі дактарамі. Ідзі спаць! Дабранач!

Прамовіўшы гэта, зноў заплюшчыла вочы, і зноў на ейны твар выплыў выраз спакою і задавальнення.

Юстына ўстала, яшчэ з хвіліну пазірала на нерухомую кабету. Пасля схілілася і ціха, працяжна пацалавала яе ў вусны. Затым адышлася, патушыла лямпу, села ля зачыненага акна і ўзіралася ў блакітны світанак, у якім дрэвы, як зачараваная стража, стаялі ў каменнай нерухомасці, белыя воблакі шаўкавістым вэлюмам засланялі неба, а на бледна-серабрыстым Нёмане дзе-нідзе плюскала рыба, разбіваючы вялікімі кругамі люстраную гладзь вады альбо ўздымаючы над ёй невялічкія фантанчыкі. Неўзабаве з-пад бору на ўсходзе паказалася заранка, прадвеснік блізкага ўжо сонца, па галінах дрэў з шэлестам прабегла ціхае трапятанне, і цішыню парушыла працяглае гучнае кукарэканне пеўня, якое пачулася блізка ад дома, затым паўтарылася далей, яшчэ далей, пасля зусім далёка і ўсё больш ціха. Як чуйныя вартавыя, расстаўленыя на шырокім прасторы, пачаргова перадаюць адзін аднаму сігнал, так і гэтыя птахі пасярод соннай цішыні паўтаралі адзін за адным пераможныя крыкі, што звеставалі нараджэнне новага дня. Юстына заглядзелася на ўсё больш шырокую і ўсё больш яркую паласу світанку, а вухам лавіла кукарэканне, якое слабым рэхам чулася з засценка: адразу з бліжэйшых дамоў, пасля з дальніх і, нарэшце, ледзь чутнае, зусім здалёку, мо ажно з-над яра Яна і Цэцыліі. Яна заплюшчыла вочы, паклала галаву на абапёртыя на падаконнік рукі, і ці то задумалася, ці то задрамала. Выразна, яскрава, жыва ўбачыла перад сабой сядзібу, заружавелую ад заранкі і акропленую перлінамі ранішняй расы, маладога, прыгожага хлопца, што ўпэўнена ступаў па нізкай траве дзядзінца. Падышоў да стайні, адчыніў вароты, пачаў выцягваць воз з драбінамі. Маладзенькая босая дзяўчынка з вёдрамі прабегла пад старымі ліпамі, кіруючыся да ракі; стары чалавек у грубай світцы, з прамяністым снапом маршчын на высокім ілбе адчыніў акно каморкі і падняў бледныя, спакутаваныя вочы да ранішняга неба. Але хто гэта яшчэ выйшаў на ганак і стаіць пад яго навесам, аздобленым разьбой? Ды гэта ж яна сама... яна... у кароткай клятчастай спадніцы, з касой, апушчанай на шырокі каптан, з тварам, шчаслівым, як шчасце гэтага пекнага хлопца, які павярнуўся да яе, трымаючы ў руках серп...

Мроіла яна ці сніла? Ёй зноў здалося, што змрок пануе на свеце, празрысты, але без дня і без сонца, а яна плыве ўгары і пазірае на шырокі краявід, такі шырокі, што выразна бачацца корчынскі двор і засценак, схаваны ў густой зелені помнік-магіла легендарнай пары, у другім баку віднеецца смутная пясчаная пустыня, а за ёй, у замкнутым коле лясных пагоркаў-боханаў, адзінокая вялікая магіла. Усё гэта ахутана празрыстым змрокам; а яна, плывучы ўгары, трымае ў руках лямпу... тую самую, якая ўчора гарэла на альховай камодзе Анзэльма. Відаць, яна ўзяла яе адтуль і зараз падымае высока-высока, а прамені, праўда, скупыя і вузкія, падаюць на стрэхі дамоў, кідаюць залатыя ніці на ўзорчатую сетку платоў і сцежак на сядзібах, дастаюць з аднаго боку ажно да старажытнага помніка, а з другога — да пакінутай магілы, асвятляючы яе і нібыта звязваючы, злучаючы ўсё, як часткі аднаго ланцуга.

Мроіла яна ці сніла? На валасах, на твары, на вуснах адчула раптам цёплыя і доўгія пацалункі. Гэта былі прамені сонца, якое паказалася з-за ружовага паса ранішняй яскравасці, разарвала белую намітку воблакаў і пырснула сваімі стрэламі на дрэвы, на траву, на ваду, на пташак, што раптам зайшліся дружным шчабятаннем, і — на яе. Але ці то ў сне, ці то ў мроях пасылала ёй гэтыя пацалункі не дзённае свяціла, а нехта іншы, іншы... бо твар яе ўспыхнуў румянцам, і ўсмешка задавальнення растуліла пунсовыя вусны.

**Пераклад з польскай Анатоля БУТЭВІЧА**

КАНЦЭРТЫ

# Разам з польскай госцяй

Публікі ў той вечар сабралася малавата, але прыйшлі людзі не выпадковыя: музыканты, меламаны, якія ўмеюць слухаць і аддаваць належнае таленту ды майстэрству. Падумалася нават, што Дзяржаўнаму камернаму аркестру Беларусі бракуе "сваёй" залы — утульнай акустычнай залы, дзе яго канцэрты праходзілі б не толькі з поспехам, але й з аншлагам.

Успомнілася Зала камернай музыкі, што на Залатой Горцы, задуманая калісьці як базавая пляцоўка для гэтага калектыву. Успомнілася "свавольства" тагачаснага кіраўніцтва культурай, якое загадала: "сделайте мне красиво", каб, зазірнуўшы ў дзверы, адразу ўбачыць можна было арган! Планіроўку традыцыйнага касцельнага інтэр'ера парушылі, новы інструмент устанавілі не на хорах, а на камернай сцэне, з-за чаго тая зрабілася цеснай нават для такога ансамбля, як "Класік-Авангард", калі ён выступае ў пашыраным складзе. Куды ўжо тут аркестру!

Такім чынам, Дзяржаўны камерны пад кіраўніцтвам маэстра Дзмітрыя Зубава адкрываў свой сёлетні канцэртны сезон, як звычайна, у Вялікай зале сталічнай філармоніі.

Уразіла добрая творчая форма музыкантаў, з пачуццём стылю і з густам выкананая праграма (а вось праграмак для публікі чамусьці не было). Сапраўды камерна, нібы напаўголаса, з нейкай барокавай грацыёзнасцю і класічнай дакладнасцю загучала Рэ мажорная сімфонія Ф. Мендэльсона. Ахайная "графіка" штрыхоў і дынамічных акцэнтаў, "пявучы аксаміт" віяланчэляў, прыгожы голас альта сола (М. Анішчанка), сонечныя "мацартыянскія" эпізоды... Ва ўсё хацелася ўслухоўвацца!

А потым — іншы час і стыль: створаны ў 1963 годзе Канцэрт для флейты, фартэпіяна, струнных і ўдарных інструментаў В. Славінскага, аднаго са старэйшых польскіх кампазітараў-авангардыстаў. Гэтую свежую, новую для нас музыку прывезла ў Мінск выдатная польская флейтыстка, прафесар Эльжбета Гаеўска. Дарэчы, візіт знанай у свеце салісткі і педагога адбыўся дзякуючы супольнай акцыі Польскага інстытута ў Мінску ды Беларускага саюза музычных дзеячаў. Пані Гаеўска прабыла ў нас амаль тыдзень, галоўным плёнам яе працы сталася правядзенне майстаркласаў для маладых беларускіх флейтыстаў і ўдзел у адкрыцці сезона Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі — з прэм'ерай Канцэрта В. Славінскага, твора, напоўненага імклівым прасветленым настроем, дзівоснымі імпрэсіяністычнымі вобразамі.

Нашу госцю літаральна асыпалі кветкамі. І калі яна пакінула сцэну, падараваўшы публіцы развітальны паклон, падумалася: які прыгожы быў бы фінал праграмы! Чаму "быў бы"? Таму што пасля такога душэўнага ўздыму трэба было перажыць антракт у нешматлюдным фае, вярнуцца ў залу і разам з аркестрам уключыцца ў свет ужо зусім іншых вобразаў. "Andante" для струннага аркестра С. Пракоф'ева (аранжыроўка з Першага квартэта, 1930 г.) — рускі "мадэрнізм" пачатку XX стагоддзя, зусім іншае гучанне аркестра, нейкія больш размашыстыя штрыхі, больш "адкрытая" манера інструментальнага выказвання. Сімфонія N 2 для струннага аркестра і трубы А. Анегера — складаныя, на мяжы гнятлівасці, эмоцыі, "пакручасты" шлях да фінальнага мажору...

Логіка слухацкіх адчуванняў падказвала: калі б памяняць месцамі 1-е і 2-е аддзяленні праграмы, вечар атрымаўся б проста бездакорны. Але няма ў свеце дасканаласці...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# Яўрэі на ніве беларускай культуры

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

ў 1931 г. стаў дырэктарам Фізіка-тэхнічнага інстытута Беларускай акадэміі навук. А аддзячыў тым, што напісаў і выдаў на беларускай мове шэраг падручнікаў і дапаможнікаў для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў: "Матэматычныя працы" (1932), "Курс дыферэнцыяльнай ґеаметрыі", "Фізічныя метады матэматыкі" (абодва — 1933). Іншы ж лёс падрыхтавалі яму карныя спецслужбы — вышэйшую меру пакарання, якая напаткала яго ў змрочных сутарэннях Мінскага гарадскога аддзела НКУС БССР.

Яўрэі-ўраджэнцы Беларусі не забываліся на яе і тады, калі лёс закідваў іх у іншыя краі. Рана пакінуў свой родны Капыль Леў Клейнбарт (1875—1950). Уся яго творчая дзейнасць была звязана з рускай літаратурай і публіцыстыкай. Але ў самы разгар беларусізацыі і ў яго з'явілася жаданне штосьці карыснае прынесці на яе алтар. І такім падарункам стала кніга "Молодая Белоруссия: Очерк современной белорусской литературы. 1905—1928 гг." (Мн., 1928). У ёй дадзены глыбокі аналіз дасягненняў беларускага прыгожага пісьменства, падрабязна расказана пра тых, хто творча працаваў на гэтай ніве. Пазней гэтага крытыка і літаратуразнаўцу будзе добра дапякаць рэспубліканская партыйная прэса за яго прыхільнасць і абарону беларускага "нацдэмакратызму", што ён і сапраўды неаднаразова рабіў, выступаючы ў прадмовах да кніг беларускіх аўтараў, выдадзеных на рускай мове ў Маскве і Ленінградзе. Так, нехта А. А. у артыкуле "Жыве Клейнбарт!" такую падтрымку Клейнбартам "нацдэмакратаў" знайшоў у яго прадмове (30 старонак) да "Сборника стихов" Янкі Купалы, што выйшаў у 1930 г. у Дзяржвыдавецтве СССР. Клейнбарт абвінавачваецца ў беларускім "нацдэмакратызме" за тое, што ў дарэвалюцыйнай Беларусі ён не бачыў падзелу яе карэннага насельніцтва на класы, бо землеўладальнікамі, лічыў, тут былі палякі, чыноўнікамі — рускія, гандлярамі, купцамі — яўрэі, а беларусы — гэта толькі сяляне. Не падабаецца аўтару згаданага артыкула, што Клейнбарт нацыяналізм "Нашай нівы" называе абарончым, які зыходзіць ад прыгнечанага народа, што гэты навуковец "ні адзіным словам не гаворыць аб яўных арыентацыях беларускіх нацыяналістычных партый на нямецкіх імперыялістаў..." У артыкуле А. А. прыгадваецца і прадмова Клейнбарта да выдадзенага ў Ленінградзе ў 1929 г. "Альманаха белорусской литературы". Самае галоўнае, у чым тут абвінавачваецца Клейнбарт, — гэта спроба абараніць ад нападак Алеся Дудара, якога, як вядома, аднаго з першых абвінавацілі ў нас у "нацдэмакратызме".

Шчыра прыняўшы ідэю беларусізацыі як найважнейшую ўмову нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі, што зусім не пярэчыла яўрэйскаму інтарэсу, яўрэйская інтэлігенцыя не магла быць раўнадушнай і да таго, а як жа ідуць справы ў беларусаў, што не па сваёй волі жылі па-за межамі БССР. Вядомы шматлікія выпадкі бурных пратэстаў прадстаўнікоў яўрэйскай інтэлігенцыі БССР на забарону ў сакавіку 1927 г. польскім урадам дзейнасці папулярнай і аўтарытэтнай у народзе Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Як пратэст на гэтую антыдэмакратычную і антынацыянальную падзею супрацоўнік рэдакцыі газеты "Савецкая Беларусь" Каплан змясціў у адным з яе спецыяльных нумароў, прысвечаным расправе над Грамадой, вялікую колькасць выкрывальніцкіх артыкулаў, за што наклікаў на сябе гнеў кіраўніцтва гэтага друкаванага органа і быў звольнены з працы. У публікацыі гісторыка Уладзіміра Міхнюка ("Літаратура і мастацтва", 8 студзеня 1993 г., с. 14) прыводзіцца вельмі цікавы факт, сутнасць якога заключаецца ў наступным. У час першага допыту Алеся Дудара 21 сакавіка 1929 г. ён прызнаў, што якраз такое варожае стаўленне рэдакцыі газеты да свайго калегі Каплана ў пэўнай ступені і паўплывала на яго (Дудара) намер напісаць у 1928 г. верш "Пасеклі наш край папалам". Тут маецца на ўвазе падзел Беларусі на часткі ў выніку падпісання ў сакавіку 1921 г. у Рызе ганебнага для Беларусі дагавору паміж Савецкай Расіяй і Польшчай. Тон гэтага верша быў вельмі рэзкі ў дачыненні да кіраўнікоў дадзеных дзяржаў, але ў аснове сваёй цалкам праўдзівы:

***Распаўся б камень ад жальбы,***
***Калі б ён знаў, як торг над намі***
***Вядуць маскоўскія рабы***
***З вялікапольскімі панамі.***

Калі і сапраўды ў чымсьці пераклікаецца з'яўленне гэтага выкрывальніцкага верша з лёсам Каплана, дык дзеянні апошняга, нягледзячы на цяжкія вынікі (звальненне з працы), могуць быць цалкам апраўданымі, бо ад гэтага засталася ў выйгрышы беларуская справа: верш Дудара (распаўсюджваўся толькі ў рукапісе) вельмі добра дапамагаў разабрацца, хто ж быў віноўнікам расчлянення беларускага арганізма на часткі.

Як бачым, у творчай дзейнасці яўрэйскай інтэлігенцыі і беларусізацыі было нямала цесных стасункаў і агульнага, што прынесла вялікую карысць і першай, і другой.

АЛЬБОМ-2000

# “NRM”: культ беларускага слова!

***Мінулы месяц для аматараў беларускай рок-музыкі быў адзначаны нешараговай падзеяй — у канцэртнай зале “Мінск” гурт “Незалежная Рэспубліка Мроя” (“NRM”) прадстаўляў свой новы альбом “Тры чарапахі”.***

***Ведаючы няўрымслівую натуру лідэра “NRM” Лявона Вольскага, схільнасць удзельнікаў гурта да тэатралізацыі, можна было прадбачыць, што прэзентацыя чарговай кружэлкі гурта стане своеасаблівым рок-перформансам, накшталт “Радыё Гамон”, які наладзілі падчас выхаду сінгла “Самотнік”. Але тое, што канцэрт ператворыцца ў суцэльную тэатралізаваную дзею пад назвай “Палёт у краіну “NRM” на востраў Трох чарапах”, прадбачыць было цяжка.***

Тым не менш, музыкі прапанавалі сваім прыхільнікам уяўнае падарожжа на авіялайнеры, у якасці салона якога была канцэртная зала “Мінск”. Тут слухачоў чакалі і рэгістрацыя, і гумарыстычныя аб’явы, і паведамленні, пакой “маці і дзіцяці”, падчас канцэртнага “ўлёту” — захоп лайнера тэрарыстамі, прыбыццё на востраў Трох чарапах... Слухацкаму ж захапленню ад “падарожжа” не было межаў ад першых нот і да апошняй коды!

Ажыятаж, які апошнім часам суправаджае канцэрты “NRM”, выхад яго альбомаў, фармаванне ўстойлівай плыні прыхільнікаў гурта — “энэрэмшчыкаў”, сведчыць пра тое, што “Незалежная Рэспубліка Мроя” становіцца культавай з’явай у Беларусі.

Такія музычныя культы маюць як інфармацыйную, так і мастацка-сацыяльную прыроду. Апошні такі памятны культ суправаджаў творчасць ансамбля “Песняры”: мільённыя тыражы пласцінак, аншлагі ў лепшых канцэртных залах СССР, замежныя гастрольныя паездкі былі вынікам удалага спалучэння таленту выканаўцаў, меладызму іх песень, стварэння пазнавальнага вобраза ансамбля ў СМІ. І нават новы час не здольны разбурыць культ — амаль фантастычную адданасць творчасці, філасофіі, густам куміраў. І толькі новы культ адмаўляе старыя стэрэатыпы, робіць ранейшыя захапленні сацыяльна-культурным феноменам.

І відавочна, гэтую эстафету на новым узроўні перахоплівае гурт “NRM”. Для гэтага ў альбоме “Тры чарапахі” ёсць усё, а галоўнае — новыя песні, якія падабаюцца моладзі, з іх хітавай фальклорнай мелодыкай (“Мы жывём някепска”), магутнай эмацыянальнай энергетыкай (“Ментальнасць”, “Дастала”, “Катуй-ратуй”).

Асобным складнікам поспеху альбома хочацца вылучыць агрэсіўнае ў сваёй пераканаўчасці Беларускае Слова “NRM”. Менавіта яно аб’ядноўвае аўдыторыю гурта — як беларускамоўных, так і рускамоўных прыхільнікаў — жаданнем спяваць песні “NRM” супольна (“Чыстая-светлая”, “Тры чарапахі”). А значыць, акунуцца, магчыма, упершыню ў жыцці, у чароўную стыхію роднай мовы!

Эмацыйны вір канцэрта вельмі арганічна працягваецца і трэкамі новага кампакт-дыска. А іх на “Трох чарапахах” аж дваццаць! Праўда, палова з іх — гукавыя замалёўкі, часцяком гумарыстычнага і сатырычнага напрамкаў (“Магільны”, “Хрусь і папалам!”). Яны выкарыстаны ў якасці сэнсавых звязак кампазіцый, а таксама для цэментавання альбома ў адзіны непарушны мастацкі твор — безумоўна, лепшы альбом 2000 года!




Хочацца падкрэсліць, што альбом “Тры чарапахі” выдадзены на фанаграфічнай фірме “Бульба-рэкардз”, якая раней не вельмі звяртала ўвагу на беларускамоўных выканаўцаў. Песні з “Трох чарапах” пачалі “круціць” і тыя FM-радыёстанцыі, якіх небеспадстаўна абвінавачвалі ў ігнараванні айчыннай рок-музыкі... Вось што значыць — адчуванне камерцыйнай выгады ды магчымасці зарабіць на талентах, хоць сабе і мясцовых!

Часцяком даводзіцца бачыць беларускія “МАЗы” з рэкламай некаторых расійскіх гуртоў на борце. У ёй паведамляецца, што завод з’яўляецца спонсарам іх гастрольных тураў. Для чаго гэта робіцца — зразумела! Спадзяюцца, што спонсарства суседскіх “зорак” паспрыяе прасоўванню тавараў на Усход. Ды ў Беларусі прынята шматвектарная канцэпцыя міжнародных гандлёвых адносін...

Таму і хочацца пажадаць патэнцыйным спонсарам з МАЗа: укладвайце грошы ў рэкламную кампанію “сваіх “МАЗаў” ды “NRM” і ў Еўропе. Таму, што аўтамабілі і рок-музыка з Беларусі якасці — еўрапейскай!

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД “ЛіМа”

**У сераду на Макаёнка, 9, кіраўніцтва Беларускага тэлебачання дало прэс-канферэнцыю з нагоды пачатку дзеяння новай сеткі вяшчання. Асноўная змена — перанос па будніх днях выпуску навінаў з 19.00 на 18.00. Такім чынам на БТ спадзяюцца перацягнуць частку глядацкай аўдыторыі з расійскіх каналаў: калі фільм на Беларускім тэлебачанні толькі пачынаў ісці, то на ГРТ ці РТР была ўжо ягоная сярэдзіна, а ў 22.30—23.00 гледачы кладліся спаць. З лістапада на Беларускім тэлебачанні з’явіцца шэраг новых праграмаў. Напрыклад: “Сустрэча ў Траецкім” — інтэрв’ю з дзеячамі культуры. “Вялікі сняданак”, які будзе весці артыстка (беларускія чамусьці не знайшлі) Алена Якаўлева. Агляд прэсы і агляд міжнароднага жыцця “Свет і мы”. Дзве перадачы пра крымінал — “Крымінальнае дасье” і “Зона Х”. “Барахты з бухты” — гэта ўжо гумар. Цыкл тэленарысаў пад назвай “25 кадр”. Пра тэатральнае жыццё будзе распавядаць “Планета “Арт”. Закупленыя новыя мульт-серыялы для дзяцей “Уцёкі з Юпіцера”, “Крот і ягоныя сябры”, “Легенда пра Беласнежку”.**

**ВЫСТАВЫ**

**Нацыянальны мастацкі музей**

*Да 6 снежня* Беларускі фонд культуры разам з прадпрыемствам “Мінскрэстаўрацыя” прадстаўляюць калекцыю адноўленых абразоў 17-18 стагоддзяў. Выстава прысвячаецца 30-годдзю творчай дзейнасці вядомых рэстаўратараў Пятра Журбея і Аркадзя Шпунта.

**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва**

*Да 19 лістапада* — персанальная выстава Яўгена Харытоненкі (1920—1998). *Да 4 лістапада* — графічная выстава па матывах казак і народных паданняў Валерыя Славука.

**Галерэя візуальных мастацтваў “NOVA”**

*Ад 20 кастрычніка* — фотавыстава маладых майстроў “HOMO NOVUS”

**Мастацкая галерэя “LaSandr”**

*З 1 па 22 лістапада* — “Пакуль на Беларусі расце трава”, выстава жывапісу Уладзіміра Рынкевіча

**Музей гісторыі беларускай літаратуры**

Тут працуе выстава беларускага шкла. Усяго каля 500 экспанатаў з больш як дзесяці беларускіх музеяў — пацеркі, келіхі, пляшкі.

У музеі можна паглядзець і выставу нямецкага фотамастака Ахіма Вёльфінга пад назваю “Мінск. Горад і людзі”.

## У Доме літаратара

**15 лістапада, 15.00.** Пасяджэнне секцыі бюро крытыкі. Вылучэнне твораў на Літаратурную прэмію СБП.

**16 лістапада, 18.00.** Вялікая зала. Да 80-годдзя Андрэя Макаёнка.

**17 лістапада, 15.00.** Канферэнц-зала. Пасяджэнне бюро секцыі паэзіі.

**Да 20 лістапада.** Падвядзенне вынікаў Міжнароднага конкурсу вершаваных твораў.

**22 лістапада, 15.00.** Пасяджэнне секцыі драматургіі. Вылучэнне твораў на Літаратурную прэмію СБП.

**23 лістапада, 16.00.** Пасяджэнне прыёмнай камісіі.

**27 лістапада, 15.00.** Пасяджэнне секцыі прозы. Вылучэнне твораў на Літаратурную прэмію СБП.

**30 лістапада, 18.00.** Вялікая зала Да 70-годдзя Уладзіміра Караткевіча.



ПАРОДЫІ

## Павел САКОВІЧ

### *А сініца ўсё-такі лепш...*

Ластаўку як наглядаць —
То камп’ютэр нам сакрыты...
Столькі ў лёце мікрасхем,
Паваротаў, рыўкоў, рухаў.
Робат-геній не дачухаў
Да такіх да тэарэм.

**Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ**

*Магчыма, я ў душы паэт,*
*Але “ў натуры” — кібернетык:*
*Акібернечваю ўвесь свет —*
*Сучасным больш раблюся гэтак.*

*Мне факсы-шмаксы — толькі тлум,*
*Ды тэрмінаў багата знаю,*
*І з іх я ў электронны бум*
*Шмат вершаў новых настўараю.*

*Няхай ні кібер-жураўля,*
*Ні ластаўкі такой не маю,*
*Але ў руцэ сініцу я*
*Надзейна і даўно трымаю.*

### *Люблю, цалую Манрэаль!*

Манрэаль ты мой, Манрэаль,
Я сумую па Манрэалю.
Манрэаль я, вядома, рэалю,
Крышталюю яго амаль.
І мілую, як ломкі крышталь,
І цалую, і любасцю меру...

**Алег ЛОЙКА**

*Я сумаваць па ім пачаў*
*І нават, часам, манрэаліць.*
*Мне ён адзіны сініца стаў,*
*Аб ім адзіным мушу марыць.*

*О каб мне Бог магчымасць даў*
*Пабыць шчэ раз у Манрэалі!*
*Я на візіт бы прамяняў*
*Палову ўсіх сваіх рэгалій.*

*Сябе на думцы ўсё ж лаўлю,*
*Што грошай гэтакіх не маю...*
*Я Манрэалю факс пашлю:*
*”Люблю, цалую, абдымаю!”*

## Марцін КОЎЗКІ

### Доля праўды

— Мяняем каардынаты, — абвясцілі квадраты. — Покнула папруга ў квадратуры круга. Развальваецца садружнасць, не ўпісваемся ў акружнасць.

●

Ганім саматужную спірта-гарэлачную вытворчасць, а “Сталічную” ў Брэсце выпускаюць без помніка Леніну на фоне Дома ўрада. Цвярозы ж погляд на рэчы.

●

Салдата прывезлі з-за мяжы. У цынкавай дамавіне салдат ляжыць. Па камандзе “смірна” ляжыць салдат, бы шчэ выконвае нечы загад.

●

“Не верце кошцы, недарэкі, нават калі яна з Мекі” (лезгінскае выслоўе).


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 2.11.2000 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 6812

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12